
М. КІРЭЕЎ. Мелодыя (алей, 1986).

# Маладосць

ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

5·89

(435) МАЙ

МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка








Вокладка М. Анемпадзістава.

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— А. Пашкевіч. Кветкі.

На шмуцтытуле публіцыстыкі— фота В. Ждановіча.






# Паэзія Проза



## *Юрась Свірка*

### НЕАПОШНЯЕ ВЯРТАННЕ

Здаецца, тут я цэлы век не быў.
Вядзе дамоў сцяжынка між таполяў,
Такія ж тэлефонныя слупы,
Такое ж неба і такое ж поле,

Як некалі, як у маленства час.
Ды на аселіцы ўжо не пасуцца коні.
Агонь начлежны назаўжды пагас,
І ручайком бяжыць рачулка Поня —

Сястра Бярозы, правая рука,
Яе прыток бярозава-крынічны,
Над лугам чутна песня жаўрука.
Пясок-сыпун там, дзе быў бор сунічны.

І дзеці ўжо не пазнаюць мяне.
Я блытаю, чые яны нашчадкі.
Іх «добры дзень» прыемна так кране,
Найлепшыя ў душы абудзіць згадкі.

І аднагодкі тройчы ўжо дзяды.
Без трох гадоў яны пенсіянеры.
Пра грозныя ваенныя гады
Расказваюць паважна піянерам.

Як добра мне дарогай той ісці,
Якой у горад правяла матуля.
Шкадую, мае словы пры жыцці
Не ўсе пяшчотай сынавай кранулі.

Любуюся радзімай стараной.
Калі і быў, дык толькі тут з удачай.
Прывыкнуць не магу, што тут не свой,
Дзе гэты свет перад вайной убачыў.

Нібы жывую, гладжу мураву,
На ўсе гады хачу тут нахадзіцца.
Няўжо да той пары я дажыву,
Калі мне родны кут і не прысніцца?

### З ФРАНТАВОЙ КІНАХРОНІКІ

Канец вайне, канец вайне
Другой сусветнай!
Зноў усміхнуліся вясне
Усе прыветна.

Усе, хто жыць застаўся, жыць
І тут і дома.
Так захацелася душы
Кружыць да стомы.

За Эльбай нейкі гарадок
Квітнее бэзам.
Гучыць і жаліцца вальсок,
А не жалеза.

Не чутна выбухаў гармат.
Міргаюць вейкі.
Наш кучаравы лейтэнант
Танцуе з немкай.

З яе не зводзіць ён вачэй.
Як закаханы!
Кружы, вальсок, кружы хутчэй,
Хоць ныюць раны.

І хмеліць бэзавы агонь
Суквеццем гронак.
Рука ў руцэ. Яе далонь,
Як пяць патронаў.

Яна паглядам паласне:
«Так не глядзіце!»
Не заваёўнік ён, о не!
Ён — вызваліцель.

Ён праз агонь ішоў сюды —
Не па дарожцы.
Як Перамога, малады
Ён, пераможца...

Канец вайне, канец вайне!
І ў гуле грому
Гучаў вальсок і бэз квітнеў
І там, і дома.



### ДЗЕЦІ

Ім убівалі, што Радзіма
Не ў мілым вобліку зары,
Што іх сябры — не Танька з Дзімам,
А там, далёка, іх сябры.

Навучвалі: «Там вашы выслі,
Зямля там лепшая і лад».
Навучвалі, каб адракліся
Ад нашых песень і балад...

Навошта так пра нашы далі,
Пра нашы песні і зямлю?
Мы іх у бітвах адстаялі,
І вы шапталі ім «люблю».

Няўжо бацькам іх усё роўна,
Дзе дажываць свае гады?
Край для дзяцей
Савецкі — родны,
Той, дзе не ведаюць бяды.

Вы дзецям паглядзіце ў вочы —
У іх і сум, і боль, і жах.
Панура за бацькамі крочаць.
Адчай запёкся ў іх слязах.

Ніхто з суседзяў не праводзіць.
Прайшлі па лесвіцы цішком.
Нібыта на той свет сыходзяць,
Дзе не чутны ні смех, ні гром.

Сярод смуглявых, белых, русых
Якое шчасце звекаваць!
Вы ж іх вывозіце прымусам
У рай хвалёны... паміраць.

*1980 г.*

### ПАСЛУХАЙ ГОЛАС ТОЙ ЗЯМЛІ

Карэнне слова ў матчынай душы,
А сэрца слова — у душы народа.
Калі ты не адчуў іх — не пішы:
Ты ім чужы, не іхняга ты роду.

Паслухай голас той зямлі спярша,
Калі, сагрэты, пройдзе ён праз сэрца.
Устрапянецца матчына душа,
І ў ёй душа народа адгукнецца.

### ЁСЦЬ МАТЧЫНА ЛЮБОЎ

Ёсць матчына любоў,
Яе не зблытай
З ніякай, бо няма нідзе такой —
Пяшчотнай, бескарыслівай, адкрытай.
Шчаслівы ты, пакуль яна з табой.

Ёсць матчына любоў.
Яна будзіла
На золку, каб радоўку не праспаць.
І невядома мне, якая сіла
Магла з пасцелі цёплай падымаць.

Ёсць матчына любоў.
З ёй забываеш
І крыўду, і бяду, і гузакі.
Яе цяпло да скону адчуваеш,
Як дотык добрай матчынай рукі.

Ёсць матчына любоў.
Яна спрадвеку
Была, як спадарожніца жыцця.
Ці прыгажун ты будзеш, ці калека —
Ты для яе — любімае дзіця.

Ёсць матчына любоў.
Яна ж умее
Сваіх дзяцей на подзвіг бласлаўляць,
І на вяртанне берагчы надзею,
І не стамляцца ўсё жыццё чакаць.

Ёсць матчына любоў.
Ты ёй аддзячыш.
Яна табе душу ўсю аддае.
З дзявочаю, мужчынскай і дзіцячай
Ніколі ты не зблытаеш яе.

Ёсць матчына любоў.
Яна нам свеціць
І ў блізкай, і ў далёкай старане.
І колькі б я ні жыў на гэтым свеце,
Любі адною — матчынай! — мяне.

### ДЫЯЛОГ У ЭЛЕКТРЫЧЦЫ

Аклікнуў ён: «Здарова, Каця!
І сапраўды, гара з гарою...
Да маці еду я, да маці...
Сустрэча рэдкая з табою».

«Ты раскажы, як там Марыся,
Як ваш сынок, як ваша дача»...
«Марыся?.. Мы з ёй разышліся.
Яна з сынком, а я — вось бачыш...»

Не вельмі каб і слёзным тонам
Сказала ціха, каб не чулі:
«І я ўжо не жыву з Антонам.
З Міколкам едзем да бабулі...»

Расказваў штосьці ён маломү,
Абняўшы хлопчыка за плечы.
Здавалася, што зноў ён дома,
Дзе весела сынок шчабеча.

Малы залівіста смяецца.
На маці глянуў вінавата,
Бо два разы ўжо ён, здаецца,
Назваў чужога дзядзю татам.

А той расказвае прачула.
І не хінецца сын да мамы.
І ён, каб маці не пачула,
Шапнуў: «Паедзем, дзядзя, з намі».

Дарога зблізіла знянацку,
І электрычка заўважала,
Як не хапала сыну бацькі,
А бацьку — сына не хапала.

■

Чакаюць так кветкі вясною святла.
І сэрца маё зашчымела тугою.
Здалося так мне, ты ў натоўпе прайшла,
І я наўздагонку пабег за табою.

Такая ж паходка, усмешка — твая.
Упэўнены быў, што не мог памыліцца.
Прыгожая, верная, думаў так я,
Магла не пазнаць, абмінуць, зажурыцца...

Здзіўляліся людзі: куды ён, куды?
«Спыніся,— прасіў я.— Куды так спяшацца?»
Нібыта ўцякаў ад назолы-бяды,
Нібы даганяў сваё лепшае шчасце.

Дагнаў і хацеў дакрануцца рукі,
Ды позірк мяне адпіхнуў незнаёмы:
«Адкуль жа бяруцца яшчэ дзівакі?
Набраўся, дык ціха пляціся дадому...»

Разгублены быў я спатканнем такім.
Сустрэў не цябе, але твар мой свяціўся.
«Я згодны, што імем назваў не тваім,
А ў тым, што красуня ты —
не памыліўся».

## КОНЬ БЯЖЫЦЬ

Конь бяжыць. І адкуль ён узяўся такі,
Нібы з казкі дзіцячай, займальнай.
Побач стрэлка чыгункі і стрэлка ракі,
Што канавай блішчыць асушальнай.

Несвядома куды ён па лузе бяжыць,
Непадкуты і неасядланы.
Пад ім сцелюцца травы,
Зямля не дрыжыць.
Не бяжыць — а плыве ён, буланы.

Капытамі зямлю не кранае зусім.
Неаб'езджаны, быстры, пудлівы.
Нават быстраму ветру не ўгнацца за ім:
Не ўхапіцца за шорсткую грыву.

Немагчыма яго, маладога, стрымаць,
Над канавай імчыцца да лесу...
І нікога не думае ён абганяць,
Не баіцца адстаць ад прагрэсу.

Не адчуў яшчэ дотыку шпор і падкоў,
Не стаяў у агаблях ніколі.
Проста рад ён жыццю і прасторы лугоў,
Раскаванаму бегу і волі.





## *Кастусь Ільюшчыц*

## ПАПЕР'Е

— Куды вы?..
— Па пер'е, па пер'е...
Пад пахі — пустыя мяхі,
Птушынае месца — Папер'е,—
Ад пуху бялеюць імхі.

Калісьці жанчыны падушкі
Збіралі дачкам у пасаг,—
І спалася мулка і душна
На іх без зямлі і пасад.

У пошуках сонечных вёснаў,
Заробку і светлых хацін
Вяскоўцы за тысячы вёрстаў
З'язджалі ад родных мясцін.

Ім снілася росная траўка
І луг, дзе імжыстай парой
Дарыла на шчасце жураўка
Сваё залатое пяро...

Не бегаюць болей па пер'е
Дзяўчаты на луг за ракой.
Папер'е... Папер'е... Папер'е...
Світае ад пуху вакол...

## У АДПАЧЫНКУ

На міг прыціхне бор зялёны —
Мой добры гаманкі сябрук.
Ўжо соты раз матыў знаёмы
Выводзіць радасна жаўрук.

У цішыні лясной паляны,
Дзе даспявае зверабой,
Звалюся ў травы, абстраляны
Нявіннай дзятлавай пальбой.

Плывуць, як ветразі, аблокі
Пад ветрам свежым, маладым...
Мне б сном салодкім і глыбокім
Хоць раз заснуць у лесе тым,

Дзе цішыня забрана дротам,
Дзе не сціхае палігон...
Там спіць на цёплых танках рота,
Шчаку схіліўшы на пагон.

## САЛДАЦКІЯ ТУРБОТЫ

У салдата турботы.
Па статуту — адны:
Былі б спраўныя боты
І глыбокія сны.

І шынель быў не цесны,
І бліндаж пацяплей,
Ды паходныя песні,
Каб ісці весялей.

І далёкага дома
Красавалі сады,
І паходная стома
Была лёгкай заўжды.

Каб нервовы і вечны
Свет не ведаў трывог,
Прадчуваннем сустрэчы
Жыў бацькоўскі парог.

## ЗЯЛЁНАЕ СОНЦА

Завітае вясна у лясы —
І прагалін
Блішчаць паясы...

Заманіла мяне
Такавішча.
Там
Спрабуе вясна галасы
І на досвітку
Крыллямі свішча.

Там
Сасоннік глядзіць угару,
Там
Бярэзнік чакае зару
І з-пад ног —
Траў нясмелыя промні...

Я запомніў цябе,
Беларусь,
На зялёнае сонца
Падобнай!

## КРУГАЗВАРОТ

Даспела сонца і ў нядзелю
Упала дыняю за бор,
Дзе пчолы страцілі надзею
На верасовы медазбор.

Як вожык пад сухой лістотай,
Шасціць пагорак дубняком,
Гуляе промнямі зіхотна
Луг прамянёвы за сялом.

І вось здаля прыходзіць восень,
Дыміцца сонная вярба,
Удзень гарыць нябёсаў просінь,
А ноччу — зорная сяўба.

За рэчкай скошана атава,
Заледзянелі туманы...
Зіма наводзіць пераправу —
У госці ехаць да вясны.





*Упершыню ў „Маладосці"*

*Стах Дзедзіч*

АПАВЯДАННІ

# ЧУЖЫ

Вечарэла. Сонца ўжо амаль схавалася за камяніцамі, змрок паступова ахутваў стары парк, пустыя прысады былі ўжо зусім цёмныя і непрытульныя. Юрась сядзеў на лаўцы ў сваім любімым куточку, у самай гушчэчы, адасоблены ад рэдкіх вечаровых парачак шчыльнай зелянінай кустоў, але нават тут ніяк не мог засяродзіцца і застацца сам-насам з сабой. У галаве таўкліся думкі, словы, асобныя сказы, нараджаліся здані-прывіды. Здані рухаліся, мітусіліся, не давалі ні хвіліны спакою. Так цягнулася ўжо колькі дзён, ён усё ніяк не знаходзіў сабе месца, пачуццё нечага цяжкога і незразумелага каменем ляжала на душы; Юрась быў зусім хворы, але не хацеў думаць пра гэта. Усё цела было нібы ватнае, дрэнна слухаліся рукі, то бязважкія, то, наадварот, як волавам налітыя, толькі што не было гарачкі. На працы ўсё валілася з рук, ён не адзін раз лавіў на сабе злыя позіркі супрацоўнікаў, але нічога не хацелася тлумачыць. Ад хваробы Юрась адчуваў сябе ніякавата, быццам нешта вінны і не хоча аддаваць, але ніяк не мог даць ёй рады; хвароба то адпускала крыху, тады Юрась з палёгкай уздыхаў, то зноў круціла і ламала яго.

Усё пачалося год таму назад, калі Юрась па размеркаванню прыехаў у гэта чужое і дзіўнае месца. Горад сустрэў яго вакзальнай мітуснёй, незразумелай і бессэнсоўна-стракатай рэкламай на прывакзальным пляцы, спякотным сонцам і шызым, поўным пахаў бензіну і машын паветрам. Ён выйшаў з цягніка, насцярожана і недаверліва агледзеўся — зараз яму тут жыць. Горад звонку спадабаўся — новы, акуратны, не хапала толькі звычайнай у новым месцы экзотыкі. Не было незнаёмай мовы — яна засталася толькі на шыльдачках з нязвыклымі і прыгожымі назвамі вуліц ды ў пявучай і мяккай гаворцы старых жанчын, сярод аднолькавых шэра-шкляных гмахаў згубіўся няўлоўны дух, што робіць горад горадам.

Першы агляд задаволіў, Юрась з палёгкай уздыхнуў, падхапіў валізкі і пацягнуўся разам з натоўпам шукаць прытулку.

На працы сустрэлі яго з цікаўнасцю, дрэнна схаванай пад маскай абыякавасці. Юрась усё добра адчуваў, але рабіў выгляд, нібыта так і трэба. Патроху да яго прызвычаіліся, пазнаёміліся, цікаўнасць сапраўды зрабілася абыякавасцю. Працы ў кожнага хапала, так што гэтая абыякавасць бы-

Мал. **А. Радзівонава.**

 

ла яму на руку. Працавалася добра, усё атрымлівалася памысна, таму, калі начальства раптам згадвала аб яго існаванні, Юрась нават з унутранай асалодай тлумачыў, чым займаецца. Начальства велікадушна выслухоўвала яго, і ён вяртаўся да штодзённай працы.

Паціху, самотна і непрыкметна, надышла сапраўдная восень — нязвыклая, халодная, з дажджамі і слотай. Туманы тыднямі віселі над горадам і прыгняталі Юрася. Здавалася, туман нават у пакоі, усё рабілася невыразнае і размытае, вільготнае паветра непрыемна асядала на твар; у тумане губляліся вуліцы, дамы, нават у натоўпе ты заставаўся сам-насам з сабой. Юрась усё жыццё ведаў восень іншай — залатой, вясёлай і сонечнай, а зараз нават тубыльцы крывіліся на надвор'е, з сумам згадвалі лета і спёку. Доўга не было лістоў з дому; Юрась вастрэй адчуваў сваю непатрэбнасць — у гэтым затуманеным свеце без яго нічога не змянілася б, не сышло б са сваіх месцаў. Зараз ён зусім не мог працаваць, такімі днямі вярталася першае, яшчэ вакзальнае, успрынясце горада, чужога жыцця. Здавалася, ён не можа зразумець нейкай дробязі, нішчымніцы, і таму горад, людзі заставаліся адасобленыя, са сваім, патаемным, жыццём, думкамі. Гэта злавала і бянтэжыла Юрася. Нават у хаце — яму даводзілася наймаць пакой, бо інтэрнат, як абяцалі пры размеркаванні, не далі — усё было чужое. Сусед па пакоі, вясковы хлапец, які прыехаў у горад толькі таму, што гэта быў горад, часта працаваў у другой змене, вяртаўся позна, Юрась альбо ўжо спаў, альбо што-небудзь чытаў, так што размова не клеілася. На выхадныя сусед з'язджаў дадому ці цэлымі днямі валяўся ў ложку і глядзеў тэлевізію; такімі днямі Юрась звычайна збіраўся і ішоў паблукаць па горадзе — ён нагледзеў сабе ўтульныя закутачкі, дзе мог гадзінамі сядзець у задуменні. Каб хто спытаў, што ён думае гэтымі хвілінамі, Юрась не здолеў бы адказаць — так бывае, нейкія вобразы, мары паўстаюць у галаве, а паспрабуеш злавіць нешта пэўнае, канкрэтнае — усё знікае, застаецца толькі падсвядомае адчуванне нечага пяшчотнага і светлага, як першы матчын пацалунак. Часам сілы вярталіся да яго, ён нават прымушаў сябе ўзяць у рукі кнігу, папрацаваць, але гэта не давала асалоды.



На працы Юрась за год так і не здолеў ні з кім пасябраваць, адно сышоўся крыху бліжэй з сім-тым. Яго заўжды лічылі за чалавека з гонарам, дый характар у Юрася быў не просты, так што людзі з неахвотай ішлі з ім на шчырасць. Ён надта не дзівіўся гэтаму, бо нават ва універсітэце, дзе ўжо за пяць год за адным сталом можна разабрацца ў чалавеку, Юрась адчуваў сябе катом, што блукае сам па сабе, хаця ніколі не цураўся ні вясёлых сябрын, ні раптоўных імпрэзаў. Ён пагадзіўся з такой адчужанасцю — затое ніхто не вымагаў ягоных споведзяў. Тым больш Юрась цаніў сваіх нешматлікіх сапраўдных сяброў; часам яны збіраліся на сумоўе, з духмянай гарбатай, куды для асаблівага смаку кідалі колькі красак, паразмаўляць і памарыць не аб будзённым і звычайным. У такія хвіліны ён быў амаль шчаслівы. Няхай не ўсё, што ён думаў, але яго разумелі, разумеў і ён іншых. Але ўсё засталося там, дома, а лісты ніяк не маглі перадаць усяго, што хацелася, — у іх заставалася толькі бледная, пазбаўленая пахаў і колераў ідэя. А яму зараз не хапала менавіта таго, што Вярнадскі называў наасферай — адчування непарушнай, цэласнай плыні чалавечых думак, памкненняў, жаданняў, адчування знітаванасці з усім Сусветам. Людзі і да нас жылі, марылі, працавалі. Яны памерлі, але пасля іх засталіся сляды;





нават нематэрыяльныя, іх падсвядома бачыш і адчуваеш. Аднойчы, яшчэ ў маленстве, бацька павёз Юрася на сваю радзіму. Была ранняя вясна, дзьмуў халодны пранізлівы вецер, Юрась змёрз, як цуцык. Яны доўга ішлі ад аўтобуса некуды пад гару, Юрась раззлаваўся — цягнуць невядома куды. Нарэшце бацька, які ішоў наперадзе, спыніўся, Юрась падышоў і стаў за ягонай спінай. Бацька не азірнуўся, спакойна пачаў: «Тут некалі жылі мае дзяды...» — і ягоныя словы для Юрася ажылі, набылі плоць і кроў. Пазней,



 

ужо свядомы, ён любіў хадзіць па старых кварталах, пільна ўзірацца ў тонкую блытаніну аконных пераплётаў, любіў выйсці на стромы бераг ракі, адкуль адкрывалася неабсяжная далячынь з беласнежнымі новымі кварталамі на другім беразе. На гэтых вулках, калі сціхалі машыны, яму чуліся няспешныя крокі размаітага натоўпу, цокалі па бруку конскія капыты; жыццё было напоўненым і нечага вартым. Але толькі ўжо ў гэтым горадзе Юрась зразумеў: паўната жыцця не ў каменні, няхай і старым, а ў людзях, якія павінны памятаць, хто клаў гэта каменне. Тут гэтай памяці не было, Юрась адчуваў наўкола пустэчу, якую ніяк нельга было запоўніць; адчуванне ўвесь час не давала спакою, выклікала пачуццё нейкай ненармальнасці.



Зусім сцямнела. Юрась падняўся з лаўкі, узяў сваю торбу — час ехаць. Ад рэзкага руху ў страўніку перавярнула, непрыемны камяк падкаціў пад самае горла. Ён стрымаўся, каб не званітавала, і, пахіснуўшыся, нібы п'яны, пацягнуўся да бліжэйшай стаянкі таксі.

Па дарозе да аэрапорта яму было зусім дрэнна. Мроілася ў галаве, усё кружылася перад вачыма, хвалямі наплывала млоснасць. Ён, бадай, не ўсведамляў, што робіць, у нейкім запале ўсё выцягваў тэлеграму, што атрымаў яшчэ апоўдні, спрабаваў прачытаць яе невідушчымі вачыма. Тэлеграма была кароценькая, ён ведаў яе на памяць: «Памерла бабуля Калі можаш прыязджай». Каб не хвароба, ён, напэўна, вагаўся б, але зараз, з запаленай галавой, пазваніў у аддзел, нешта незразумела-гарачае тлумачыў у трубку, пакуль на тым канцы не згадзіліся. Сам сабе ён адразу прызнаўся, што не так хацеў паспець на хаўтуры, як убачыць родную хату, крэўных, забыцца на глухую каменную сцяну, што з кожным днём усё вышэй і вышэй расла вакол яго. Яна з'явілася пасля недарэчнай спрэчкі ў аддзеле. Нехта — так потым і не дазналіся хто — прынёс газету з чарговым пасквілем на «нефармальных нацыяналістаў», аддзельскія «аўтарытэты» з местачковым апломбам кінуліся перамываць косткі. Юрась тады не стрымаўся — згадалася пявучая і мяккая мова бабулек, пыха і здзек інтэлектуалаў ад стайні. Зараз ён шкадаваў, што палез са сваім статутам, хаця не, шкадаваў не тое, яму было крыўдна, што яго не зразумелі, пабаяліся ці не захацелі зразумець. Ён тады паспрабаваў растлумачыць усім сваё расчараванне ад першай сустрэчы з горадам, спытаць у тых, хто нарадзіўся і вырас на гэтай зямлі, як можна жыць без адчування паяднанасці з усім, што было да іх? Юрась казаў і бачыў у вачах шкадаванне, як да благога ці малога дзіцяці, але спыніцца не здолеў: «Вы мяне не разумееце? Няхай! Але не крыўдуйце, калі вашы нашчадкі (менавіта вашыя, а не мае дзеці — мае ўсё жыццё будуць дзецьмі прыблуды) не даруюць шмат з таго, што зроблена за вашай памяццю і з вашай маўклівай згоды. Перад імі ў вас не будзе апраўдання».

Усё было быццам карэктна, без асобнікаў у пэўны бок, а спрэчка адразу згасла. Юрасю нічога не забылі. Праз дзень яго выклікаў да сябе начальнік аддзела, доўга і суха, чужымі словамі нагадваў, чым павінен і не павінен займацца малады адумысловец. Калі афіцыйная частка скончылася, іншым, чалавечым тонам пацікавіўся, што робіць Юрась у вольную часіну, якія ў яго праблемы, амаль па-бацькоўску паўшчуваў за ўчарашнюю спрэчку. За гэтай шчырасцю і добразычлівасцю хавалася пагроза:



«Ну нашто табе продкі? Яны ж ужо ўсё, спарахнелі. Не турбуй ты ні іх, ні сябе!»

Юрась адчуваў сябе як памаўзлівы кот, якому прыгразілі пальцам і паабяцалі не даць увечары малака. У калідоры Юрася пацягнула да акна. Ён падышоў, дакрануўся гарачым ілбом да шкла; за акном церусіў дождж, шкло прыемна халадзіла твар, сасмяглыя вусны. Юрась стаяў доўга, покуль не супакоіўся, паглядаў на лужыны, усе ў рабацінні ад дробных кропель, на парасоны, што ратавалі людзей ад дажджу. Чамусьці тоненькая абалонка парасонаў нават у гэтай макрэчы давала адчуванне ўтульнасці і бяспекі, падстаўовасці твайго існавання.

Размова была зранку, але ўвесь дзень Юрась лавіў на сабе здзеклівыя позіркі: «Ну што, абабілі рогі?», таму непрыемны астой на душы не разыходзіўся, наадварот, пачуццё нечага цяжкага ўсё мацнела. Нават Кастусь, які больш за іншых разумеў Юрася і з якім Юрась часам мог паразмаўляць па душах, у абед падышоў да яго, спачувальна пастаяў ля стала: «Не трэба было гэтага рабіць. Цябе пакусаюць. Ты яшчэ вельмі дрэнна ўсіх ведаеш». Юрась сутаргава сціснуў кулакі, памкнуўся ўскочыць з крэсла, але стрымаўся. За якое імгненне ў галаве прамільгнуў цэлы рой думак, іх было столькі, што Юрасю здалося, быццам час расцягнуўся да бясконцасці, усё спынілася і замерла, існаваў, дыхаў, думаў толькі ён. За гэтае бясконцае імгненне ён паспеў супакоіцца, узяць сябе ў рукі. Усё наноў ажыло, заварушылася, ён з пачуццём прыкрай перавагі (ён вельмі хацеў зараз быць няслушны!) адчуваў напружаную ўвагу да размовы. Юрась яшчэ крыху памарудзіў, падбіраючы словы, ціха і спакойна адказаў да ўсіх: «Няхай, жыццё пакажа, што і як!» Агульнае расчараванне подыхам прашапацела над сталамі. Кастусь нічога не сказаў, павярнуўся і выйшаў за дзверы.

Увечары Юрась вырашыў крыху прайсціся, адразу дахаты ехаць не хацелася. На вуліцы пасвяжэла, рэзкімі парывамі дзьмуў халодны вецер, кідаў дробны вадзяны пыл у твар, за каўнер. Было непрытульна і брыдка, але Юрась, бадай што, і не адчуваў гэтага. У прыцемках здавалася, што ўвесь горад ажыў. Сям-там у вокнах запаліліся лямпачкі, і зараз жоўтыя вочы сачылі за Юрасём. Пад парывам ветру гайдаліся нават хмарачосы, і гэта вібрацыя магутнымі інфрагукамі запаўняла вуліцу, прыгняталa чалавека. Машыны замест крыві пульсавалі па пуцяправодах-артэрыях, тэлефонныя слупы перадавалі апошнія навіны па дратах-нервах. Ён ішоў і амаль фізічна адчуваў, як каменныя грамады ўсё шчыльней і шчыльней атачалі яго; Юрасю здалося, што ён разумее іх зласлівы і пагрозлівы шэпт. Камяніцы выдзіралі падмуркі-ногі з зямлі, нетаропка збліжаліся, заціскалі яго між дзвюма сценамі, зусім побач з абыякавымі машынамі, якія імчалі па шырокіх асфальтавых стужках. Ліхтароў яшчэ не запалілі, і машыны ішлі з фарамі; дзве жмені святла, нібыта дзіды, пратыкалі цемрадзь. Да Юрася вярнулася адчуванне застыласці ўсяго навакольнага; удалечыні машыны ляцелі імкліва, а каля яго паўзлі марудна, нібы мурашкі, і толькі гэтая скамянеласць яшчэ дазваляла яму вырвацца, знайсці бяспечны шлях. Юрась амаль аўтаматычна збочыў у вузкі цёмны завулак, дакладней, проста праход між двума заводскімі мурамі. Гэты завулак кароткім шляхам вёў дахаты. Цемрадзь на хвіліну працверазіла распаленую галаву, ён выцер спацелы лоб, падбадзёрыў сябе і весялей пакрочыў наперад. Юрась не любіў гэтай дарогі — тут нідзе ні дрэўца, ні травінкі, і зверху над усім — хмара шызага паветра заводскай ліцейкі. Тут заўжды было пустынна, і чалавек здаваўся недарэчным і лішнім. Нешта падобнае Юрась адчуваў у Ленінградзе, на вуліцы дойліда Росі. Камень і асфальт. Нічога бо-

лей. Але там усё ажыўляла архітэктура — у ёй быў чалавек, ягоныя рукі, думкі, памкненні. А тут просты мур нейкага брудна-няпэўнага колеру, цяжкія заводскія подыхі за ім; зараз усё ўвогуле было чорнае, і толькі барвовыя водбліскі з цэхаў рассейвалі гэтую чарнату.

Юрась прайшоў ужо да паловы завулка, як адначасова ўперадзе і ззаду цяжка зараўлі рухавікі. Гук мацнеў, пасільваўся, шматразовым рэхам адбіваўся ад сцен, усё набліжаўся і набліжаўся, уціскаў яго ў камень. Жахі, што на які час адступіліся, зноў апанавалі Юрася, яму здалося, што горад знайшоў-такі зручнае месца паквітацца з ім за абразу сваіх падданых, і вось гэтыя машыны воляй горада мусяць забіць яго. Юрась не вытрымаў, некуды наўслеп пабег, а гул мацнеў і мацнеў, вось ужо фары выхапілі ягоную постаць з цемры, чалавечы цень на асфальце мітусліва махаў рукамі, яшчэ імгненне — і ўсё будзе скончана, ён шукае хаця якой шчыліны схавацца, знікнуць, інстынктыўна спрабуе прыкрыць рукамі хаця галаву, але велічэзныя, самы вялікі ў ягоным жыцці, цягач праносіцца побач, насустрач другі, трэці, і чырвоныя агеньчыкі іхніх стоп-сігналаў імкліва аддаляюцца. Яшчэ праз хвіліну застаўся толькі куродым рухавікоў.

Ля дзвярэй Юрась доўга корпаўся, ніяк не мог трапіць ключом у замок, бо дрыжалі рукі. За дзвярыма было пачуццё ўтульнасці і бяспекі, ён дацягнуўся да пакоя і без сілы рухнуў у фатэль. Святло вулічнай рэкламы трапляла ў акно, у ім можна было разгледзець прывідныя абрысы рэчаў. У кватэры нікога не было — сусед на працы, гаспадары таксама некуды пайшлі; знізу даносілася прыемная незнаёмая мелодыя, на кухні раз-пораз ледзь чутна падала кропля ў ракавіну. Юрась сабраўся з сіламі, пераадзеў кашулю — старая была зусім мокрая ад поту, — вобмацкам, бо не хацелася запальваць святло, напіўся ўзвару з ліпавым цветам і лёг у ложак. Ад усіх хваляванняў паднялася тэмпература, кружылася і балела галава, сон не браў. Юрась доўга круціўся ў ложку, мулялі бакі. Чарадой ішлі думкі пра сённяшні дзень, потым згадалася, што заўтра субота, не трэба ісці на працу. Гэта было прыемна, нечакана прынесла палёгку, ён павярнуўся на бок і ціха заснуў.



У аэрапорце яго ніхто не сустракаў. Юрась не здзівіўся — канечне, не да яго, дачакаўся ў багажы сваёй самаробнай кайстры і папраставаў да аўтобуснага прыпынку. Яму пашанцавала, трапілася месца каля акна; знаёмыя да драбнюткі, да апошняе рысы мясціны чарадзейным бальзамам гаілі душу, рабілі нішчымнымі і дробнымі ўсе ягоныя хваляванні. І, каб не тэлеграма ў кішэні, магло здацца, што ў гэтым свеце ёсць толькі добрыя фарбы.

Бацькоўскі падворак сустрэў яго адчужанай пустэльнасцю, хоць хата была поўная суровай і маўклівай бегатні. Труну ўжо збіраліся выносіць, катафалк стаяў ля ганка, белыя пялёсткі ружаў каберцам пакрывалі зямлю.

Ехаць было далекавата ад горада, бабуля наказвала пахаваць сябе на радзіме, побач з маці і бацькам.

— Зараз вы гэта не разумееце, думаеце, капрыз. Але надыдзе час — і вам не спатрэбіцца тлумачыць, чаму менавіта там. Там не толькі мае бацькі. Там і амаль усе вашы продкі. І вы заўжды здолееце прыйсці да нас, параіцца, пасядзець. І ўнукі вашы тое ж здолеюць. Трэба, каб так было заўжды.







Юрась слухаў бацьку і быццам бачыў усё на свае вочы: расчыненае акно на ўсю сцяну (бабуля заўжды любіла святло), у садзе спяваюць птушкі, пад коўдрай лёгенькае, ссохлае цела. Бацька, калі пераказваў усё, не мог стрымаць слёз: яны па-здрадніцку скочваліся па шчацэ і блыталіся ў густой барадзе, у якой Юрась заўважыў першыя прыкметы сівізны. Гэта адкрыццё было для яго нечаканасцю.

— Ведаеш, яна, напэўна, мела рацыю, — і бацька пайшоў спраўдзіць, ці ўсё гатова.

«Гэта першы раз я бачу, як плача бацька».

Юрась стаяў на верандзе, глядзеў на двор, па-ранейшаму пусты, бачыў смутную далячынь. Усё роднае, знаёмае — у сэрцы тужліва зашчымела, захацелася кінуць усё на свеце, назаўжды вярнуцца сюды.

На могілкі паехала шмат людзей, усе паныла стаялі ля дамавіны, нягучна і на дзіва далікатна гралі музыкі; усе падыходзілі на хвіліну, каб апошні раз зірнуць нябожчыцы ў твар, развітацца — і адыходзіліся. Далакопы разбіраліся з адным з дзядзькоў — за камяністую зямлю прасілі накінуць. Іх абыякавыя і таму ў гэты момант нахабныя галасы збянтэжылі Юрася сваёй ненатуральнасцю і недарэчнасцю, але ён нічога не стаў казаць. Труну закрылі цяжкім векам, на вяроўках апусцілі ўніз, засыпалі зямлёй. На магілцы паставілі драўляны слупок з надпісам, прытапталі, акуратна абклалі вянкамі.

Ніхто не разыходзіўся. Бацька, як старэйшы ў родзе, узяў слова, яшчэ раз памянуў не толькі дзеда і прадзеда, але і іх дзядоў і прадзедаў. Гэта была традыцыя, Юрась ужо не раз прысутнічаў на рытуале і ведаў, калі яму давядзецца весці рэй, ён ні на крок не адступіцца ад яе, адзінае, што толькі дапоўніць спіс продкаў і добрых спраў. Ён згадаў вычытанае ў нейкай кнізе, што палінезійцы на памяць ведаюць свой радавод на дваццаць каленаў і могуць распавесці біяграфію любога продка, няхай ён герой альбо нават бог. Юрась паспрабаваў уявіць сабе дваццаць пакаленняў, але не здолеў — апошнія губляліся недзе за поземам. Гэты ланцуг за небакрай зараз набыў для яго сэнс сімвала, сімвала ўсяго, што згубіла занадта рацыянальная еўрапейская цывілізацыя.

Уночы спалася дрэнна, зранку ён прачнуўся зусім разбіты. Вярнуўся жахлівы сон, які раней Юрась бачыў амаль штоночы. Неяк увесну ўсім аддзелам яны выбраліся ў лес. Юрась дагэтуль у лес трапляў пару разоў, а каб увесну, ды яшчэ грыбы збіраць — гэтага зусім не ўяўляў. Таму ён проста хадзіў па лесе, паглядаў на высачэзныя бронзавыя ствалы, дакранаўся да іх рукамі, расціраў паміж пальцамі застылую жывіцу, каб адчуць яе тонкі пах. Ён усё баяўся заблудзіць, не адыходзіў далёка ад аўтобуса, а калі трапіў на буралом, вельмі здзівіўся. Бярвенне, быццам нейкім волатам зламанае папалам, расшчапанае ад вяршыні да камля, велічэзныя выкаратні з зямлёй і карэннем. І галоўнае, там, дзе хоць адзін корань заставаўся ў зямлі альбо ўцалела хоць адна галінка, упарта цягнуўся да сонца зялёны ліст. Вось гэты буралом і сніўся Юрасю. Сон заўжды пачынаўся аднолькава: ён ідзе па незвычайным лесе, нерухомыя гладкія ствалы да неба, на зямлі толькі сухія рудыя іголкі, сям-там чэзлая травінка. І варта было яму дакрануцца хоць да аднаго дрэва, як яно, пахіснуўшыся, марудна падала на зямлю, чапляла голлем іншыя, цягнула іх за сабой. Так доўжылася колькі бясконцых імгненняў, потым усё сціхала і, наколькі хапала вока, наўкола былі толькі паваленыя дрэвы, дрэвы, дрэвы ды крумкачы над хаосам і разбурэннем. І ў кожным сне паўтаралася адно і тое — Юрась падыходзіў бліжэй і не знаходзіў ніякіх каранёў, паўсюль толькі гладкія чыстыя зрэ-

зы, а на зямлі ніводнага пня. Быццам у дзіцячай гульні — нехта паўторкваў у зямлю цацачныя елачкі і хвойкі, толькі гіганцкіх памераў, а ён неасцярожна ўсё папсаваў. Потым дрэвы пачыналі варушыцца, ствалы танчэлі, ажывалі, ператвараліся ў гідкіх халодных змей, што адна за адной паўзлі некуды; заставалася толькі чорная зямля, сям-там заплямленая халоднай слізззю. Юрась усё адціраў рукі ад яе, але слізь цягнулася і цягнулася, чаплялася за вопратку, склейвала пальцы, рукі. Тут Юрась звычайна прачынаўся і ішоў мыцца — адчуванне слізкага і гідкага пасля сну заставалася на руках.

Снедалі ўсе разам. Юрась сядзеў за сталом, глядзеў на маці, бацьку, і яму страшэнна хацелася, каб дзень ніколі не канчаўся. І дзень сапраўды цягнуўся бясконца. Юрась абышоў усіх знаёмых, пахадзіў па вузкіх вулачках, зрабіў усе справы, а да самалёта ўсё яшчэ заставаўся час. Перад адыходам ён яшчэ раз зазірнуў у бабулін пакой. У ім нічога не змянілася, нават лекі ляжалі на зэдліку каля ложка. Святло з акна трапляла на карціну, што вісела сярод шматлікіх партрэтаў і фатаграфій на сцяне. Юрась падышоў бліжэй. Калісь даўно бабуля распавядала пра ягонага дзеда, што загінуў перад вайной (бабуля нават не ведала, дзе ён пахаваны). Гэту карціну дзед атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі, той ад свайго. А маляваў яе амаль два стагоддзі назад катаржанін, маляваў па памяці родны горад. На карціне ўсё было ў дзіўным ракурсе — напэўна, гэтак бачылася праз краты на акне. Пацямнелыя, невядома з чаго зробленыя фарбы амаль не захавалі колер, але Юрась усё адно ведаў, што намалявана на пабітай шашалем дошцы — абрысы касцёла, пляц з раскладзенымі вогнішчамі. Юрась ведаў — тое ж казала бабуля — у вогнішчы гарэлі летапісы, пісцовыя кнігі, гарэла гісторыя народа. Яшчэ ад далёкага катаржаніна, імя якога Юрась не мог згадаць, дайшла песня, дакладней, ад словаў застаўся адзін радок, нешта пра лісток вярбы, які несла вада, засталася сумная і журботная мелодыя. Ён пільней угледзеўся ў карціну, пад сонечнымі промнямі фарбы зрабіліся ярчэйшыя, і Юрасю здалося, што ён пазнаў касцёл, пазнаў пляц, ён ведаў нават месца, адкуль гэта ўсё было намалявана. Сюды ён трапіў надвячоркам, калі пасля працы надумаў прагуляцца. Юрась не памятаў чаго, але настрой быў задумны, ён ішоў, не разбіраючы дарогі. Спыніў яго спеў, які, нібы анёльскі, сплываў з нябёсаў. Ён агледзеўся — усё было такое, як на карціне, нават колер той самы — чырванаваты водбліск заходзячага сонца на цёмным фоне. Усё тое самае. Толькі зараз. Праз два стагоддзі...

У пакой зайшоў бацька, трэба было ўжо ехаць у аэрапорт. Пакуль Юрась стаяў у задуменні, сонца зрушылася, і карціна схавалася ў цяню. Яны выйшлі з пакоя, і час зноў зрабіўся цягучы, як гума.

Толькі высока над зямлёй Юрась зразумеў, што зрабіўся адзіным уладаром уласнага часу. Ён мог расцягнуць час да бясконцасці, мог, наадварот, прымусіць ляцець галопам. Вось зараз ён захацеў — людзі рухаюцца, як сонныя мухі, самалёт, як прыклееены, вісіць у небе. Юрась падумаў, што так ніколі не памрэ, не памруць ні сябры, ні ворагі, і зусім не ўзрадаваўся гэтаму.

Самалёт прыляцеў позна ўночы. Юрась дачакаўся аўтобуса, сеў ля акна і глядзеў на рэдкія прыдарожныя агеньчыкі, адзінокія ў попельнай чарнаце ночы. Усе спалі ў высокіх крэслах, а яму не хацелася, хаця ведаў, што зранку трэба на працу. Аўтобус уехаў у горад, Юрася перасмыкнула — згадаўся цёмны завулак, машына за спіной, мітуслівы цень.

На працы, быццам не прайшло колькі дзён, усё было як звычайна, нічога не змянілася. Спякотнае паветра праз расчыненае акно лілося ў пакой; з вентыляцыйнай шахты часам даносіліся пахі сталовай унізе. Юрася выслухалі з паблажлівымі ўсмешкамі: «Адышла пакутніца, адмучылася. Зараз хаця жыць спакойна будзе», — толькі Кастусь спачувальна паклаў руку на плячо, пастаяў так крыху, нічога не сказаў і адышоўся. Гэтая абыякавасць і ўсмешкі пакрыўдзілі і ўзрушылі яго, усё ранейшае, якое ён даравў і на якое забыўся, вярнулася з нябыту. Юрась адчуваў сябе блазнам, які пацяшае публіку, а публіка пагардліва пляскае ў далоні, паблажліва звярнуўшы ўвагу на таго, хто на сцэне. «Яны думаюць, што праўда ў іх, што так і трэба», — горка падумаў ён і ўжо з халодным разлікам кінуў у імгненна знямелыя твары:

— Вы, бязроднае племя. Вы, хто не помніць сваёй крыві. Вы рады, што жывяце па-за часам, жывяце толькі цяпер, толькі гэтым імгненнем! У вас няма мінуўшчыны, у вас не можа быць будучыні. Манкуртамі рабілі палонных, вы імі зрабіліся самі.

Усе маўчалі. Нехта захацеў запярэчыць, але Юрась з нечаканай уладарнасцю ўзняў руку, утрапёна працягваў:

— А я бачу продкаў, яны праходзяць перад маімі вачыма. І вашы продкі тое ж, вось яны, каля мяне!

Нехта спалохана піскнуў:

— Ты проста звар'яцеў!

— Не! Вам бы гэта было вельмі зручна. Але я не дам вам гэткай радасці!

Юрась ускочыў са свайго месца, нешта цёмнае, шалёнае віравала ў ім, прасілася вонкі, але ён не даваў волі, выйшаў за дзверы і акуратна зачыніў іх.

Яго дагнаў Кастусь, моўчкі пайшоў побач. Юрасю зараз нікога не хацелася бачыць, але Кастусь не замінаў і нізавошта не кінуў бы яго аднаго. Спачатку Юрася пацягнула да ракі, але брудная вада з плямамі бензіну на паверхні ніяк не суцяшала; тады ён пайшоў уздоўж яе да парку, на сваё месца. Калі Юрась сюды ўпершыню трапіў, яму таксама было цяжка і крыўдна; гэты куток прынёс заспакаенне, і зараз Юрась амаль падсвядома вяртаўся сюды ў цяжкія хвіліны ў чаканні палёгкі і збавення.

Пасля памятнай размовы з начальнікам аддзела Юрась увесь час адчуваў нейкую раздвоенасць душы. Гэта прыгнятала, выклікала безупыннае адчуванне дыскамфорту. Яго раздзірала выразнае жаданне неяк змяніць усё на свеце і рэальнае адчуванне таго, што яго ніхто не разумее. А яшчэ зіма! Яна была лютая, усё ажно трашчала ад марозу. Снегу насыпала вышэй пояса, засталіся вузенькія сцежкі, па якіх можна было хадзіць толькі ланцужком. Мялі шалёныя завеі, прырода нібыта імкнулася даказаць, што толькі яна пануе на гэтай зямлі. Але людзі, здавалася, мала зважалі на яе, займаліся сваімі будзённымі справамі. Юрасю было цяжка, зараз ён у аддзеле пазбягаў размоў і спрэчак, унікаў агульных збораў. Маўклівасць і адчужанасць заўважылі, але прымалі за звычайную фанабэрыстасць, і нічога, акрамя з'едлівых кепікаў і жартаў, гэта не выклікала.

Увечары ён паспешліва ішоў дахаты, таропка абмінаючы групкі супрацоўнікаў; да Юрася далятаді ўрыўкі размоў, якія, здавалася, усе былі пра яго. У хаце нічога не хацелася рабіць, ён вячэраў нейкімі кансервамі, плюхаўся ў ложак і бяздумна валяўся да сну. Нават лісты з дому, ад бацькоў і сяброў, тыднямі ляжалі на стале, і не было ніякай ахвоты чытаць іх. Бацькі турбаваліся, што з ім, а Юрасю было ўсё адно, засталося толькі нецярплівае чаканне вясны, засталося спадзяванне, што жыццядайнае сон-

ца прынясе вызваленне, выратуе ад няпэўнасці. Нарэшце вясна прыйшла, але шэрая і непрыкметная; снег бруднымі плямамі ляжаў на плошчах і вуліцах, вільгаць амаль па-восеньску вісела ў паветры. Ужо канчаўся сакавік. Была нядзеля, Юрась прачнуўся з адчуваннем нечага светлага і незвычайнага на душы, апошнім часам такія раніцы былі для яго рэдкасцю. Ён няспешна падняўся, паснедаў, чамусьці выврашыў выстраіцца святочна і пайшоў у горад. На вуліцах панавала сонца, усё блішчэла і грала фарбамі, людзі выглядалі вясёлымі і прыязнымі. Ён пайшоў у парк паблукаць крыху па прысадах. Парк гэты ён адкрыў выпадкам, яшчэ ўвосень, і зараз часта прыходзіў сюды. У парку Юрась збочыў на незнаёмую сцяжынку, яна пятляла па ўжо падсохлай зямлі і нечакана вывела яго да ўтульнага, зацішнага куточка. Тут стаяла невялікая лаўка, прыкрытая покуль голымі, без лісця, дрэвамі і кустамі. Юрась сеў на яе, адкінуўся на спінку, з асалодай падставіў твар ласкаваму сонейку. Колькі ён сядзеў, сказаць цяжка. Вярнула яго да жыцця лаянка, што імпэтна прагучала з дзявоцкіх вуснаў. Юрась агледзеўся. На сцежцы стаяла прыгожая дзяўчына, у кароценькай куртачцы і штоніках-морквачках, з адмысловай фрызурай. Пэўна, яна паслізнулася, цяпер злосна лаялася і спрабавала вычысціць заляпаныя гразёю штонікі, потым плюнула, папраставала далей, паглядзеўшы на Юрася грэблівым позіркам умела падвядзёных вачэй. Напэўна, было ў ягоным выглядзе нешта дзівацка-ачмурэлае, бо яна яшчэ раз азірнулася на лаўку, перахапіла ў другую руку вялікую блішчастую сумку, юрліва кіўнула галавой і выразна завіхляла клубамі. Але дзень быў такі пагодны, такі веснавы, што нават гэта дзеўка не здолела папсаваць яму цудоўны настрой. Юрась глядзеў услед, ад нагрэтай зямлі паветра дрыжала, у ім усё мроілася, і здавалася, дзяўчына не ідзе, а плыве некуды ўдалячынь. Юрась сядзеў на лаўцы, яго позірк падняўся ад сцежкі вышэй; праз голыя кусты блішчала рака, заціснутая ў сваёй веснавой магутнасці бетанаванымі берагамі, сталі дрэвы, якія, перад тым як пусціць лісце, трошку пачырванелі. На тым беразе ракі, паміж шэрымі аднолькавымі кубамі жылых дамоў, у шчыліну прабіваліся да неба дзве імклівыя барочныя вежы касцёла. Касцёл, перароблены на царкву, надоечы перафарбавалі, вежы зараз былі свежа белыя і ганарлівымі дзідамі праціналі блакіт над старым горадам, які бязлітасна ўціскалі ў зямлю аднолькавыя груваcткія паралелепіпеды камяніц. Юрась убачыў гэтую бель і блакіт, нешта цёплае прайшло па душы. Дахаты ён вяртаўся тады абноўлены і прасветлены, з новым жаданнем жыць.

Зараз яны з Кастусём сядзелі на лаўцы, наўкола віравала зялёнае жыццё, але Юрась лавіў сябе на думцы, што адчувае ўжо ягонае згасанне — сям-там на бярэзіне вісеў злёгку пажоўклы ліст, птушкі ў небе былі яшчэ не чародамі, але ўжо нейкія адчужана-нетутэйшыя. Кастусь нешта казаў, але Юрась не ўспрымаў ніводнага слова, заглыблены ў свае думкі. Калі ён падымаў вочы, у іх бліскалі слёзы, Юрась зноў адчуваў сябе адзінокім, нікому не патрэбным, чужым, як прышэлец з іншай планеты сярод людзей.

Кастусь тузануў яго за рукаў.

— Глядзі, царквы нешта не відаць?

Юрась падняў вочы. Вежачак сапраўды не было. Ён ускочыў, адчуў, як нешта цяжкае бухнула ў галаве, і кінуўся на Стары горад. Кастусь недзе адстаў, але Юрасю не было калі чакаць.

На плошчы, на месцы царквы, стаяў высокі плот, груба збіты з негабляваных пакарэбаных дошак. Юрась праз шчыліну зазірнуў усярэдзіну, але нічога не зразумеў, перашкаджала гара друзу і бітай цэглы. Ён пайшоў



уздоўж плота, шукаючы якога ўваходу, убачыў браму, праз якую выязджалі МАЗы, увайшоў. Царквы не было, сталі толькі рэшткі муроў, ля іх пад'ёмны кран з металёвай бабай на тросе. Юрась падышоў бліжэй да чалавека, што падаўся яму нейкім начальнікам:

— Навошта вы яе?

Начальніку, напэўна, ужо надакучылі гэтыя пытанні, ён злосна буркнуў у адказ:

— Трэба, вось і ўбіраем!

— Каму гэта трэба?

— Стаяла, плошчу засланяла. Цяпер добра, прастора. Усё відаць.

— А што будзе?

— Нічога не будзе. А калі падмурак не скалупаем, якую кавярню на ім збудуем.

Нехта крануў Юрася за плячо. Уражаны Кастусь, увесь чырвоны ад хвалявання, хапаў паветра і хацеў нешта сказаць, але не мог, бо перахапіла горла, таму проста стаяў і камячыў у руках каптур. Юрась адвярнуўся, падышоў бліжэй да руін, па друзе ўзлез вышэй. Скрозь пыл на сцяне праступала выява, ён акуратна ацерусіў пыл, убачыў ацалелую галаву нейкага святога ці пакутніка — Юрась не разбіраўся ва ўсіх тонкасцях рэлігіі, — убачыў вялікія пранізлівыя вочы. У гэтых вачах тоеж стаяў боль і жах. Юрась сціснуў кулакі, выдыхнуў: «Гэта і ты вінны, Кастусь!» — і што ёсць моцы ўдарыў проста па гэтым твары. У галаве моцна зашумела, потым са звонам парвалася нейкая гумка і Юрась зноў апынуўся ў бясконцым міжчассі, з занесенаю над галавою чыгуннаю бабай.



Ён мог гадзінамі пазіраць у скляпенне. Яно было ў тысячах трэшчын — адставала дрэнная пабелка, — і іх сплященне кожны раз утварала новы малюнак. Яшчэ можна было пядзямі час ад часу мераць таўшчыню сцен там, дзе была зроблена маленькая ніша для акна. Ён не раз рабіў гэта, покуль хапала рук, але ніколі не мог дастаць другога боку сцяны. Але толькі цэгла, з якой былі мураваны гэтыя сцены, па-сапраўднаму цікавіла яго. Пасля кожнага рамонту ён упарта, па кавалку, саскрабаў свежую тынкоўку, каб пальцамі і вуснамі можна было адчуць шурпатасць і прахалоду сапраўднай сцяны.

Цэгла была вельмі старая, і толькі гэта пераконвала Юрася, што час існаваў, проста зараз, покуль ёсць кардонныя скрынкі — дамы, ён спыніўся. І нават калі прыходзілі людзі ў белых халатах — ён ведаў, людзі зваліся дактары і на іх бязглуздыя пытанні ён мусіў адказваць — і Юрась мог на імгненне праз расчыненыя дзверы бачыць даўгі калідор — светлы, белы, з аднолькавымі прастакутнікамі дзвярэй у глыбокіх нішах, то гэта яшчэ болей пераконвала, што час спыніўся. Інакш, чаму калідор заўжды белы і заўжды пусты? Чаму заўжды ў белым дактары? І чаму зачынены ўсе дзверы — і ягоныя, і тыя, што ў калідоры? Навошта ўсё гэткае застылае, як нерухомыя званы на званіцы, добра бачнай зараз праз ягоную шыбу? І толькі маўклівыя цагліны сведчылі, што калісь было інакш.

І яшчэ было добра. Ён болей не бачыў дрэў без карэння. З ягонай келлі ўвогуле не былі бачны дрэвы. Ён бачыў толькі неба, званіцу, кавалак вышчарбленага кляштарнага муру, за якім увечары хавалася чырвонае сонца.

# ЭПІТАФІЯ НА ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

**1**

Ну што сядзіш склаўшы рукі? Сталы падрыхтавалі, шампанскае стыне ў спустошаным халадзільніку, жонка ў ванне парадкуе фрызуру, падмалёўвае павекі, а ты ў святочным гарнітуры напружана прысеў на крайчыку канапы і невідушчымі вачыма пазіраеш на шэраг пустых талерак, якія крыху адбліскваюць у рэдкіх промнях вечаровага сонца. Цікава, колькі прыбораў ты падрыхтаваў? О, я бачу, на вялікі баль спадзяешся! Мельхіёру не хапіла, дык ты (пазнаю тваё імкненне ў старцах быць, а з перцам жыць!) і простыя выцягнуў, сарамліва прыкрыў іх льнянымі сурвэткамі. А ты думаеш, госці прыйдуць? Табе і клікаць не было каго, усіх па пальцах аднае рукі пералічыць можна. Кажаш, мусяць абвясціцца і тыя, каго не клікаў — усё-ткі дваццаць пяць год, вялікая частка жыцця. Магчыма, самая лепшая, шчаслівая і шчырая. Я разумею тваё хваляванне, але мяркую, што ты памыляешся. Ва ўсялякім разе дазволь, покуль нікога няма і нішто не замінае, прамовіць табе эпітафію. Ты не зразумеў? Не хвалюйся, я зычу табе пражыць яшчэ многа гадоў, але гэта ўсё-ткі будзе эпітафія. Так-так, накшталт тае, што ты ўзгадаў: «Да Хрыста, абаронцы дзяцей, не дасягнуўшы сталасці, ты пайшоў у росквіце год, і зайздросная смерць надзею нашу пахавала. Ты павінен быў раней заплюшчыць вочы нам, і паколькі так адпавядала волі Хрыста, у лік анёлаў ён цябе залічыў...

Мікалай Хрыстафор Радзівіл і Лізавета... Мікалаю, сыночку дарагому... паставілі.

Пражыў 1 год 13 дзён 8 гадзін.

Памёр у годзе ад нараджэння Хрыста 1588, у дзень 4 кастрычніка».

А я хачу пахаваць тваю надзею, і паколькі ў Хрыста ты не верыш, кім застанешся пасля гэтых хаўтураў, я не ведаю. Ва ўсялякім разе анёлам табе ніяк не быць, дый, напэўна, табе гэта і не патрэбна. А увогуле, ты хаця сам ведаеш, што табе трэба? Не? Ну што, мусіць, таму я сёння і прыйшоў.

**2**

Чаму ты сядзіш такі здзіўлены і задуменны? Цябе закранулі мае словы наконт сяброў? Пэўне, ты згодны, што твае сябры — гэта ў нечым ты сам, ergo, не трэба лезці ў чужыя душы, дастаткова разабрацца ў сваёй.

Ведаеш, ты мне часам здаешся старым дзедам, быццам табе не дваццаць пяць, а ўсе сто дваццаць пяць. Я з табою згодны, што ўзрост вызначаецца зусім не пражытымі гадамі, але тою часткай інферна, што наканаваў табе лёс. Я згодны, што бываюць імгненні, вартыя паловы жыцця. Толькі чаму ты лічыш, што ў тваім жыцці былі гэткія моманты? А, я зразумеў, што ты маеш на ўвазе! Сапраўды, гэта было жорстка. Пачакай, у які клас ты тады хадзіў? Слушна, у восьмы. Менавіта ў восьмым класе ты кінуў валейбол, перакрэсліўшы гэтым два гады жыцця, усе свае славалюбныя мары. Тады ў цябе яшчэ не было такога моцнага і ўсеабдымнага ўспрыняцця кожнага дня, кожнай хвіліны квантам жыцця, квантам таго кароткага часу, што адмераны табе. Тады ты яшчэ мог некаму даваць і некаму падараваць гэтыя два гады.



Трэніроўкі былі пяць разоў на тыдзень, пасля школы. І вось бадай што кожны вечар цябе білі. Не да смерці, без асаблівай злосці, проста так.

 

жыць умее. Віктар, вядома ж, не ведаў, што і ў Анюты свае планы былі на будучае і што яна замест інтэрнацкага тэлефоннага нумара, якога і не памятала, назвала першыя лічбы, якія прыйшлі ў голаў. Адным словам — бывай, маё лета, бывай, мая радасць!

Настрой у Віктара быў цудоўны, і ён не мог не пажартаваць, калі ўгледзеў пры плоце чорны кажушок вядомага ўсім на цэнтральнай сядзібе дзеда Ляксея, здагадаўся, што дрэмле стары, пусціў матацыкл накатам, і калі пад'ехаў блізка, асляпіў старога святлом, раўнуў маторам, краем вока ўгледзеў, як ускінуўся той, як нема закрычаў, — і знік у начной цемры. Не бачыў ён, што гэтак і пралежаў дзед пры плоце да раніцы. І недапітае чырвонае віно пад ім засохла на прыдарожным пыле. І ніхто ў тую ноч не ведаў, што, калі зноў бачыў дзед, як паляць дзяцей яго, белае вока фары, тае, з нямецкае машыны, якая свяціла тады, апякло лютым агнём вочы, зверам скочыла на яго.

Падабранага раніцай дзеда завезлі ў бальніцу на старшынёўскай «Волзе», там ён скардзіўся толькі, што пячэ ў грудзях, прасіў, каб прывезлі Мар'ю развітацца, але не дачакаўся яе, ціха, незаўважна нават для суседзяў па палаце, сканаў.

*Павел Ткачоў*

# ЧАТЫРЫ ДНІ

## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Нацыянальныя пытанні хвалююць яго даўно — з таго часу, як пісаў ён праект Праграмы РСДРП.

Нацыянальныя пытанні ў праекце Праграмы выклікалі шмат выступленняў прадстаўнікоў іншых партый. Шэраг (і такіх была значная большасць) партый аспрэчвалі некаторыя моманты — што ж, у спрэчках нараджаецца ісціна! — увогуле ж падтрымлівалі нацыянальную палітыку будучай РСДРП. Некаторыя партыі (як звычайна, буржуазныя) адмоўна аднесліся да выкладзеных ім нацыянальных праблем. Сярод такіх, як гэта ні дзіўна, была і ППС. Ну, няхай буржуазныя партыі, а то ППС — Польская сацыялістычная партыя! Мэтай сваёй (зыходзячы з назвы — сацыялістычная) яна паставіла дасягненне сацыялізму, а вось нацыянальныя пытанні разглядае з пазіцый шавіністычна-нацыяналістычных.

А было так. На вочы трапіўся сакавіцкі нумар часопіса «Przedswit» з артыкулам «Адносіны расійскай сацыял-дэмакратыі да нацыянальнага пытання».

«Назва добрая, — падумаў ён. — Але ж цікава, як трактуюць палякі гэты раздзел нашай Праграмы».

Чытаў (часам са слоўнікам — некаторых слоў не ведаў) і абураўся. Аўтар (ці аўтары) артыкула абвінавачваў РСДРП ва ўсіх смяротных грахах — у дактрынёрстве, анархізме, што рускія сацыял-дэмакраты «здзіўляюча» тлумачыць таямнічае самавызначэнне, і нарэшце, заключэнне, якое быццам вынікае з нашай Праграмы: рабочаму няма ніякай справы ні да чога, акрамя поўнага знішчэння капіталізму», «мова, нацыянальнасць, культура і г. д. ёсць толькі буржуазныя байкі».

Недарэмна гавораць: у гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька.

Больш за ўсё яго абурыла заява ППС:

— Мы можам аслабіць царызм, адарваўшы Польшчу, а звергнуць яго павінны рускія таварышы.

А то яшчэ і такая заява ППС:

— «Мы» — палякі, а «яны» — рускія, немцы і г. д. У нас — палякаў — свае справы, у іх — свае.

І гэта пісалася ад імя сацыялістычнай партыі?!

Дзікунства! Усім жа вядома: калі нехта (у дадзеным выпадку — пралетарыят) пагражае інтарэсам (а больш дакладна — капіталам) буржуазіі —

Мал. **Ю. Рыжыкава.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 4.**



 

яна хутка знаходзіць агульную мову з буржуазіяй іншых краін, і, аб'яднаўшыся разам, вядуць барацьбу за свае інтарэсы.

Не, панове «сацыялісты», рускі пралетарыят з пралетарыятам іншых нацыянальнасцей Расіі, разам з працоўным сялянствам сваіх краін павінен весці рашучы наступ супраць буржуазіі ўсіх нацыянальнасцей.

Нездарма вялікія сацыялісты Маркс і Энгельс абвясцілі:

— Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

У еднасці — перамога!

Рускія сацыял-дэмакраты зыходзілі (і зыходзяць) менавіта з гэтага, і яны гавораць пралетарыям усіх нацыянальнасцей Расіі:

— Толькі самы поўны і самы цесны саюз з рускім пралетарыятам здатны задаволіць патрабаванні палітычнай барацьбы...

Тады ж Уладзімір Ільіч напісаў артыкул «Нацыянальнае пытанне ў нашай праграме», у якім ушчэнт разбіў усе шкодныя заклікі і вывады ППС і, як помніцца, проста напісаў, што ППС здрадзіла інтарэсам пралетарыяту, а ў заключэнне падкрэсліў:

— Мы не бачым у ППС сапраўды рабочай сацыял-дэмакратычнай партыі!

І ён меў рацыю. ППС — не рабочая партыя, а рэфармісцкая, нацыяналістычная. Заправіляў у ёй Пілсудскі, які ў свой час ведаў брата Аляксандра, нават, як перадавалі яму, называў сябе яго сябрам... А потым споўз на пазіцыі шавініста, хаця чаму споўз? Ён хутчэй за ўсё і тады не падзяляў сапраўды сацыялістычныя погляды брата... Праўда (і гэтага трэба было чакаць), ППС у 1906 годзе падзялілася на ППС-«лявіца», ППС — «рэвалюцыйная фракцыя».

ППС-«лявіца» паступова становіцца сапраўды рэвалюцыйнай партыяй, а ППС — «рэвалюцыйная фракцыя» так і засталася на нацыяналістычных і шавіністычных пазіцыях.

Яму помніцца, што некалькі раней часопіса «Przedswit» рэдакцыя «Искры» атрымала газету Саюза армянскіх сацыял-дэмакратаў «Пролетарий», дзе ён знайшоў артыкул «Маніфест армянскіх сацыял-дэмакратаў».

Прачытаў і застаўся задаволены. Армянскія таварышы не ў прыклад ППС у цэлым па-марксісцку разумелі нацыянальныя праблемы. Потым у артыкуле «Аб Маніфесце «Саюза армянскіх сацыял-дэмакратаў» напісаў: «Мы ад ўсёй душы вітаем Маніфест «Саюза армянскіх сацыял-дэмакратаў» і асабліва выдатную спробу даць правільную пастаноўку па нацыянальным пытанні».

Там жа ён падкрэсліў, што так павінны і ўсе сацыял-дэмакраты Расіі адносіцца да нацыянальнага пытання. Армяне справядліва патрабуюць не нацыянальнай аўтаноміі, а палітычнай і грамадзянскай свабоды і поўнай раўнапраўнасці. Гэта — па-першае. Па-другое, яны патрабуюць права на самавызначэнне для кожнай нацыі, якая ўваходзіць у склад дзяржавы.

Але таварышы армяне не да канца былі паслядоўныя. Хіба ж варта патрабаваць, з іх пункту гледжання, стварэння федэратыўнай рэспублікі? Ці ж ім невядома, што федэрацыя дапускае аўтаномію? Неабходна змагацца за дэмакратычную рэспубліку ўвогуле: «Справа пралетарыяту — цясней згуртоўваць як можна шырокія масы рабочых усіх і ўсякіх нацыянальнасцей, згуртоўваць для барацьбы на магчыма больш шырокай арэне за дэмакратычную рэспубліку і за сацыялізм».

Як розняцца погляды ППС і Саюза армянскіх сацыял-дэмакратаў!

Потым неаднойчы ў сваім жыцці ён кранаў нацыянальнае пытанне, выступаючы ў друку з такімі артыкуламі, як «Крытычныя заметкі па на-





цыянальным пытанні», «Аб праве нацый на самавызначэнне», «Сацыялістычная рэвалюцыя і права нацый на самавызначэнне»...

Адразу ж пасля сацыялістычнай рэвалюцыі паставіў пытанне аб стварэнні Камісарыята па справах нацыянальнасцей. Кіраваць камісарыятам — гэтым архіскладаным і архіпатрэбным органам — рэкамендаваў Сталіна, хаця Сталін быў вельмі заняты работай у ЦК.

Начамі (днём не было магчымасці) працаваў над праектам «Дэкларацыі правоў народаў Расіі». 2 лістапада вынес праект на абмеркаванне СНК. На тым жа пасяджэнні Дэкларацыя была зацверджана...

Упершыню ў гісторыі канстытуцыйным актам дзяржава абвяшчала:

— роўнасць і суверэннасць народаў;

— права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы;

— адмену ўсіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў;

— свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп.

Савецкая ўлада не проста абвяшчала, яна на справе даказала свету, што строга прытрымліваецца высунутых прынцыпаў у Дэкларацыі. Абапіраючыся на Дэкларацыю, СНК 3 снежня прызнаў за ўкраінскім народам права на самавызначэнне. Была створана Украінская рэспубліка. 18 снежня СНК прызнаў незалежнасць Фінляндыі.

Фінляндыя... І думкі Уладзіміра Ільіча зноў вярнуліся ў рэчышча апошніх падзей: фінская сацыял-дэмакратыя здрадзіла пралетарскай справе — пайшла на паваду ў фінскай буржуазіі...

Насупраць дзесятай тэмы Уладзімір Ільіч напісаў: «10 bis: Паразітызм дробнай буржуазіі і здрада фінскай сацыял-дэмакратыі».

Трэба ў зручны момант закрануць гэтую тэму...

Адзінаццатая тэма напачатку меркавалася ім як дапаўненне да дзесятай, але потым, уважліва прадумаўшы, вырашыў вызначыць яе ў самастойную: «11. Як «заваяваць» на бок Расійскай сацыялістычнай рэспублікі Саветаў іншыя нацыі?..»

Сапраўды, як? Над гэтым варта падумаць і намеціць шэраг практычных мерапрыемстваў.

Дванаццатая тэма нейкім чынам перагукваецца з дзевятай: «Падаўленне эксплуататараў». Але тут ёсць і свае адценні, свае асаблівасці. Няхай будзе самастойнай тэмай, потым (калі ў гэтым з'явіцца неабходнасць) можна будзе іх і аб'яднаць.

Перачытаў услых трынаццатую:

— Як арганізаваць спаборніцтва?

Затрымаўся: надта ж турбавала яго пытанне арганізацыі адносін да працы рабочых, сялян у новых умовах — сацыялістычных.

Спаборніцтва ў капіталістычных краінах... Спаборніцтва ў сацыялістычных умовах, умовах, калі рабочыя працуюць на сябе... Ёсць розніца? Вядома, ёсць!

«У самы бліжэйшы час неабходна вярнуцца да гэтай тэмы. Нават тут, у Халіла. Калі, вядома, дазволяць абставіны», — падумаў ён.

Пачуўся асцярожны стук у дзверы і ціхі голас Эйна Рах'і:

— Вы не спіце, Уладзімір Ільіч?

— Не, таварыш Рах'я...





— Даруйце, — Рах'я адчыніў дзверы, — але жанчыны прапануюць гарбату.

— Гм... так, — ён, адсунуўшы паперы, падняўся з-за стала. — Гарбату? Што ж — пойдзем піць гарбату...

## 11

Пасля чаю ў жанчын не стаў затрымлівацца — адразу ж пайшоў да сябе ў пакой. Марыя Ільінічна і Надзея Канстанцінаўна, бачачы заклапочаны (у такіх выпадках яны гаварылі: рабочы) выгляд, не затрымлівалі.

Пераглядзелі адна на адну і абедзве разам цяжка ўздыхнулі: адарваць Уладзіміра Ільіча ад работы (гэта жанчыны добра ведалі) немагчыма. Трэба пачакаць, пакуль атрымаецца нейкая замінка...

А Уладзімір Ільіч між тым быў далёкі ад усяго — ён увесь у працы, і для яго нічога іншага не існавала...

Чатырнаццатая тэма прадумана добра. Улік і кантроль усяго і ўсіх — гэта сутнасць сацыялізму. І дыскутаваць тут няма чаго. Пасля рэвалюцыі правесці нацыяналізацыю ўсёй прамысловасці немагчыма (хаця некаторыя рэвалюцыянеры, надта ўжо ж бойкія) патрабавалі гэта адразу, неадкладна зрабіць. Дакладней, магчымасць была: можна выдаць дэкрэт, звярнуцца да рабочых, каб яны ўзялі ў свае рукі ўсе заводы і фабрыкі. Адзін, два тыдні, і... усёй прамысловасцю кіравалі б рабочыя. Але як? Вопыту кіравання гаспадаркай у іх няма, сваіх эканамічных органаў, якія б змаглі кіраваць гаспадаркай, — таксама няма.

Вось чаму на прадпрыемствах, якія належалі капіталістам (некаторыя ўсё-ткі нацыяналізавалі), пачалі ўводзіць рабочы кантроль. 14 лістапада Савецкая ўлада выдала «Палажэнне аб рабочым кантролі». У снежні амаль усюды рабочыя ўзялі пад свой кантроль дзейнасць капіталістаў.

Але, намячаючы тэму «Улік і кантроль, як сутнасць сацыялізму», меў на ўвазе і іншае: пралетарскі кантроль над усім захаваецца нават і тады, калі ўсе прадпрыемствы пяройдуць у рукі народа. І тады будзе патрэбен кантроль — інакш звычайная анархія. Таму і ўзнікла такое суседства слоў — «улік і кантроль». І цяпер, прадумваючы зноў гэтую тэму, Уладзімір Ільіч дадаў дзве дэталі: «Група народных кантралёраў» і «Жулікі ў рэвалюцыях».

Жулікі і зладзеі многа шкоды робяць. Вельмі многа, і барацьба з імі ідзе жорсткая і рашучая: чырвонагвардзейцы бязлітасна іх караюць. Аб чым і крычаць ворагі.

Як бы ні крычалі, што б ні гаварылі нашы ворагі, — мы не збочым са свайго шляху. Мы за дысцыпліну, дысцыпліну пралетарскую. Без дысцыпліны нельга — анархія... Час спрэчак мінуў: трэба кіраваць прадпрыемствамі, гаспадаркай, краінай... Гэтыя думкі ўкладліся ў дзве наступныя тэмы — «Кіраваць прадпрыемствамі ці дыскутаваць аб сацыялізме?», «Дысцыпліна рабочых і басяцкія звычкі». Але тут жа чамусьці зноў падумаў пра зладзеяў і да шаснаццатай тэмы пад нумарам «16-а» дапісаў: «Смяротная кара і расстрэлы чырвонагвардзейцамі зладзеяў».

Семнаццатая тэма — «У чым блізкасць паміж басякамі і інтэлігентамі?» — спыніла ўвагу слова «басякі». Гэтае слова нагадала яму творы Максіма Горкага пра басякоў.

З Горкім яго звязвала моцная дружба. Сябравалі яны — Ленін і Горкі — не толькі таму, што сваімі творамі пісьменнік шмат зрабіў (і яшчэ

колькі зробіць!) для развіцця рабочага руху ў Расіі ды і не толькі Расіі — усяго свету.

Ён добра ведаў Горкага — гутаркі ў кароткія часы сустрэч за мяжою, перапіска, — ведаў яго як таленавітага пісьменніка і як чалавека, які ўспрымае ўсё блізка да сэрца... Надта ж ранімы ён. Хаця сапраўднаму пісьменніку і трэба мець такое сэрца.

Нечакана ўспомніўся 1909 год, калі буржуазныя газеты, скажаючы становішча ў партыі, пісалі аб адыходзе Горкага ад бальшавікоў. Не верыў ён гэтаму, таму ўпэўнена заявіў:

— Дарэмна стараюцца буржуазныя газеты. Таварыш Горкі надта моцна звязаў сябе сваімі вялікімі мастацкімі творамі з рабочым рухам Расіі і ўсяго свету, каб не адказаць ім інакш, як пагардаю.

Шчырая дружба не перашкаджала яму крытыкаваць Горкага, калі той збочваў на пазіцыі розных філасофскіх плыняў. Надта ж цягнула Горкага да філасофіі. Але ён не проста крытыкаваў Аляксея Максімавіча, а змагаўся за яго — Чалавека, Пісьменніка, Сябра...

Думкі зноў вярнуліся да тэм. Прадумаўшы, Уладзімір Ільіч дапісаў: «17 bis. «Правы бальшавізм»; ці месца яму ў нашай партыі?»

Калі зноў перачытаў семнаццатую тэму і дапаўненне да яе, тэма атрымала новае адценне: усё жыццё ён змагаўся з рознымі плынямі — правымі, левымі, — меншавікамі, кадэтамі, бернштэйніянцамі, рознага колеру апартуністамі...

А гэта нервы, здароўе...

Праўда, аб здароўі і нервах не думаў — турбавала, як заўсёды, іншае — маналітнасць, адзінства, згуртаванасць партыі, яе баявітасць. Дзеля гэтага ён гатовы ўсім ахвяраваць...

Наступная тэма «Устаноўчы сход і сацыялістычная рэспубліка Саветаў» у апошнія дні не давала яму спакою.

У свой час народныя масы патрабавалі ад Часовага ўрада склікаць Устаноўчы сход. Часовы ўрад з неахвотаю пагадзіўся: стварыў камісію па выбарах (вядома, са сваіх прадстаўнікоў), склаў спісы кандыдатаў... Не спяшаўся Часовы ўрад, адцягваў выбары... Бальшавікі не выступалі супраць ідэі склікання Устаноўчага сходу, але імкнуліся растлумачыць масам, што рэспубліка Саветаў — гэта тое, што патрэбна працоўным. Устаноўчы сход у параўнанні з рэспублікай Саветаў — крок назад.

Гэта было відавочна ўсім: бальшавікам, меншавікам, эсэрам, кадэтам. Адным словам, усім: і ворагам працоўных, і абаронцам іх інтарэсаў.

Пакуль Часовы ўрад вагаўся — склікаць ці не склікаць Устаноўчы сход, — адбылася сацыялістычная рэвалюцыя. Вось тады ўся контррэвалюцыйная поскудзь кінула заклік:

— Уся ўлада Устаноўчаму сходу!

Нават самаму непісьменнаму чалавеку ясна — гэта сцяг барацьбы супраць сацыялістычнай рэспублікі.

Што ж, панове, мы пойдзем на тое, каб склікаць Устаноўчы сход, але не дазволім так званым (так і хацелася сказаць: самазваным) членам Усерасійскай камісіі па выбарах ва Устаноўчы сход — кадэтам, меншавікам — весці антысавецкую дзейнасць.

На пасяджэнні УЦВК 25 лістапада левыя эсэры зрабілі запыт:

— Растлумачце, таварышы бальшавікі, як гэта атрымалася: арыштаваны некаторыя члены камісіі — у наяўнасці парушэнне асабістай недатыкальнасці членаў Устаноўчага сходу — вышэйшай вярхоўнай улады?

Давялося выступаць і даводзіць, што кадэты не толькі падтрымліва-





**М. РАГАЛЕВІЧ. Свята** (алей, 1985).



**М. БУШЧЫК. Поўдзень у Паставах** (алей, 1981).



**М. БУШЧЫК. Жураўлікі** (алей, (1986).



**У. ПРАКАПЦОЎ. Памяці Генадзя Кулажанкі. І настане дзень** (алей, 1987—1988).

юць, але і ўдзельнічаюць у мяцяжах супраць Савецкай улады. І тады ж растлумачыў адносіны бальшавікоў да Устаноўчага сходу. Пры гэтым падкрэсліў: мы за такі Устаноўчы сход, які будзе ахоўваць інтарэсы народа.

Сход назначана склікаць 5(18) студзеня 1918 года ў Таўрычаскім палацы. Устаноўчаму сходу мы прапануем зацвердзіць нашы дэкрэты: аб міры, зямлі, аб пераходзе ўлады да Саветаў, таксама «Дэкларацыю праваў працоўнага і эксплуатуемага народа».

Гэта самыя дэмакратычныя дакументы ва ўсёй гісторыі чалавецтва. Зацвярджайце: тым самым, панове, вы дакажаце на справе свой дэмакратызм.

У той час, калі фармуляваў васемнаццатую тэму, прыйшла, як здалося яму, неблагая вобразная фраза-думка. Ён і запісаў (нейкім чынам расшыфроўваючы тэму) яе: «Хвалі рэвалюцыі набягаюць адна на другую не гладка, не раўнамерна, не па-аднолькаваму». Яе, калі спатрэбіцца, можна расшыфраваць, і атрымаецца добрае тлумачэнне асаблівасцей сацыялістычнай рэвалюцыі.

Перачытваючы васемнаццатую тэму, у яго ўзнікла жаданне дапісаць толькі што ўзнікшыя думкі. Ён знайшоў месца ў самым версе правага боку аркуша — «18 bis: «Фармальны дэмакратызм буржуазіі і (versus — у супрацьпастаўленні да гэтага) апарат уцягвання народа пралетарыятам у вайну супраць буржуазіі».

Перачытаў, здавалася, зараз добра, але чамусьці зноў затрымаўся — узнікла думка ў гэтай тэме закрануць і распрацаваць (у супрацьпастаўленні) праблему: дэмакратыя і дыктатура пралетарыяту. І ўверсе з правага боку памячае гэтае пытанне.

Цяпер васемнаццатая тэма (з дапаўненнямі) не выклікала ў яго заўваг.

Блізка па зместу да васемнаццатай была і дзевятнаццатая тэма. Ён яе так сфармуляваў: «Цытата з прамовы Пляханава 1903 года. У чым «іх» поўны ідэйны крах?» У дужках расшыфраваў слова «іх»: дробных буржуа, сацыялістаў-апартуністаў, меншавікоў, правых і чарноўскіх эсэраў, новажызнянцаў і К°.

Да прамовы Пляханава на другім з'ездзе партыі ў 1903 годзе Уладзімір Ільіч звяртаўся не так даўно ў артыкуле «Пляханаў пра тэрор».

Але ж можна зрабіць добрае параўнанне: тады Пляханаў падкрэсліваў — усе дэмакратычныя прынцыпы павінны падпарадкавацца карысці рэвалюцыі.

Зараз той жа Пляханаў гаворыць зусім іншае. Нібы той Янус двудушны...

Побач, злева, напісаў: «Пар(аўнай)», абвёў двойчы і паставіў стралу ў кірунку васемнаццатай тэмы.

Дваццатая тэма — балючая тэма — спыніла яго ўвагу (і не магла не спыніць!): «Сепаратны мір», яго бяспека і яго магчымае значэнне».

Бацюхны, колькі папрокаў на яго адрас:

— «Сепаратны мір» з Германіяй — згодніцтва з імперыялізмам! Гэта — здрада пралетарыяту!..

Гм... Так. Шмат выслухаў (а колькі яшчэ давядзецца выслухаць!) папрокаў — ад ворагаў (калі вораг хваліць — падумай: ці правільна ты робіш, вось калі лае — правільна!), ад сваіх паплечнікаў (тут ужо зусім незразумела). Відаць, не могуць уцяміць: Расіі патрэбен мір, нават самы цяжкі, ганебны... Дэкрэт аб міры, які прапанаваў усім ваюючым дзяржа-

вам заключаць усеагульны дэмакратычны мір — мір без анексій і кантрыбуцый, — адверглі дзяржавы Антанты. Іх падтрымалі ЗША.

Іншага выйсця не было: Савецкі ўрад пайшоў на мірныя перагаворы з Германіяй. 2 снежня падпісалі пагадненне аб перамір'і...

У час мірных перагавораў высветлілася: Германія (бачачы цяжкае становішча Расіі) мае намер пакінуць за сабою Польшчу, Літву, частку Латвіі і Беларусі. Больш таго (гэта стала вядома зусім нядаўна), германскія імперыялісты пайшлі на змову з Украінскай радай, каб адарваць Украіну ад Расіі...

Ён адчуваў, што галоўнае наперадзе: за мірнае пагадненне прадстаяць жорсткія схваткі — не толькі з ворагамі, але і са сваімі паплечнікамі...

Гэтае пытанне падштурхнула яго думкі ў крыху іншае рэчышча: сепаратны мір і абавязак бальшавікоў, рускага пралетарыяту перад сусветным пралетарыятам...

Знайшоўшы месца на правым баку аркуша, напісаў: «20 bis. Сепаратны мір і наш абавязак перад інтэрнацыянальным пралетарыятам». Паставіў кропку, а потым дадаў па-нямецку: «Die Deutschen brauchen Niederlage».

— Гм... Немцам патрэбна паражэнне? — спытаў сам сябе ўслых і тут жа адказаў: — Так, менавіта так.

Дваццаць першая тэма «Ступені або стадыі ў рэвалюцыі. Улік класавых сіл і саюзнікаў. Мір і зямля — у Расіі» не выклікала ў яго ніякіх дапаўненняў — тут было ўсё ясна. А вось дваццаць другая тэма: «Правакацыі імперыялістаў: дай нам зручны повад хутчэй задушыць цябе, рэспубліка Саветаў!» прымусіла ўспомніць артыкул, змешчаны ў газеце «Правда» ад 24 снежня пад назвай «Іх план». Ён паспеў прачытаць артыкул, у якім паведамлялася, што англійскі прэм'ер-міністр Лойд Джордж (дарэчы, аб ім не так даўно ён сам пісаў, што Л. Джордж вельмі добра служыць сваёй буржуазіі, праводзіць яе ідэі сярод пралетарыяту) сказаў:

— Германія павінна... узнагародзіць сябе за кошт Расіі.

Па ўсяму бачна: англічанам карысней весці перагаворы з Германіяй без Расіі. Задобрыць Германію за кошт Расіі. Выгады для Антанты ў наяўнасці: Германія будзе больш падатлівая... Далёка глядзіце, панове, далёка. Але ж і мы сёе-тое бачым...

Насупраць дваццаць другой тэмы дапісаў: «22 bis: «Правда» ад 24.XII. «Іх план». Гістарычныя словы Лойд Джорджа «За кошт Расіі».

Слова «гістарычныя» нават у двукоссе не ўзяў: ад яго і без двукосся так і патыхала злой іроніяй.

...Не спяшаючыся, уважліва чытаў далей тэмы:

— Пераход рэвалюцыйных інтэрнацыяналістаў да «абароннікцтва».

— Міжнародная палітыка сацыялістычнай рэспублікі Саветаў.

— Рэвалюцыйная фраза і рэвалюцыйны абавязак у пытанні аб рэвалюцыйнай вайне.

— Як патрэбна «падрыхтаваць» рэвалюцыйную вайну?

— Рэвалюцыйная вайна трымаючага ўладу пралетарыяту можа быць толькі вайной за ўзмоцнены сацыялізм.

— Спачатку перамагчы буржуазію Расіі, потым ваяваць з буржуазіяй знешняй, замежнай, чужаземнай.

— Цяжкасці рэвалюцыі ў заходнееўрапейскіх «паразітычных» краінах...

Заўважыў, што прапусціў парадкавы нумар 30. Пасля дваццаць дзявятай тэмы ішла трыццаць першая. Хацеў быў змяніць далейшую нумарацыю тэм, але раздумаў — не для чытача ж рыхтуе, для сябе, для будучых



сваіх артыкулаў, выступленняў. «Няхай застаецца так, як напісана», — падумаў Уладзімір Ільіч і пачаў чытаць далей:

— Рэвалюцыі — лакаматывы гісторыі. Разагнаць лакаматыў і ўтрымаць яго на рэйках.

— Узняць найніжэйшыя нізы да гістарычнай творчасці.

Спыніўся. Далей ішла цытата з працы К. Маркса і Ф. Энгельса «Святое сямейства, або Крытыка крытычнай крытыкі. Супраць Бруна Баўэра і кампаніі». Цытаваў па-нямецку. Таму перачытаў фразу заснавальнікаў навуковага камунізму не спяшаючыся, удумваючыся ў кожнае слова, каб не зрабіць памылкі: «Mit dem Umfang der geschichtlichen Aktion wird auch der Umfang der Masse zunehmen, deren Aktion sie ist».

Працытаваў, здаецца, дакладна. Пра гэта ж сведчыў і пераклад: «Павелічэнне глыбіні захаплення гістарычнага дзейнічання звязана з павелічэннем колькасці гістарычна дзейснай масы».

Дакладная тэарэтычная формула Маркса і Энгельса набывала ў Савецкай Расіі вялікую практычную значнасць...

Трыццаць трэцюю тэму напісаў на старажытнагрэчаскай мове, але ў дужках пераклаў: «Прыдбанне назаўсёды». Яшчэ ноччу, калі пісаў, расшыфраваў гэтую тэму такім чынам:

«Ужо заваёвана:

а. максімум дэмакратызму,

ß. канкрэтызацыя першых крокаў да сацыялізму,

γ. мір і зямля».

Зроблены толькі першыя крокі да сацыялізму, а працоўныя атрымалі зямлю, сапраўды дэмакратычныя свабоды (а не буржуазныя!) — мірную перадышку... Якая буржуазная рэвалюцыя дала працоўным такія выгоды?!

Цяжка адказаць?

Адказ тут просты: ні адна буржуазная рэвалюцыя нічога падобнага не дала і не магла даць...

Наступныя тэмы ахапілі праблемы фінансаў, гандлю, гаспадаркі — таксама вельмі балючыя праблемы:

— Фінансы і прадукты. Цэнтр і месца.

— «Цкаванне» спекулянтаў і сабатажнікаў.

— Грошы. Іх роля. Іх уцягванне ў «казну».

— Нацыяналізацыя прамысловасці і «абавязак» рабочых у працы.

— Дзяржаўная манаполія знешняга гандлю.

— Фіск («казна») і пераўтварэнне гэтага паняцца ў сацыялістычнай рэвалюцыі.

— Банкі — форма рахункаводства (артыкул Пятакова ў «Правде»).

На апошнім Уладзімір Ільіч спыніўся: Пятакоў пад псеўданімам П. Кіеўскі (чаму ўзяў ён такі псеўданім?) надрукаваў 5 снежня ў «Правде» артыкул «Пралетарыят і банкі». Артыкул блытаны, павярхоўны. Збочвае ён — гэты П. Кіеўскі — на пазіцыі меншавікоў. Збочвае...

— Гэта, відаць, дакладней, — сказаў ён услых і пачаў чытаць далей: «Выйгрыш часу» — сепаратны мір (да агульнаеўрапейскай рэвалюцыі).

— Тры даты. «Паражэнне» 20/IV і 3/VII. versus перамога 25.X.». Словы «тры даты» ўзяў у рамку, каб адразу звярнуць увагу.

«— Параўнанне гэтага «Паражэння» з сепаратным мірам».

І, нарэшце, заключная тэма:

«— Размеркаванне працы і размеркаванне прадуктаў:

5*

 

ΣΣ (Summa summarum — Агульны вынік).
Эканамічныя пытанні:
Нацыянальнае пытанне:
Палітычныя пытанні:
Арганізацыйныя пытанні:
Міжнародная палітыка:»
Што яшчэ? Пакуль усё...

Падумаў: мо перапісаць і згрупаваць блізкія тэмы? Але ж на гэта патрэбен час, а ці ж варта яго дарэмна губляць? Няхай застаюцца тэмы так, як узніклі, і з допісамі, устаўкамі, памаркамі: гэта ж запісы для сябе.

## 12

Прачнуўся ён недзе апоўначы — варочаўся з боку на бок. Адчуваў, што не адпачыў, але зноў, як і ўчора, заснуць не мог.

Намацаў рукою запалкі. Запаліў лямпу. Святло не вельмі яркае, але большага і не трэба. Яго пацягло да пісьмовага стала, на якім з правага боку былі лісты з тэмамі для распрацоўкі, а пасярэдзіне невялікі стос чыстай паперы.

Яшчэ з вечара Уладзімір Ільіч пачаў складваць план артыкула, у якім ён меркаваў паказаць сённяшнюю Расію, два яе лагеры: з аднаго боку — буржуазія і яе прыхільнікі (свядомыя і паўсвядомыя!): інтэлігенты, чыноўнікі і іншыя паслугачы, з другога — бальшавікі, працоўныя. І вось як гэтыя лагеры — кожны па-свойму — успрымаюць сённяшні дзень (і ўяўляюць будучыню) Расіі. І назва артыкула прадумана — «Запалоханыя крахам старога і змагаючыяся за новае».

Але не гэта павінна быць галоўным у артыкуле — у першую чаргу ён павінен паказаць першыя крокі краіны да сацыялізму.

Складваліся асобныя фразы, нават абзацы артыкула, а не было пачатку — той фразы, якая б адразу ўзяла ў палон чытача, прыкавала яго ўвагу, каб ён — чытач — не пакінуў артыкул, не дачытаўшы яго да канца.

Ён шукаў яе ўчора вечарам, думаў пра яе, кладучыся спаць. Перабраўшы дзесяткі варыянтаў, патрэбнай не знайшоў. Відаць, гэта і прымусіла яго прачнуцца. І зноў тыя ж пошукі, напружаная праца — цяпер, як гэта добра ведаў, заснуць яму не ўдасца.

Дрэнна тое, што днём ён не можа спаць: мноства разоў спрабаваў легчы і адпачыць, ляжаў, як звычайна, з заплюшчанымі вачыма хвілін дваццаць-трыццаць — і ўставаў.

— Так, што мы маем?.. — Ён падсунуў стос паперы. — Назву...

Назву ён напісаў увечары перад сном, і яму пакуль што падабалася. Пакуль што... Неаднойчы здаралася, што назва спачатку падабалася, а потым даводзілася яе мяняць. І не адзін раз — пяць, шэсць і дзесяць. Але тут назва пакуль што не выклікала заўвагі.

Першая фраза... Хто меў справу з паперай і пяром, хто хоць нешта спрабаваў напісаць, ведаў: першая фраза — гэта тон усяго артыкула... Пад яе — першую фразу — падладжваецца ўсё далейшае выкладанне.

Ільіч, не спяшаючыся, хадзіў з кутка ў куток. Чамусьці ўспомніліся словы з нейкага артыкула, у якім вінавацілі бальшавікоў у тым, што яны з'явіліся быццам бы арганізатарамі хаосу ў краіне... Аб гэтым крычалі і ўсе тыя, хто ўчэпіста хапаўся за старое, хто баяўся новага, баяўся сённяшняга і тым больш баяўся заўтрашняга дня. Крах старога нараджаў у іх нянавісць і злосць супраць бальшавікоў, супраць рускага пралетарыяту.



Здаецца, у тым жа артыкуле (а мо і ў іншым — не ў гэтым справа) ён вычытаў такую фразу: «Бальшавікі ўжо два месяцы стаяць на чале ўлады, а замест сацыялістычнага раю мы бачым пекла хаосу грамадзянскай вайны, яшчэ большай разрухі». Ці дакладна запомніў, не ведаў. Мо нейкае слова пераблытаў. Зноў працытаваў у думках. Не, здаецца, усё на месцы. Справа ў тым, што гэтая фраза магла стаць добрым пачаткам яго артыкула.

Гэтай цытатай і пачаў ён артыкул. А каб хто-небудзь з апанентаў не сказаў, што ён цытуе недакладна (а мо і дакладна!), падкрэсліў, што так гавораць і думаюць капіталісты і іх свядомыя і несвядомыя прыхільнікі.

Так, сапраўды, бальшавікі стаяць на чале ўлады два месяцы. Гэта факт, панове, але фактам з'яўляецца і іншае. За гэты час крок наперад да сацыялізму зроблены вялікі: знішчаны недэмакратычныя ўстановы ў арміі, у вёсцы, на фабрыках... А перамір'е — хіба не практычны крок сапраўды дэмакратычнай знешняй палітыкі новага ўрада?! А рабочы кантроль і нацыяналізацыя банкаў, некаторых прадпрыемстваў — не крокі да сацыялізму? Самыя сапраўдныя... І не бачаць іх толькі тыя, каму гэта не хочацца бачыць, запалоханыя крахам старога, пралетарскай барацьбой — свяшчэннай грамадзянскай вайной бедных супраць буржуазіі.

Розныя невукі прыпісваюць марксістам думку і нават нейкі план «уводу» сацыялізму.

Гэта паклёп на марксістаў: сацыялізм нельга ўвесці па плану або па загаду. Сацыялізм узнікае, расце і мацнее ў час вострай класавай барацьбы і грамадзянскай вайны. Насілле заўсёды з'яўляецца павітухай старога грамадства. А ў час пераходу ад буржуазнага грамадства да сацыялістычнага будзе існаваць асобая дзяржава — асобая сістэма арганізаванага насілля над класам эксплуататараў — дыктатура пралетарыяту. А гэта, панове, азначае вайну, асобыя меры супраць ворагаў пралетарскай улады.

Вядома, дыктатура пралетарыяту не толькі насілле. У яе шмат функцый — арганізацыйна-гаспадарчая, выхаваўчая... Яна стварае рэальныя ўмовы для развіцця сацыялістычнай дэмакратыі, для садружнасці пралетарыяту і сялянства... Але зараз размова аб іншым — аб абароне заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі.

Звернемся да гісторыі. Парыжская камуна была дыктатурай пралетарыяту. Але яна недастаткова (у гэтым яе дакаралі Маркс і Энгельс) энергічна карысталася сваёй узброенай сілай для падаўлення эксплуататараў. У гэтым (менавіта ў гэтым!) адна з прычын яе пагібелі.

Бальшавікі павінны ўлічыць урокі Парыжскай камуны, улічыць яе памылкі: энергічна і наступальна весці барацьбу з прыгнятальнікамі, праводзіць рашучыя меры супраць усіх тых, хто імкнецца стаць на нашым шляху, перашкаджае нам рухацца наперад.

Супраць чаго ўзнімаюць лямант, гвалт інтэлігенты, паслугачы буржуазіі? Вядома, супраць дыктатуры пралетарыяту — супраць насілля пралетарыяту і бяднейшага сялянства. Карацей кажучы, яны супраць народа, за «свабоду» (свабоду капіталістаў прыгнятаць народ). Іншай свабоды яны не прызнаюць. Для іх яна не існуе. Праўда, паслугачы капіталістаў робяць нам ласку — яны гатовы «прызнаць» сацыялізм, але пры ўмове (робяць ласку і ставяць яшчэ ўмовы): каб чалавецтва адразу пераскокнула ў сацыялізм. Скажам, сёння ўвечары яно лягло спаць, а заўтра ранкам прачнулася — і калі ласка, да яго паслуг усе выгоды сацыялістычнага грамадства.

Ні табе насілля, ні барацьбы — усё ціха, мірна. А ці ж такое можа



 

быць, панове? І тут успомнілася нямецкая прымаўка. Дакладна перакласці яе немагчыма, але сэнс яе быў такі — яны «гатовы» памыць скуру, толькі каб тая скура ўвесь час заставалася сухою. Менавіта так і інтэлігенцкія паслугачы буржуазіі гатовы «прызнаць» сацыялізм: каб і скуру памыць, і каб яна заставалася сухою. Але ж такога не бывае: буржуазія ўсімі сродкамі імкнецца вярнуць старое — права прыгнятаць народ, народ адстойвае сваё права быць гаспадаром свайго лёсу.

Калі ж буржуазія звяртаецца да жорсткіх мер супраціўлення — для інтэлігентаў гэта жах. Ім боязна, яны трапечуць, дрыжаць, енчаць аб неабходнасці пайсці на «згодніцтва».

Нас, сапраўдных сяброў пралетарыяту, не палохаюць крайнія меры супраціўлення буржуазіі — пралетарыят у барацьбе мацнее, вучыцца перамагаць. Гэтага нішто не можа даць — ні ялейныя пропаведзі, дэкламацыі... Барацьба (без барацьбы не можа быць рэвалюцыі) дапаможа пралетарыяту навучыцца перамагаць эксплуататараў.

І яшчэ («Гэта неабходна падкрэсліць», — падумаў ён): па меры таго, як расце супраціўленне буржуазіі — расце моц пралетарыяту і рэвалюцыйнага сялянства...

І зноў яму ўспомнілася фраза, недзе прачытаная ім — але дзе? Вядома, у адным з буржуазных выданняў. Толькі на старонках буржуазных газет, часопісаў можна сустрэць падобнае: «Бальшавікі ўжо два месяцы ва ўладзе, а замест сацыялістычнага раю мы бачым пекла хаосу, грамадзянскай вайны, яшчэ большай разрухі».

З гэтага і трэба пачынаць... Гэта тое, чаго яму не хапала, — гэта добры пачатак артыкула.

Ён спыніўся пасярод пакойчыка і нетаропка, раздумваючы і ўзважваючы пачатак артыкула, падышоў да стала. Хвіліну, другую ён яшчэ абдумваў. Прачытаў на слых. «Здаецца, усё-ткі пачатак неблагі», — падумаў Уладзімір Ільіч. Потым узяў ручку і пачаў пісаць. Пісаў таропка, бо часам думкі абганялі адна адну. Але, нягледзячы на гэта, фразы былі дакладныя, філігранна-адточаныя. Нездарма ж прадумана ім усё да дробязей.

«Бальшавікі толькі два месяцы ва ўладзе, — адкажам мы, — а крок уперад да сацыялізму зроблены ўжо велізарны. Не бачыць гэтага той, хто не хоча бачыць або не ўмее ацэньваць гістарычныя падзеі ў іх сувязі...» Кладліся на паперу раўнюсенькія ланцужкі сказаў.

За акном світала — надыходзіў снежаньскі марозны ранак. Але Уладзімір Ільіч не заўважаў гэтага — ён знаходзіўся ва ўладзе думак, фактаў, якія выстройваліся ў строгі лагічны паслядоўны ланцуг пасылак, меркаванняў, доказаў і вывадаў.

Ён не проста працаваў — гарэў, аддаючы артыкулу часціну свайго розуму і сэрца. Інакш ён не мог — аддаваўся справе ўвесь, напружана канцэнтруючыся на той ці іншай праблеме.

У дадзеным выпадку перад ім была праблема — адносіны розных класаў і груп да рэвалюцыі, да сённяшняга дня, да будучыні Расіі. Ён рашаў яе, гэтую праблему.

Іншага зараз для яго не існавала...

Аднекуль здалёк данёсся стук у дзверы. Ён спачатку не зразумеў і нават здзівіўся: хто гэта ноччу можа да яго зайсці? Жанчыны спяць, Рах'я — таксама. Каму там не спіцца? Мабыць, доктару нешта спатрэбілася.

— Калі ласка, — машынальна запрасіў ён, а сам працягваў працаваць. — Калі ласка, заходзьце!



Дзверы рыпнулі, Уладзімір Ільіч павярнуў галаву і ўбачыў Надзею Канстанцінаўну і Марыю Ільінічну.

— Што так рана?

— Як рана? Час снедаць, — паведаміла Надзея Канстанцінаўна.

— Снедаць? — і толькі цяпер ён заўважыў, што на двары пачаўся дзень, і было светла ў пакоі, і што лямпа гарэла дарэмна.

— Гм-м... Я тут перад снеданнем рашыў крышачку папрацаваць.

— Крышачку?! А ці спаў ты сёння, Валодзя?! — спытала Марыя Ільінічна.

— А як жа, Маняша, спаў... І даволі многа. Як лёг, дык нібы той сурок... — Уладзімір Ільіч усміхнуўся.

Надзея Канстанцінаўна ўзяла лямпу і пабоўтала — газы там амаль не было.

— Яно і бачна, як ты спаў... Мы ж прыехалі адпачываць.

— А я і адпачываю.

— За пісьмовым сталом.

— Ну дык і што. Тут і за пісьмовым сталом можна адпачываць. Паветра не тое, што ў Петраградзе, — чыстае, свежае...

## 13

Адна тэма — трынаццатая — з намечаных для распрацоўкі прыцягвала, не давала Уладзіміру Ільічу спакою. Сапраўды, як арганізаваць спаборніцтва ў новых умовах, ва ўмовах, калі краіна робіць першыя крокі да сацыялізму? Яму здавалася (дакладней, ён быў упэўнены), што і тэма і сама з'ява — спаборніцтва — мела зараз больш важнае (архіважнае!) значэнне. Гэта — практычныя ўжо крокі на шляху новага, нязведанага падарожжа.

Уладзімір Ільіч яшчэ працаваў над артыкулам «Запалоханыя крахам старога і змагаючыяся за новае», але ўжо яго думкі міжволі час ад часу накіроўваліся ў бок праблемы «Як арганізаваць спаборніцтва?», нараджаліся контуры новай працы. Праўда, ён стрымліваў свае думкі і прымушаў сябе працаваць над артыкулам — не ў яго звычаі пачатую справу не даводзіць да канца.

Калі ў чарнавым варыянце (а ён лічыў, што гэта толькі накіды артыкула, яго першы чарнавы варыянт, над якім яшчэ давядзецца шмат папрацаваць) артыкула «Запалоханыя крахам старога і змагаючыяся за новае» была пастаўлена апошняя кропка, ён ушчыльную прыступіў да працы пад назвай «Як арганізаваць спаборніцтва?». Назва яму надта падабалася — простае і дакладнае пытанне — як арганізаваць спаборніцтва на заводах, фабрыках, у вёсках — па ўсёй Расіі? На гэтае пытанне і патрэбна даць дакладны адказ — параду рабочым і сялянам.

І не толькі даць адказ, а неабходна пераканаць рабочых і сялян, што ім пад сілу арганізацыйная работа, што ў народзе шмат таленавітых кіраўнікоў-арганізатараў, якія могуць і павінны ўзяць арганізацыю працы, сам працоўны працэс у свае рукі. Нездарма ж гавораць — і гэта трэба памятаць — не святыя гаршкі лепяць...

І яшчэ, слова павінна ператварацца ў справу. Хопіць так званых р-рэвалюцыйных траскучых фраз. Нельга балбатнёю падмяняць жывую, паўсядзённую справу. Справа — і толькі справа! — галоўнае, па чым неабходна цаніць чалавека. Заклікі павінны правярацца практыкай.

...Думалася лёгка. Адна фраза змяняла другую: узнікалі цэлыя абзацы...

Колькі спісана паперы буржуазнымі літаратарамі — горы — аб прывабнасці жыцця пры капіталізме: тут, маўляў, усё да тваіх паслуг — працуй, праяўляй ініцыятыву, прадпрымальнасць, спаборнічай... Хлусня! Пры капіталізме няма і не можа быць сапраўднага спаборніцтва. Там не спаборнічаюць — канкурыруюць. А канкурэнцыя — гэта жорсткае падаўленне ініцыятывы, пачыну, энергіі працоўнага чалавека.

Жывое спаборніцтва капіталізм падмяніў фінансавым ашуканствам, махлярствам, прыслужніцтвам тым, хто знаходзіцца на самым версе сацыяльнай лесвіцы.

Канкурэнцыя — гэта хто каго? Хто каго хутчэй задушыць — вось сэнс капіталістычнага спаборніцтва, панове буржуазныя пісьменнікі.

Зусім іншае пры сацыялізме. Ствараюцца ўмовы (канфіскацыя панскай зямлі, нацыяналізацыя банкаў, рабочы кантроль на прадпрыемствах, а наперадзе — нацыяналізацыя фабрык, заводаў, арганізацыя спажывецкіх таварыстваў), якія ўзнімаюць спаборніцтва на новую, вышэйшую ступень, робяць яго сапраўды масавым. Цяпер для кожнага ёсць магчымасць праявіць свой талент, свае здольнасці, бо кожны працуе на сябе.

Замена паднявольнай працы — і гэта ўсім вядома — працай на сябе, на грамадства не можа прайсці без канфлікту, гладзенька, ціхенька. Эксплуататары (а іх падтрымліваюць і інтэлігенты) супраціўляюцца. Адсюль і прымяненне сілы з боку пралетарыяту.

Але замена паднявольнай працы свабоднай працай на сябе акрамя жорсткіх («ваенных» — будзем так лічыць) патрабуе вялікіх мер арганізацыйных з боку пралетарыяту. Абедзве гэтыя праблемы (лепш, відаць, сказаць — задачы) сплятаюцца ў арганічнае цэлае — адной «ваеннай» ці арганізацыйнай меры недастаткова, каб зрабіць наступны крок да сацыялізму.

Капіталісты і памешчыкі мяркуюць так: без іх пралетарыят і сялянства не справяцца з другой задачай — арганізацыйнай. Дарэмна так думаюць эксплуататары, дарэмна. Ужо зараз многія (а чым далей, тым іх будзе больш) передавыя адукаваныя людзі пераходзяць на бок народа, уключаюцца ў мірную стваральную працу. Гэта, панове капіталісты і памешчыкі, па-першае. А па-другое, народ багаты на таленты. Вельмі багаты. Стагоддзямі вы прыціскалі, душылі народныя таленты, не давалі ім магчымасці праявіць свае здольнасці. І наша задача (відаць, зараз самая галоўная) знайсці гэтыя таленты, падштурхнуць іх на творчую, арганізацыйную працу. Я глыбока перакананы ў тым, што арганізацыйная работа (а вы, панове капіталісты, лічылі яе толькі сваёй доляй) пад сілу простаму радавому рабочаму і селяніну. Тут пакуль што адна замінка: пралетарыят яшчэ не ўсвядоміў, што ён цяпер пануючы клас, што ён павінен арганізоўваць масы, накіроўваць іх на выкананне тых ці іншых праблем. Адсюль, менавіта адсюль — тая нерашучасць, баязлівасць у пытаннях арганізацыйных, творчых. І тут мы, бальшавікі, павінны дапамагчы яму...

Арганізацыйныя пытанні, думаў ён, цесна звязаны з эканамічнымі. Зараз (у артыкуле гэта неабходна падкрэсліць!) галоўнай эканамічнай задачай з'яўляецца ўлік і кантроль — паўсюдны, усеагульны, універсальны, масавы, — улік і кантроль за колькасцю і за размеркаваннем прадуктаў. Рабочыя і сяляне павінны стаць дбайнымі гаспадарамі сваёй краіны. У гэтым сутнасць сацыялістычных пераўтварэнняў, залог перамогі над старым, над галеччу і голадам. У нас усяго хопіць — хлеба, жалеза, воўны, ільну... Толькі патрэбен усенародны ўлік і кантроль. Тады мы пераможам эканамічна ўсіх тых, хто нам перашкаджае, — буржуяў, памешчыкаў, жулікаў, дармаедаў, хуліганаў — гэтых паразітаў, якіх узгадаваў і пакінуў нам у спадчыну капіталізм.

Каб арганізаваць сапраўдны ўлік і кантроль, які пад сілу кожнаму чэснаму чалавеку, неабходна з пралетарскіх мас выклікаць да актыўнага жыцця народныя таленты, наладзіць у дзяржаўным маштабе спаборніцтва ў адносінах арганізацыйных поспехаў... Як зараз патрэбна арганізацыя кантролю за тым, каб слова ператваралася ў справу, як патрэбны арганізатары-практыкі з народа. Без іх дапамогі, кіруючай ролі не абысціся. Рабочыя і сяляне зараз павінны зразумець: уся справа ў практыцы. Наспеў той час, тая эпоха, калі тэорыя ператвараецца ў практыку. Гэтая думка адразу ж набыла чаканную фармулёўку.

«Яны павінны зразумець, — напісаў Уладзімір Ільіч, маючы на ўвазе рабочых і сялян, — што зараз уся справа ў практыцы, што надышоў іменна той гістарычны момант, калі тэорыя ператвараецца ў практыку, ажыўляецца практыкай, выпраўляецца практыкай, правяраецца практыкай, калі асабліва правільнымі з'яўляюцца словы Маркса: «усякі крок практычнага руху важней за дзюжыну праграм», — усякі крок у справе практычна рэальнага абуздвання, скарачэння, узяцця пад поўны ўлік і нагляд багатых і жулікаў важней за дзюжыну вельмі добрых разважанняў аб сацыялізме».

І тут Уладзімір Ільіч успомніў Гётэ, а дакладней — радкі з «Фаўста»: «Теория, друг мой, сера, но зелено вечное дерево жизни»...

У час апошняга падполля, калі ён жыў з ласкі пана Керанскага на кватэры Маргарыты Васільеўны Фафанавай, трапілася неяк яму на вочы кніжка Гётэ «Фауст» у перакладзе Мікалая Халадкоўскага. Выданне было цудоўнае — папера бялюткая, тоўстая, прыгожыя малюнкі, застаўкі.

На тытульнай старонцы марка выдавецтва — тры літары «АФД», што азначала: Альфрэд Фёдаравіч Дэўрыен, гаспадар выдавецтва. Але, наколькі яму было вядома, Дэўрыен выдаваў літаратуру па пытаннях сельскай гаспадаркі, геаграфіі, прыродазнаўства. Праўда, часам ён выдаваў і дзіцячыя кніжкі, але мастацкая літаратура, як яму помніцца, у гэтым выдавецтве не выходзіла. А тут чамусьці выдаў «Фаўста» Гёте ў перакладзе Халадкоўскага.

— Не здзіўляйцеся, — сказала яму тады Маргарыта Васільеўна. — Мікалай Аляксандравіч Халадкоўскі, як вам вядома, выдатны вучоны-заолаг, аўтар шматлікіх навуковых прац па энтамалогіі, паразіталогіі, дарвінізму. Пераклады — гэта яго захапленне. Дэўрыен у знак павагі да вучонага і выдаў «Фаўста» Гётэ ў перакладзе Халадкоўскага. Дарэчы, Мікалай Аляксандравіч пераклаў не толькі «Фаўста», але і некаторыя творы Байрана, Лангфела, Шылера. Яго пяру належаць пераклады так званых «сусветных паэм» — «Трагедыя чалавецтва» венгра Мадача, «Вызвалены Праметэй» аўстрыйца Ліпінера, «Згублены рай» англічаніна Мільтана, «Храм прыроды» Дарвіна...

— Гм... Так, так, я цяпер успамінаю: у 1914 годзе Халадкоўскі за пераклад «Фаўста» ўдастоены Поўнай Пушкінскай прэміі Расійскай Акадэміі навук, — сказаў Уладзімір Ільіч і пачаў гартаць кніжку. Увагу яго прыцягнула прадмова перакладчыка.

«Стварэнню «Фаўста» Гётэ прысвяціў некалькі дзесяткаў год, — пісаў Халадкоўскі. — Тое ж можна сказаць і пра перакладчыка: пачаў я перакладаць «Фаўста» шаснаццацігадовым юнаком, а ў сённяшнім... — Уладзімір Ільіч паглядзеў на вокладку (гэта было дванаццатае выданне — выданне 1914 года), — адпрацаваным (хаця, магчыма, усё яшчэ не канчатковым) выглядзе выдаю яго ўжо пабелены сівізною...»

Творы Гётэ Уладзімір Ільіч любіў, асабліва яго «Фаўста». Калі ехаў за мяжу выдаваць «Искру» (а ўжо тады ведаў — няхутка вернецца ў Расію), з сабою ўзяў акрамя кніжак па эканоміцы, гаспадарцы толькі дзве мастацкія кнігі — томік вершаў Някрасава і «Фаўста» Гётэ... «Фаўста» ён чытаў (амаль усяго ведаў на памяць) па-нямецку.

Што яго прыемна ўразіла тады, калі ён на кватэры Маргарыты Васільеўны гартаў «Фаўста» Гётэ ў перакладзе Халадкоўскага, — гэта тое, што пераклад быў зроблены няблага — ён быў блізкі да арыгінала. І яму падумалася: у адной асобе добра ўжываліся вучоны і паэт. У свой час Уладзіміра Ільіча прывабіла думка Гётэ адносна тэорыі і практыкі. Вялікі немец быў сапраўды Вялікі, калі так смела (у эпоху тэарэтычных спрэчак, часам схаластычных) лічыў: тэорыя без практыкі — толькі адна тэорыя — шэрая, нежывая, мёртвая рэч. Заўсёды будзе зелянець дрэва жыцця.

І ён пачаў шукаць гэта месца. Знайшоў і прачытаў:

Суха, мой друг, теория везде,
А древо жизни пышно зеленеет!

Не зусім дакладна (хаця і вельмі блізка да арыгінала) і неяк непаэтычна: «Суха, мой друг, теория везде...» Для чаго «вездзе»? Дакладней, калі ўжо на тое пайшло, «вообще».

А лепш так:

Тэорыя, мой дружа, шэрая,
Але зелена вечнае дрэва жыцця.

Прывёўшы ў артыкуле словы з «Фаўста» ў сваім перакладзе, усміхнуўся: нават Гётэ, гэтага даволі пасрэднага прускага міністра і геніяльнага паэта, прымусіў працаваць на сацыялізм...

Думкі яго паступова ўваходзілі ў рэчышча задуманай працы аб спаборніцтве, зноў забіралі ў палон, прымушалі канцэнтраваць увагу толькі на праблемах артыкула...

Спаборніцтва практыкаў-арганізатараў... Тут неабсяжны прасцяг для творчай ініцыятывы — ніякага шаблону, аднастайнасці, «кіраўніцтва» зверху. Парыжская камуна паказала вялікі ўзор яднання, пачыну, самастойнасці, энергіі — размаху знізу — і добраахвотнага цэнтралізму зверху. Саветы ідуць па гэтым шляху; праўда, яшчэ нясмела, з нейкай палахлівасцю. Яшчэ і дагэтуль разгарнулі працу далёка не ў поўную сілу. А трэба і ім праяўляць больш ініцыятывы, каб справа спаборніцтва па ўліку і кантролю набыла ўсенародны характар.

Тут жа абдумаў праграму ўліку і кантролю і палічыў неабходным давесці яе да чытача:

— Праграма... уліку і кантролю простая, ясная, зразумелая ўсякаму: каб хлеб быў у кожнага, каб усе хадзілі ў спраўным абутку і ў непадранай вопратцы, мелі цёплае жыллё, каб ні адзін жулік (у тым ліку і той, хто ўхіляецца ад работы) не гуляў на свабодзе, а сядзеў у турме або адбываў пакаранне на прымусовых работах найцяжэйшага віду, каб ні адзін багаты, які адступае ад правілаў і законаў сацыялізму, не мог ухіліцца ад лёсу жуліка...

Тады практычна будзе наладжана жыццё краіны па запаведзі сацыялізму: «Хто не працуе, той не есць».

— Формы і метады ўліку і кантролю? — задаў ён сам сабе, як чытач, пытанне. — Іх многа — але ўсе яны павінны быць выпрацаваны і апрабаваны на практыцы самімі працоўнымі. Тут павінна быць ініцыятыва мас.

— Мэта? — зноў задаў ён сабе пытанне. — Мэта адзіная — ачыстка зямлі нашай ад паразітаў: жулікаў, дармаедаў, эксплуататараў.



У адным месцы, скажам, пасадзяць жулікаў у турму, а ў другім прымусяць чысціць туалеты, у трэцім — пасадзяць у карцэры... Чым разнастайней, тым лепш — практыка дасць магчымасць выпрацаваць найлепшыя прыёмы і тэрміны барацьбы...

Неабходна (чаго б гэта ні каштавала) дамагчыся, каб не было галодных, беспрацоўных, багатых дармаедаў, каб большая была працоўная аддача, каб будаваліся дамы для рабочых, каб кожнае дзіця мела бутэльку малака. Вось тыя пытанні, на якіх павінна быць арганізавана спаборніцтва...

## 14

Ранак выдаўся пахмурны. Густы туман ахутаў наваколле. Уладзімір Ільіч адхінуў фіранку і паглядзеў: ледзь-ледзь праглядваліся дрэвы, санаторныя будынкі.

Панавала задумлівая цішыня.

Ішоў чацвёрты — апошні дзень адпачынку.

Учора позна вечарам ён начорна закончыў артыкул «Як арганізаваць спаборніцтва?», дзе мімаходзь «зачапіў» адну з важных бліжэйшых задач — стварэнне таварыства спажыўцоў. Там ён заўважыў:

— Наступнымі крокамі будуць нацыяналізацыя фабрык і заводаў, прымусовая арганізацыя ўсяго насельніцтва ў спажывецкія таварыствы... І далей растлумачыў: гэтыя таварыствы збыту прадуктаў, дзяржаўная манаполія гандлю хлебам і іншымі неабходнымі прадметамі.

Сёння ён вырашыў зрабіць спробу ўсебакова разгледзець гэтую праблему, бо ведаў: у Петраградзе і хвіліны не будзе вольнай. І другое ведаў — яго ідэю стварэння таварыстваў спажыўцоў у штыкі сустрэнуць буржуазныя кааператары, яна падразае на корні эксплуататарскую сутнасць буржуазнай кааперацыі... Што ж — на тое і сацыялістычная рэвалюцыя, каб змагацца, праводзіць у жыццё ідэі сацыялізму.

І тут жа прыйшоў да думкі: напісаць артыкул у яго не хопіць часу, а вось прадумаць (і добра было б, каб паспеў і напісаць) тэзісы бадай што можна. Папярэднія тэзісы (ён потым так і назаве іх — «Папярэднія тэзісы») дапамогуць яму (і таварышам з наркамата прадуктаў, Савета народных камісараў) глыбей, дакладней зразумець сацыялістычную сутнасць таварыства спажыўцоў. А гэта так важна, так неабходна. Патрэбны прыхільнікі гэтай ідэі, саюзнікі. Ворагаў будзе больш чым дастаткова. У гэтым ён не сумняваўся.

Чым выклікана неабходнасць стварэння органаў, якія б займаліся забяспечваннем насельніцтва прадуктамі харчавання і іншымі неабходнымі рэчамі?

Назваць іх можна па-рознаму — аддзелы ў Саветах, «дэлегаткомы», «камітэты забеспячэння і збыту», як прапануе наркамат на прадуктах, — не ў гэтым сутнасць. Яна ў іншым — старыя прадуктовыя органы сабатавалі распараджэнні, дэкрэты Савецкай улады.

У пытаннях забеспячэння краіна знаходзілася (знаходзіцца і зараз) у цяжкіх умовах — насоўваецца голад. На гэта і разлічвалі ворагі: маўляў, голад, анархія задушаць рэвалюцыю.

Камісарыят прадуктаў выдаў дырэктыву мясцовым Саветам аб арганізацыі прадуктовага апарату, аб камісарах забеспячэння... Усё гэта, вядома, важна, неабходна, але ж таварышы з Наркампрода сёе-тое ўпусцілі, недадумалі...

А час не чакае.

На яго думку, ячэйкай такога таварыства павінны стаць спажывецка-вытворчыя валасныя саюзы, якія павінны выконваць ролю камітэтаў забеспячэння і органаў збыту. Гэта ў вёсках. А ў гарадах — камітэты па кварталах, вуліцах. І калі такія ячэйкі будуць створаны па ўсёй краіне — яны змаглі б арганізаваць забеспячэнне працоўнага насельніцтва ўсім неабходным... Кожны такі саюз (або камітэт, або савет, або... справа не ў назве) падзяляўся б на аддзелы па вытворчасці, збыту і па відах прадуктаў забеспячэння для агульнага рэгулявання вытворчасці і спажывання (аддзел фінансавання, або даходаў і расходаў у грашах, павінен быць пры кожным камітэце). Тады такія камітэты пры ўмове падаходнага абкладання і крэдытавання, а таксама ўсеагульнай працоўнай павіннасці маглі б стаць ячэйкамі сацыялістычнага грамадства...

Узнікае пытанне: як весці куплю-продаж? Відаць, толькі паміж імі — камітэтамі. Індывідуальны збыт, відаць, неабходна забараніць. Інакш — узнікне спекуляцыя, імкненне пажывіцца за кошт другога.

Але на некаторыя выключэнні можна пайсці, скажам, прадукты можна прадаваць асобным грамадзянам з цэнтральных складаў. Толькі пры строгім кантролі і ўліку.

І яшчэ: без пасведчанняў ад камітэтаў па забеспячэнню і збыту нельга дазваляць перавозку прадуктаў.

І тут узнікае цікавае аб'яднанне: камісарыяты земляробства, гандлю і прамысловасці, працы, прадуктаў, фінансаў, шляхоў зносін пад эгідай Усерасійскага Савета народнай гаспадаркі (УСНГ).

— Гм... Так... А калі... — і ён напісаў:

«Камітэты забеспячэння і збыту»: валасныя, павятовыя, губернскія, раённыя ($\Sigma\Sigma =$ УСНГ).

Іх аддзелы: Цэнтратканіна, Цэнтрацукар, Цэнтравугаль і г. д. ($\Sigma\Sigma =$ $=$ УСНГ), Цэнтрабанк і г. д.».

Ён любіў звяртацца да крыптаграмы — ΣΣ — Summa Summarum — Агульны вынік. Яна здавалася яму больш дакладнай, строгай.

— Ну як?! Магчыма такое? — спытаў ён сам сябе. — Магчыма?

Ён доўга па дыяганалі перамерваў крокамі свой пакойчык, раздумваючы (ужо не па праблемах спажывецкіх таварыстваў, не, — іх пабудова, задачы, мэта, формы і метады працы для яго ўжо былі бачны, раскладзены на палічках, як любіў ён гаварыць) над пытаннем, магчыма ці немагчыма такое зараз правесці ў Расіі? У тым, што спажывецкія таварыствы пад кантролем дзяржавы — гэта будучае Расіі, — ён не сумняваўся. Яго даймала, турбавала іншае — неабходна, каб гэтай ідэяй прасякліся супрацоўнікі савецкага апарату, рабочыя, сяляне. Каб яны зразумелі, усвядомілі, нарэшце, спазналі і ўспрынялі ідэю стварэння спажывецкіх камун, як сваю крэўную справу. Тады поспех, адзін важны крок да сацыялізму — крок практычны, неабходны і вельмі важны.

Канечне, і ў гэтым ён таксама не сумняваўся, супраць яго плана адразу ж выступяць — са злосцю, нянавісцю — усе капіталісты, іх паслугачы і, вядома, буржуазныя кааператары. Дзяржаўны кантроль (эгіда!) ім не даспадобы: ён падрывае карэнні спекуляцыі, нажывы, эксплуатацыі, падрывае аснову капіталістычнай гаспадаркі. Ворагі без бою не здадуцца...

— І ўсё-такі магчыма. Цяжка, але магчыма. — Ён спыніўся ля стала, сеў на крэсла і падсунуў аркуш са сваімі «Папярэднімі тэзісамі». Паставіўшы лічбу «2», напісаў: «Праект дэкрэта».



Зараз для яго было надта важным выкласці на паперы хаця б агульныя думкі (канкрэтызаваць можна і потым). А яны — думкі — віхурыліся: з'яўляліся, знікалі — рой думак...

На паперы адна за другой складваліся дакладныя фразы-фармулёўкі дэкрэта:

— Вайна... прывяла краіну да нечуванай дагэтуль разрухі... Спекуляцыя абвастрыла... разруху, давяла да пакут голаду і беспрацоўя сотні тысяч і мільёны людзей...

Неабходнасць надзвычайных мер для дапамогі галодным і для бязлітаснай барацьбы са спекулянтамі пабуджае... урад устанавіць як закон Расійскай рэспублікі наступныя правілы:

Усе грамадзяне... павінны належаць да мясцовага спажывецкага таварыства...

...Кожнае спажывецкае таварыства кіруе, апрача закупкі і размеркавання прадуктаў, справай збыту мясцовых прадуктаў. Праўленні спажывецкіх таварыстваў утвараюць **камітэты забеспячэння...** Без пісьмовых пасведчанняў ад... камітэта забеспячэння ніякая перавозка прадуктаў не дазваляецца...

Перавозка і купля-продаж прадуктаў без пасведчанняў ад камітэтаў забеспячэння караецца канфіскацыяй... маёмасці вінаватага, турэмным заключэннем на тэрмін не менш паўгода...

...Усе камітэты забеспячэння дзейнічаюць пад кантролем і па ўказаннях мясцовых Саветаў...

Праз сваё спажывецкае таварыства кожны мае магчымасць набываць любыя прадукты...

Прадукты, якія вырабляюцца для збыту, абавязкова здаюцца ў мясцовы камітэт забеспячэння...

— Валодзя! — пачуўся за дзвярыма голас Марыі Ільінічны. — Хадзем у лес.

— Крышачку пачакайце... Хаця ідзіце, я хутка... Даганю вас.

Думкі ўзнікалі адна за другой, і, каб не забыцца потым, ён імкнуўся выкласці сёе-тое на паперы...

Уладзімір Ільіч працаваў, забыўшыся на прагулку, а калі ўспомніў — мінула больш гадзіны.

— Гм... жанчыны пакрыўдзяцца...

На ганку Уладзіміра Ільіча чакаў сабака. Сабака паглядзеў на яго такімі вачыма, што Уладзімір Ільіч міжволі сказаў:

— Што ж, пайшлі.

Сабака нібы і чакаў гэтых слоў: весела скокнуў з ганка і пабег наперадзе Уладзіміра Ільіча па сцяжынцы.

У лесе сабака аббегваў кусты, кідаўся ў гушчар, шукаючы дзічыну. Уладзімір Ільіч ішоў не спяшаючыся па сцяжынцы і працягваў абдумваць работу, што пакінуў на стале. Цішыня. Толькі яго стары знаёмы стракаты дзяцел абстукваў дрэвы.

Раптам збоку за кустамі забрахаў сабака. Уладзімір Ільіч хуценька пайшоў на брэх. За кустамі ўбачыў: сабака стаяў на задніх лапах, а пярэднімі ўпіраўся ў таўшчэзную сасну і, задраўшы ўверх галаву, брахаў.

«На сасне, відаць, хаваецца вавёрка», — падумаў Уладзімір Ільіч. І сапраўды, хутка ён убачыў сярод густой хвоі звярка, які здзіўлена вочкамі-пацеркамі разглядаў сабаку.

— Хопіць брахаць. Навошта нам з табою гэтая лясная прыгажуня? Няхай сабе скача ды радуецца... Хадзем адсюль!

Сабака недаверліва паглядзеў на Уладзіміра Ільіча, быццам бы пытаючыся: «Чаму не страляў? Я знайшоў, затрымаў...»

— Хадзем, хадзем! — і ён пагладзіў сабаку.

Яны вярнуліся на сцяжынку і прайшлі ў глыбіню лесу, але жанчын не знайшлі.

— Куды ж яны падзеліся, Жулік?

Сабака спыніўся і пільна слухаў.

— Усё ты разумееш, толькі што не гаворыш... — і Уладзімір Ільіч павярнуў назад. За ім ішоў з панурай галавою сабака...

**15**

Перад ад'ездам у Петраград, пакуль жанчыны збіралі рэчы, Уладзімір Ільіч прагледзеў тое, што напісаў за чатыры дні адпачынку. Застаўся незадаволены.

— Мала і не зусім глыбока, — сказаў ён.

Праз гэтыя нататкі, артыкулы ён ішоў да фундаментальнай працы аб далейшых кроках Расіі да сацыялізму. Яму бачылася праца, якую ён пазней назаве «Чарговыя задачы Савецкай улады...».

— Валодзя, — паклікала Надзея Канстанцінаўна. — Ты нічога не забыў?

— Здаецца, Надзюша, не. Вось толькі мае паперы трэба некуды пакласці...

Развіталіся сардэчна.

— Удзячны вам, Мікалай Іванавіч, вельмі ўдзячны, — гаварыў Уладзімір Ільіч. — Адпачылі добра.

— Дзе там добра. Вы ж увесь час працавалі за пісьмовым сталом. Прыязджайце яшчэ і на больш працяглы тэрмін. А то што тыя чатыры дні. Да таго ж усякую работу пакідайце ў Петраградзе.

— Як-небудзь яшчэ завітаем. Да пабачэння!

Ірванулі коні і панесліся па лясной дарозе...

— Засталася чамусьці ў памяці зімовая дарога, — успамінала потым Надзея Канстанцінаўна, — паездка праз фінскія сасновыя лясы, цудоўны ранак і заклапочанасць задумлівага твару Ільіча. Ён думаў аб барацьбе, якая была наперадзе.

□

Ранкам 28 снежня Аляксандра Міхайлаўна Калантай атрымала запіску. Разгарнула яе, а там рукою Уладзіміра Ільіча было напісана: «Вяртаю Вам з удзячнасцю і ў поўнай захаванасці кажухі з інвентара Вашага Наркамата. Яны нам вельмі спатрэбіліся. Нас захапіла снежная бура. У самім Халіла было добра. Фінскіх марак Вам пакуль не пасылаю, але я прыблізна падлічыў, што складае гэта ў рускіх грашах, гэта значыць 83 рублі, іх і прыкладаю. Ведаю, што ў Вас няважна з фінскімі. Ваш Ленін».

...Пасля чатырохдзённага «адпачынку» Старшыня Савета Народных Камісараў Уладзімір Ільіч Ленін прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.



# Публіцыстыка

# ДЗВЕ ДАРОГІ



Знешне яны чымсьці вельмі падобныя. На першы погляд можа здацца: сваякі. Але людзі гэтыя блізкія не па сваяцтву—па клопату. Абодва працуюць і жывуць на вёсцы. Карэнныя вясковыя людзі. Абодва—Героі Сацыялістычнай Працы. Імёны іх вядомы на ўсю рэспубліку. Канстанцін Васільевіч Шавель—механізатар, бульбавод, атрымаў сваю геройскую зорачку гадоў пятнаццаць назад. У тым жа годзе паставіў ён у сваім калгасе «Усход» Мінскай вобласці эксперымент, палічыўшы высокую ўзнагароду за працу своеасаблівым для таго дазволам: дзейнічай! Чалавек, паводле яго пераканання, павінен не толькі ўмець перакрываць свае і чужыя рэкорды, але яшчэ і выпрабаваць сябе ў чымсьці вельмі вялікім. І Шавель пачаў будаваць новы дом.

Старшыня магілёўскага калгаса «XVII партз'езд» Іван Ігнатавіч Мельнік стаў героем працы зусім нядаўна. Так быў адзначаны яго ўласны старшынёўскі эксперымент, які ён доўга і ўпарта ўкараняў у гаспадарцы. І вось сустрэліся аднойчы Шавель з Мельнікам. Распачалі гаворку пра вёску сённяшнюю, пра будучае. І заспрачаліся. Шмат у чым не пагаджаючыся адзін з адным. Мельнік пераконваў у сваіх перавагах, Шавель адстойваў свой пункт гледжання.

**Іван Ігнатавіч Мельнік:**

— Якіх толькі не цярпела ўмяшанняў наша вёска за апошнія трыццаць гадоў. Колькі прынята пастаноў розных... Папнавата ўзяліся думаць, як змяніць такія абыякавыя адносіны да вёскі ў маштабах краіны, цэнтралізавана. Добрага, разумнага вопыту набыта ў нас дастаткова, але ўся бяда: рассыпаны ён па розных закутках, як па полі бульба. Не абагульнены. Гаворым быццам правільна: трэба паляпшаць вытворчую і сацыяльную базу. А на справе? Быццам не разумеем значэння слоў. Усё роўна на першым месцы план, справаздачнасць. Ну, а сам чалавек? Мне цікава: ці ведае хто-небудзь сёння ў аграпраме, які настрой у старшынь калгасаў-мільянераў? Не колькі мільёнаў у казне—гэта ведаюць усе да аднаго, а пра што думаюць, што ім баліць?

Адыдзіце на некалькі кіламетраў ад нашай гаспадаркі і трапіце быццам у іншую эпоху. Запусценне і застой. Атрымліваецца, лёгка стала Мельніку абганяць адстаючых. Не, мне ў сто разоў складаней. Таму што надакучыла радавацца толькі за сябе. Свой эксперымент развіваецца, развіваецца, а ў суседзяў як было, так і ёсць, а то і горш. Кажуць: у цябе добра, у цябе сучасна, а не пераймаюць!

**Канстанцін Васільевіч Шавель:**

— Я, Іван Ігнатавіч, тое ж самае на сабе адчуваю. Не магу зразумець: адкуль такая ўпартая пагарда да любой навізны адразу ва ўсёй вёскі? Нават да таго відавочнага і натуральнага, што спрадвеку лічылася сутнасцю вясковага жыцця. А ты здзіўляешся, што не ўкараняюць твой дзяржразлік.

Мая думка якая была? Даць сваёй вёсцы адзін просты прыклад. Паспрабаваць зрабіць прышчэп і сабе, і аднавяскоўцам. Таму што я сам, бывала, сумняваўся: вясковы я ці не? Чаму, столькі гадоў пражыўшы ў бацькавай хаце, ні разу не засумаваў па ёй? Прыглядзеўся, ніхто даўным-даўно не сумуе. Можа, і трэба? Ад такіх думак мне стала цесна жыць. На душы камень. Ні высокі ўраджай, ні ўзнагароды—не радасць. І віншаванні—не да душы. Віншаваць і ўзнагароджваць мы навучыліся. Затое развучыліся чуць чалавека. Што з ім? Пра што думае? Пра што маўчыць?

Я пайшоў да старшыні і пачаў яму даводзіць: хачу на прастору, хачу будавацца. Але толькі каб на вачах ва ўсёй вёскі. Адным словам, вырашыў пабудаваць катэдж пад нумарам адзін—быццам бы сімвалічны для вёскі. Старшыня згадзіўся, а заадно, дзеля жарту, выдаў мне шыльдачку: «Дом № 1». Высветлілася, што гэта быў злы жарт. Я ж захапіўся будоўляй, і мне стала так хораша: за ваколіцай алешнік веерам, за алешнікам—маё бульбянішча. Закруціўся. Кожны дзень ля дома. Ад праекта да шпалераў—усё сам. Думаў, што я пераможца. А адчуў пачуццё паражэння: мой дом так і застаўся адзіны. Першы і апошні. Прышчэп мой не прыжыўся. Няўжо я будаваўся дарэмна?

**І. І. Мельнік:**

— Ну, дапусцім, праўда была на тваім баку—свой дом будаваў. Узняў аблогу. Уладкаваў падворак. Пасадзіў сад. А калі паглядзець наўкола сваёй новай хаты? Купіна на купіне. Ні дарогі. Ні дрэў. Ні кустоў. Ні кветак. Ніякага добраўпарадкавання. Ты будаваўся адзін, і таму так атрымалася: не зрэагавала на цябе вёска. І калгаснае праўленне не зрэагавала, калі ўсе людзі маўчалі, не падтрымлівалі цябе. Для сябе, быццам бы ўзбунтаваўшыся, рабіў, ты не здзівіў нават вёску. Разганяў толькі свой сум: самым звычайным чынам будаваў самы звычайны дом.

Фокус у тым, каб будаваць у вёсцы незвычайна—гэтага і чакаюць людзі. Калі ўжо назвалі дом катэджам, дык давайце зробім яго лепшым, чым гарадская кватэра. Адразу і дарогу, і цяпло, і ваду, і каналізацыю—поўнае добраўпарадкаванне, а не напалавіну, не на чвэрць. Бо ў нас пакуль што заведзена паўсюдна лічыць, што «ўсе зручнасці»—гэта для горада. А ў вёсцы «пакуль што» добра і так?!

**К. В. Шавель:**

— Але мяне задавальняе менавіта такі дом. Я выкапаў у двары калодзеж. За ваколіцай выкапаў сажалку. Карасікаў запусціў у яе. Не для стала, а для прыгажосці. Мне прыгожа, што карасікі проста на дне маёй сажалкі дрэмлюць. І крыніца б'е ў двары, а не водаправод шуміць. Жывая вада. Разумееш? І прастора заштрыхавана алешнікам толькі ў мяне. І яблыні ў садзе не абы-якія, дзівосныя гатункі. І клёны садзіў, і тую. Хацеў, каб суседзі і бачылі, і перанялі. Садзяць жа што? Яблыні, вішні, слівы. У агародзе—буракі, цыбулю, часнок. Старая, не тое што маладая, гаспадыня ўжо не адрозніць каляндру ад пятрушкі. Неахвота ў галаву браць, думаць над агародам. А бабулі таксама дзіўныя. Павяжуць белыя хусцінкі і на лавачку: га-га-га... На ўнукаў сваіх не глядзяць.

**І. І. Мельнік:**

— Дык вось і трэба будаваць катэджы для цэлага роду. Можна нават родавым маёнткам такія дамы называць. Не ў назве сутнасць, а ў вялікай карысці, у разліку на перспектыву. Тут жа старажытная эстэтыка новага жыцця. Пад адным дахам і мама, і тата, і бабуля, і дзядуля, і ўнук. Сэнс жыцця. Паспрабуй потым кінь такое гняздо. З іншага боку, вальней: маладыя, калі хочуць, паехалі ў водпуск. Старыя не на лавачку, а да ўнукаў. Я—за такі катэдж, а не за распісную пацёмкінскую вёску, якую мы зараз будуем. Толькі раней яна была мазанкаю, пад саламянай страхой, а зараз апранаем у цэглу ды шыфер, але гэта амаль нічога не іначыць. А паліць у печы, як правіла, няма чым. І з вадой гора адно—вынікі меліярацыі даюць сябе адчуваць амаль па ўсёй рэспубліцы. Табе таксама, напэўна, калодзеж свой трэба глыбей капаць?

**К. В. Шавель:**

— Трэба, трэба. І я буду з задавальненнем капаць і шукаць сваю ваду. Каму шукаць, як не мне, гаспадару зямлі і вады? Можа, хто яшчэ, акрамя мяне дакапаецца, хоць бы мой сын ці ўнук. Не сляпы, выдатна бачу, што з гэтай знікшай вадой мы страцілі штосьці намнога больш сур'ёзнае ў чалавеку, чым проста ваду. Пачуццё гаспадара, пачуццё адказнасці... Пераканалі сябе людзі, што калі яны забралі гэтую зямлю ў балотаў, здабылі сваімі рукамі, карацей кажучы, самі яе стварылі, значыць, браць могуць да апошняй кроплі, не вяртаючы даўгоў. Цяперашнія ўраджаі бульбы ў мяне таксама ўдвая меншыя за першыя, геройскія. Выбралі ўрадлівы плаз. Не папаўняем яго. З гаспадароў зямлі ператвараемся ў дармаедаў. Трэба мець шчырасць прызнацца. Самае страшэннае, калі прыгажосць душы перастае супадаць з прыгажосцю прыроды. І з прыгажосцю работы. А пустэча зямлі—гэта пустэча душы. І мы хочам, каб маладыя чалавек пасля ўсяго, што здарылася з бацькамі, будавацца пачаў на нашым пясочку! Да таго ж, самі ж прывучылі дзяцей: дай! Дом «дасць» калгас. Машыну «дадуць» маці з бацькам. Яны ж «дадуць» на мэблю, халадзільнік і посуд крыштальны. Але не, сынок той дом казённы яшчэ і ганьбіць. Машына ў яго ржавее (няма куды ездзіць)—купіў жа не за свае. Крышталь пыліцца... Разумееш, куды я гну? Наш дабрабыт, на які мы ўсё жыццё працуем, не працуе ў выніку на нас, на культуру чалавека. Не прывязвае як след да зямлі, а наадварот...

**І. І. Мельнік:**

— Гэта тое, за што я б'юся ўжо амаль трыццаць гадоў. І пераканаўся: трэба эканамічна зацікавіць маладога чалавека. Выхоўваць эканомікай. Аднымі словамі тут не праймеш. Кааператыўная кватэра ў горадзе колькі каштуе? Пяць—дзесяць тысяч. А добрая хата на вёсцы? Тысяч сорак! Розніца ёсць? Значыць, падключай эканоміку сваёй гаспадаркі. Няхай чалавек гэтыя пяць тысяч у казённы дом укладзе ці хоць бы тры-чатыры. Няхай і ў растэрміноўку, але ўкладзе, і лічыць яго сваім. Аддай бясплатна—нічога не будзе рабіць. Скажа: рабі, старшыня, рамонт, капай склеп, стаў паркан. Заплюшчыць—кіне нос угару драць. Палічыць, памяркуе: выгадна. І прыгожа, як ты кажаш. Адразу перастане ляяць казённы дом, як малады наваселец. Калі будуць па-гаспадарску прыглядацца да будоўлі яшчэ да ордэра: той дом твой, а гэты—мой. Хадзі, глядзі, хвалюйся за яго, а калі галава кумекае—штосьці змяні на свой густ...



**К. В. Шавель:**

— Так, не забываць пра галоўнае. Пра вясковы побыт у цэлым. А то хутка і не ўспомнім, як па зямлі хадзіць. Рахункаводаў і эканамістаў хапае ў любой гаспадарцы, нават, здаецца, ужо перарасход ёсць. А вось каму па зямлі хадзіць... У наш час, прыгадваю, конкурсы былі на агранома, на механізатара, на заатэхніка. Лічылася ганаровай прывілеяй: людзі хочуць працаваць. Цяпер неба і зямля: на «работнікаў»—недаборы. І ў ВНУ, і ў тэхнікумы, нават у СПТВ. На бухгалтарскі ўлік не тое што конкурс—канкурэнцыя. Псіхалогія простая: нічога не будзеш рабіць, а грошы тыя ж, што і ў работнікаў. Вось да чаго далічаліся.

**І. І. Мельнік:**

— Мы б маглі, вядома, зрабіць разбежку ў аплаце працы ў сваёй гаспадарцы. Аграному, інжынеру, заатэхніку і ветурачу плаціць рублёў на пяцьдзесят больш. І было б справядліва, па працы. Дык вось жа перабяжыць мой бухгалтар у суседні калгас, дзе патрабаванні яшчэ меншыя, а зарплата—большая. Толькі курэй насмешыш і пакрыўдзіш чалавека. Старшынёўскага рашэння тут мала—хоць бы ў маштабах рэспублікі замацаваць яго. Але няма пакуль адзінай думкі наконт гэтага, ты ж ведаеш. Па-гаспадарску было б рэгуляваць аклады галоўным спецыялістам. Не настаў жа яшчэ час, калі ўвойдуць у штодзённае жыццё ў кожнай вёсцы ЭВМ, іншыя складаныя лічыльныя машыны, якія, напэўна, дапамогуць раскрыць свае магчымасці і эканамістам. Пакуль жа ў мяне ёсць прэтэнзіі да іх: умеюць пералічыць толькі тое, што было ўчора. А гэта—экстэнсіўная работа. Я мяркую, што нават адносіны да казённага дома ў вёсцы, пра якія мы з табой гаворым, першыя павінны былі «вылічыць» эканамісты, а не чакаць, пакуль дакумекае старшыня.

**К. В. Шавель:**

— Але дом, як ні круці, толькі палавіна гаспадаркі. І свой, хоць і без зручнасцей, зноў жа, больш надзейны, чым казённы. Я пры сваёй думцы застаюся. Але калі казённых дамоў стала цяпер куды больш, чым сваіх, нельга не ўлічваць гэтага. Вось і вырашыў я паставіць у сваім жыцці яшчэ адзін эксперымент. Не магу супакоіцца, пралічыўшыся адзін раз, хачу паспрабаваць зноў. Ты ж ведаеш, я нядаўна ажаніў сына, трэба было паглядзець: атрымаецца ці не атрымаецца з яго гаспадар? Каб без мяне і без маці маладыя самі навучыліся весці гаспадарку. Я гатовы пайсці ў калгасную казённую кватэру. І даказаць, што і казённы дом можна зрабіць як цацку. Сваім зрабіць! Таму што вясковы чалавек, калі ён селянін, па прыродзе сваёй самы лепшы эканаміст. Упарадкую дом, падворак, карову маладую куплю. Не дзеля малака, а зноў жа дзеля радасці. Я прыйшоў з работы стомлены, ногі аж гудуць, але салодкая для мяне гэтая стома. Да тэлевізара не пайду. І на канапу не хочацца легчы. Проста не разумею, навошта мне менш працаваць, чым я магу? Я да каровы пайшоў. Як там яна ў хляве ўздыхае? Мне ціха на душы і хораша. Вельмі паважаю таго архангельскага селяніна, які ахоўвае свой вясковы побыт, нягледзячы на ўсе перашкоды. Праўда на яго баку: дайце мне магчымасць папрацаваць столькі, колькі я магу і хачу. Не даюць жа працаваць! У некаторых гаспадарках рэспублікі, ведаю, дайшло да абсурду: за другую карову з гаспадароў бяруць сорак рублёў з двара—за тое, што на пашу ідзе дзве каровы! Гэта ж пародыя! Вынік? Не толькі зямлю, але і двор вясковы ператвараем у пустэчу. Больш як палавіна вясковых жыхароў не маюць кароў. А трэць, больш трэці—наогул ніякай жыўнасці.

**І. І. Мельнік:**

— Катэгарычна пераканаюся, што карову трымаць у асабістай гаспадарцы нельга. Мы ж гарбацім сваіх людзей—і ў большасці сваёй нашых жанчын, нашых маці. Ім жа трэба кожны дзень прачнуцца ў чатыры раніцы—да пяці падаіць. Тут муж прачынаецца, дзеці—трэба гатаваць снеданне. Трэба ісці самой на работу. І ў абед прыгоняць—трэба карову падаіць. І вечарам не да адпачынку—трэба карову сустрэць. Прыгледзься да вясковай жанчыны—дык яна ў 45 гадоў становіцца старая ў зашмальцаванай ватоўцы і гумавых ботах. А ў Галандыі даўно кароў доіць робат. Чаму б для пачатку і нам не змяніць штосьці, толькі загадзя падлічым. Дапусцім, у нас зараз у калгасе тры тысячы чалавек. Вялікая гаспадарка. На ўсіх кожны дзень трэба

тры тоны малака. Каб і на маленькага хапіла і на дарослага. У год—каля тысячы тон малака. Гэта не проста—трэба трымаць дзвесце кароў. А калі на гэтыя дзвесце кароў паставіць дваццаць чалавек? Не так, як зараз: усюды дояць па 50 кароў, па дзесяць даіць. Каб у людзей два выхадныя былі. І той хляўчук грамадскі зрабіць санітарна-гігіенічным, каб чысценька там было. І дзеці змаглі б разам далучацца да працы. Дваццаць чалавек забяспечаць тысячу сем'яў. Ні табе лаянкі, ні цяганіны, паражыванняў, як і калі адпасвіць радоўку, як нарыхтаваць сена. Дваццаць чалавек вызваляць адразу тысячу жанчын. Для дома, для дзяцей, для адпачынку. Каб адчуць сябе жанчынай. На такой ферме ў будучым лёгка прыжывецца і той жа робат.

**К. В. Шавель:**

— Я не прымаю гэтага: навошта пладзіць гультаёў ды абібокаў? Так можна да чаго хочаш дайсці. Не трэба каровы—навошта соткі? Значыць, і бульбу не садзі, навошта садзіць, калі няма каровы? Не патрэбна бульба—не трэба і агарод. Навошта ўсё? Дык хочацца запытаць: навошта ж тады наогул ты ў вёсцы жывеш?

**І. І. Мельнік:**

— Вось іменна: навошта? Не для таго ж, каб спіну без супынку гнуць, як паўвека назад. А для таго, каб жыць у радасці і грамадства карміць лепш, чым учора. Навошта бульбу садзіць-капаць самому? Я не разумею. Мы даўно ўключылі яе ў грамадскі севазварот. Нашы бабулі звыкліся, вядома: бульба пасля каровы на другім месцы па значэнню ішла. Карміцелькі. Асабліва пасля вайны, у самыя цяжкія галодныя гады. Але з таго часу ўжо колькі мінула. Сорамна павінна быць, калі мала што мяняецца зараз. За кошт сотак селяніна можна смела «разнявольваць»—і не ўспомніць пра іх! Як і за кошт каровы. Але «разнявольваць» да канца ніхто не збіраецца. Сэнс у тым, каб і «разняволіўшы» умець выхаваць гаспадара. Сутнасць: для чаго ствараеш чалавеку вольны час—для п'янкі і гультайства ці, як ты любіш гаварыць, для работы душы, для прыгажосці—але прыгажосці сучаснай, а не патрыярхальнай.

Вось яшчэ: як зрабіць, каб круглы год у нашага вясковага чалавека, як і ў гараджаніна, было на стале свежае мясца, а не салёненькае? Я кажу сваім, выгадавай парсюка, здай яго ў калгас. Узамен у любы час зможаш узяць у гаспадарцы свежае мяса. Колькі здаў, столькі і зможаш узяць. Забіваем двух зайцоў. З аднаго боку, своеасаблівая сямейная ферма, а з другога—індустрыяльная гаспадарка развіваецца. Ідзе абмен. Справа ж не ў абжорстве, а якраз у прыгажосці. У прыгажосці эканамічных адносін паміж калгасам і калгаснікам. Цэлая новая філасофія: удасканальваць, абнаўляць вясковы побыт з дапамогай эканамічных рычагоў.

Вось ты захапляешся архангельскім мужыком. У кожнай вёсцы ёсць такі гаспадар—гэта правільна. Але колькі іх? Адзін-два! Не больш. І гэта няблага. Але будаваць толькі на гэтым палітыку сучаснай вёскі нельга, я перакананы. Ніводзін архангельскі мужык сваю дачку на хутары не пакіне. Яна і сама не застанецца: час іншы. Чалавек, дзе б ён ні жыў, хоча быць незалежны. Каб і ў клуб на высокім абцасіку прайсціся, і ў басейне паплаваць, і ў тэніс пагуляць быў час. Мне даспадобы, калі ўдасканальванне адбываецца. Удасканальванне арганізацыі працы, а праз яго і ўдасканальванне чалавека. Ніводная гаспадарка не выжыве без эканомікі. Вось і падрад у нас зараз розны: і сямейны, і брыгадны, і звеннявы, і калектыўны. На дзяржразлікова аснове. Два механізатары на аднолькавым трактары могуць зарабляць па-рознаму, у залежнасці ад якасці і колькасці працы. Навучыліся ацэньваць і якасць, у першую чаргу. На якасць працуе наш дзяржразлік.

**К. В. Шавель:**

— Я не супраць эканомікі, але ўсё ж перш трэба пазнаць самога сябе, больш пільна прыглядацца да вясковых змен. Мне здаецца, пакуль што мы глядзім на іх, як праз рэшата. На вёсцы нараджаюцца і хлебаробы, і артысты, і мастакі, касманаўты. Самыя розныя людзі вырастаюць. Але штосьці павінна іх звязваць, калі яны родам з вёскі. Агульныя веды, агульная духоўнасць. Я не так даўно сабраў групу выпускнікоў нашай школы і папрасіў: адмерайце мне 35 сотак. Глядзяць адзін на аднаго: не навучылі. І гэта—у вёсцы! Аказваецца, на ўроках працы яны часцей рабілі нейкія бязглуздыя шуфлікі. Аказваецца, паўсюль... шуфлікі робяць! А што такое сотка, не ведаюць. Паўглоўкі нейкія: дзень у дзень рэжуцца ў карты пад транзістар каля хаты... Няведанне элементарных і простых ісцін таксама адбівае ахвоту ўсялякую да работы і творчасці, усякую цікавасць да яе: колькі пасееў, колькі ўзараў? Не падлічаць, не пацікавяцца. Атрымліваецца, і працу сваю не цэняць. Мяне такая абыякавасць хвалюе больш за ўсё. І да працы і да заробку. І хто ведае, колькі іх на вёсцы—такіх вось інкубатарскіх хлопцаў?

**І. І. Мельнік:**

— Не цікавіць заробак? Таму што на яго няма чаго купіць. Ды і навошта? Маладому хлопцу, які на поўным забеспячэнні ў бацькоў, быццам «нічога такога» і не трэба. Ну, транзістар, магнітафон, матацыкл, джынсы. Хіба ўсё гэта купіш зараз у вёсцы? Я маю на ўвазе добры магнітафон, добры матацыкл. А добрую куртку ці, напрыклад, добры кажух? Я калісьці паставіў перад сабой такую мэту: прыстойна апрануць сваіх калгаснікаў. І маладых, і сталых. Набегаўся, напаражываўся. Было гэта няпроста. Але сёння кожны можа прама ў гаспадарцы пашыць кажух, пашыць шапку з дарагога прыгожага футра. Свая ў нас звераферма, свая пашыўка. І даход свой. І грашовы, і маральны, калі хочаш. Кажух ужо не прадмет раскошы, не дэфіцыт, за якім ганяюцца, а проста сучаснае моднае адзенне. Выхаванне густу, а не спажывецтва. Выхоўваць такі густ трэба ў людзей з дзяцінства, з дзіцячага сада.

**К. В. Шавель:**

— З дзіцячага сада? Дык у будучым жа, калі мы ўжо гаворым пра катэджы для цэлага сельскага роду ўсур'ёз, дзіцячы сад, напэўна, адамрэ. І сапраўды: навошта ж ён патрэбны, калі дзіця будзе выхоўвацца ў сям'і? Ведаю, ужо зараз у поўных і забяспечаных сялянскіх сем'ях бацькі не спяшаюцца аддаваць сваіх дзяцей у садзік. Я свайго сына таксама не аддаваў, мне хацелася, каб ён рос падобны на мяне, а не на інкубатарскіх хлопцаў.

**І. І. Мельнік:**

— Не, немагчыма вёсцы без садзіка. Нават у горадзе (садзік жа чыста гарадское вынаходства) ён не дае таго, што ў вёсцы. У горадзе ўсё сухенька, усё стэрыльна. Размовы паміж выхавацелямі выхалашчаныя, адны і тыя ж: дзе што ўзяў, дзе купіў? Не ўмеем рыхтаваць выхавацеляў дзіцячых садоў як след і ў сталіцах. Куды там ужо для вёскі! А дзіця ж наша, вясковае, і ў садзіку ўвесь дзень не на асфальце, а сярод жывой прыроды, сярод кветак, пчолак, казурак розных. Добра і ў дзіцячым садзе мець свой агародзік. Думаю, што менавіта ў садзіку трэба даваць тыя азы, пра якія ты з дзесяцікласнікамі загаварыў: і што такое сотка, і што такое градка, і што такое розныя гатункі. Разумныя кіраўнікі праз маленькіх дзяцей нават дарослых спрабуюць перавыхоўваць. Бо ў каго ж павучыцца добраму і новаму, як не ў дзіцяці? Далей—разважліва замацоўваць тыя веды, тую любоў да зямлі ў школе і ў ВНУ, тэхнікуме і СПТВ. Бо будучае вёскі, яе аблічча—гэта і аблічча, і характар, і адукацыя, і думкі маладога сельскага чалавека.

Запісала дыялог
**ВОЛЬГА ЯГОРАВА**

Фотакалаж **В. Ждановіча.**

*Роздум над праблемай*

# ЧАС КРЫЧАЦЬ У КАЛОДЗЕЖ

У школьныя гады настаўніца мовы і літаратуры прыхільна ставілася да мяне. Мяркую, я быў у яе нават любімчыкам. Абы-як рыхтуючыся да іншых прадметаў, па літаратуры я, тым не менш, заўсёды меў свае законныя пяцёркі.

Усё было добра, пакуль не пачалі праходзіць «Что делать?» М. Чарнышэўскага. Неяк мяне выклікалі да дошкі, і мне было прапанавана растлумачыць сны Веры Паўлаўны і давесці, што з іх здзейснілася ў нашым сучасным грамадстве. Дагэтуль я ледзь адолеў раман, бо ён здаваўся мне занадта доўгім і нудным. Тэма зусім не цікавіла.

Павагаўшыся, я незалежна аб'явіў, што сны Веры Паўлаўны — лухта, а сам раман неістотны ў літаратурным сэнсе. Чамусьці пакрыўджаная ў лепшых сваіх пачуццях настаўніца спачатку здзівілася, потым абурылася і ўляпіла мне двойку, а калі я скіраваў да сваёй парты, помсліва дадала:




— Увогуле пакінь клас. З такімі думкамі табе тут не месца.

Адразу скажу, што адносіны мае да рамана амаль не змяніліся і да гэтага часу. І хаця эмансіпацыя жанчыны, за якую так шчыраваў калісьці дэмакрат М. Чарнышэўскі, зайшла ў нашым свеце незваротна далёка, слушнасць поглядаў на актуальнае пытанне заўсёды спрэчная. Згадзіцеся, што ўтопія ўсё-такі адна справа, а рэальнае жыццё — зусім іншая.

«Ведаеш, я ж была простай медсястрой»,— апраўдваецца Аліка — гераіня салаўёўскай стужкі «Асса» — перад сваім аднагодкам, рок-музыкантам па мянушцы Бананан.

Вось, аказваецца, у чым справа. Можна здрадзіць усяму, толькі б не застацца ў жыцці простай медсястрой. А як тады зразумець, што дваранкі старажытнага роду лічылі раней за гонар ісці ў такой якасці да хворых у бальніцу, а то і на фронт? Можна вандраваць па шыкоўных атэлях з мафіёзі, які ў перапынках паміж забойствамі нудна працытуе што-небудзь з класікі, згаджацца з усёй мярзотнасцю яго дзейнасці—абы толькі не быць простай медсястрой. Апошняя для Алікі і ёй падобных— горш за ўсё.

На першы погляд здаецца неверагодным, але нейкая гістарычная нітачка звязвае нашу гераіню з Верай Паўлаўнай з усімі яе комплексамі і снамі. Менавіта Верачцы мроіцца «роскошный пир, пенится в стаканах вино...» і г. д. Да чаго нас давялі шматлікія бясконцыя баляванні і віно ў шклянках, гаварыць зараз не мае патрэбы.

Але пакінем у спакоі ўтапічны, не без мазахісцкіх рысак светапогляд Чарнышэўскага. Бадай, нездарма яшчэ пры жыцці яму дасталося ад Ф. М. Дастаеўскага, які празваў яго «клоповонющим молодым человеком» (дарэчы, вайна ў літаратуры, як бачым, вялася і тады). Вернемся ў наш час.

Хутка паўстагоддзя, як адгрымела вайна, у краіне ў дзіцячых дамах, інтэрнатах, дамах дзіцяці выхоўваецца каля 300 тысяч (!) сірот. У 95 працэнтаў гэтых дзяцей жывыя маці. Ненамнога лепшае становішча ў нашай рэспубліцы, а ў некаторых аспектах і горшае. Традыцыйна моцная пабудова беларускай сям'і дала ў апошні час трэшчыну.

«Як антылюдзі маглі займаць высокія пасады ў сацыялістычнай дзяржаве?» — пытаецца Д. Валкагонаў у сваёй дакументальнай аповесці пра І. Сталіна. Але ж здарылася. Змаглі. Антылюдзі на чале з «мудрэйшым з мудрых» нанеслі страшны ўдар не толькі па нашай беларускай інтэлігенцыі, рабочаму класу, сялянству, а і па маральных каштоўнасцях жанчыны — захавальніцы сям'і. Каштоўнасці тыя складваліся, між іншым, стагоддзямі. Бяскрыўдны быццам комплекс Веры Паўлаўны з яе прагай да разбурэння нечакана знайшоў сабе жудасны працяг у 30-х, 40-х гадах, калі дзіцячыя дамы ліхаманкава запаўняліся дзецьмі «ворагаў народа», а на шматлікіх выкрывальных сходах нашы «сталіністачкі» біліся ў істэрыцы і па-клікунску патрабавалі новай крыві. Успамінаюцца з гэтай нагоды і палпотаўскія вядзьмаркі са зброяй, што ўжывалі сырую чалавечую печань «ворагаў» і маацзэдунаўскія жаўнеркі з жаночых батальёнаў, якія ўзнімалі на штыкі в'етнамскіх дзяцей. Было, усё гэта было. І няма гарантыі, што дзе-небудзь зноў не паўторыцца.

У гады так званага застою тысячы нашых Алік пайшлі на штурм замежных «фірмачоў» і нашых уласных мафіёзі. Не мае значэння, у які ложак і з кім — абы на пляжах і азадку была «фірма», а навокал працягваўся «роскошный пир, пенилось в стаканах вино»... Вось толькі дзеці. Іх куды падзеці? Горш за ўсё, што гэтая хваля закранула шматлікія слаі насельніцтва, дакацілася да маральна ўстойлівай правінцыяльнай сям'і, затапіла нават вёску.

Вось некалькі фактаў з сучаснай хронікі нешчаслівых сем'яў аднаго з раёнаў рэспублікі — Барысаўскага. У раёне і горадзе дагэтуль захоўваецца традыцыйна высокі ўзровень правапарушэнняў і злачынстваў сярод падлеткаў і моладзі. Але гаворка не пра іх, а пра тое, што звычайна папярэднічае гэтым правапарушэнням. Бо першы крок да антыграмадскіх учынкаў пачынаецца, бывае і такое, у сям'і.

Валянціна Клімковіч з пасёлка Лошніца мела траіх дзяцей: Кацю, Аню і Віталя. Маладая маці, камуніст, лічылася ў калектыве нармальнай працавітай жанчынай (яна

была рабочай жывёлагадоўчага комплексу), была нават выдатнай спартсменкай. Але ўсё часцей на стале ў іх з мужам «пенілася ў шклянках віно», з'яўлялася бутэлька гарэлкі.

Першы пахіснуўся ды так і не ўтрымаўся муж. Пайшоў на злачынства, быў асуджаны. А што маці, член партыі, мо адумалася, узялася ратаваць адзінае, што ў яе было,— дзяцей? Не. Зачыняла малых у кватэры, а сама адпраўлялася на пошукі гарэлкі, бадзялася так тыднямі. Пачуўшы крыкі галодных дзяцей, суседзі кідалі ім праз фортку ежу. «Былі выпадкі — малыя елі і сырую бульбу»,— расказваў участковы інспектар.

Яшчэ гісторыя. На звалцы недалёка ад вёскі Дзямідаўка падлетак Мікалай Анісkевіч знайшоў незнаёмую малую дзяўчынку і прывёў яе дадому. Дзяўчынку памылі, накармілі, патэлефанавалі ў міліцыю. Вечарам шасцігадовую Олю Лагун прывезлі ў вёску Стара-Барысаў... да бацькоў. Бралася ўжо на ноч. А што бацькі? Мо кінуліся на пошукі дачкі, пабеглі да людзей, прасілі дапамагчы ў пошуках? Зусім не. Маці Соф'я Мікалаеўна і бацька Аляксандр Паўлавіч спакойна клаліся спаць.

У дваццацігадовай Любові Лапа з вёскі Обча было трое малых дзяцей. Старэйшай — Ані — тры з палавінай гады, малодшаму — Сашу — усяго пяць месяцаў. Восеньскай раніцай іх маці, выпіўшы дома бутэльку віна, замкнула дзяцей і пайшла на аўтобусны прыпынак з намерам паехаць да брата ў вёску Траянаўка. У аўтобусе пазнаёмілася з мужчынам, які пачаставаў яе гарэлкай, і паехала з ім спачатку ў Барысаў, а потым у Мінск. Праз некалькі дзён суседзі пачулі енк дзяцей з замкнёнага дома. А што іх маці? Прайшло тры месяцы, і толькі тады яна надумалася вярнуцца ў вёску дахаты. Адкуль такая нялюдская жорсткасць, бездухоўнасць? А колькі выпадкаў, калі ў аналагічных сітуацыях дзеці гараць у агні, калечацца?

Вось пісьмо асуджанай Ядвігі Мануш у інспекцыю Барысаўскага раённага аддзела народнай асветы (прапануецца без скарачэнняў і папраўак).

Здравствуйте дорогая девушка инспектор!

Обращяется к вам, Мануш Ядвига Петровна. 16 февраля, на суде, в деревне Холхолица, у меня, на попечение государства, взяли четверых деток. Мануш Ирина Владимировна, 11 лет; Мануш Ольга Владимировна, 6 лет; Мануш Татьяна Владимировна, 6 лет; Мануш Людмила Владимировна 2 года.

Я очень расскаиваюсь за совершённое мною преступления, хотя и мало я к нему причастна, но для меня нет ничего дороже моих деток. Я никогда не нарушу закон и стану честной и хорошей матерью. С разговора на суде, вы мне сказали, что сможете меня известить где они находятся. Милая, родная девушка я очень вас прошу написать мне подробней где они находятся.

Сколько я буду жить, столько я буду помнить, как страшно остаться без деток.

Заранее вам благодарна от всего сердца.

Мануш

Моё постоянное место прибывание: г. Гомель.
Мануш Я. П.

Як расказала інспектар раёна Рыта Купрэвіч, сем'яў накшталт Мануш у раёне пакуль яшчэ хапае. Ядвіга разам з мужам Уладзімірам працавалі ў калгасе імя Чкалава. Абодва спакваля прыахвоціліся да гарэлкі. Асабліва шчыравала на гэтай глебе Ядвіга. Піць для яе стала патрэбай. У ноч на свята 7 кастрычніка разбіла шкло ў магазіне вёскі Хаўхоліца, залезла туды і выпіла бутэльку гарэлкі. Вылезці ўжо не хапіла сіл — там жа і заснула. Яна ж украла з канюшні каня і драбіны і ў Барысаве, як адзначана ў пратаколе, «прадала іх грамадзяніну цыганскай нацыянальнасці за 125 рублёў». Дзеці ў гэты час галадалі.

Жорсткія адносіны да дзяцей зафіксаваны ў апошні час ва ўсім свеце. Што гэта, першы подых апакаліпсіса? А ці не пачаўся ён са сноў Веры Паўлаўны і ёй падобных?

Ніхто не аспрэчвае той факт, што ў жудасных умовах вайны, сталінскіх рэпрэсій нашы жанчыны здзейснілі сапраўдны грамадзянскі подзвіг, здолелі захаваць сям'ю, чалавечыя адносіны. Дык чаму цяпер сустракаемся з такім? Хто вінаваты: дэградацыя маралі, памылкі ў выхаванні, асобныя людзі, якія давялі краіну да застою?

Рольф Эдберг, адзін з буйнейшых спецыялістаў па праблемах глабальнага выжывання, у сваёй публіцыстычнай кнізе «Лісты да Калумба» паведамляе аб прыкладах бесчалавечнасці, на якую здольны людзі, калі парушаецца іх нармальны жыццёвы лад. Шведскі пісьменнік і вучоны расказвае аб невялічкім афрыканскім племені ік, якое сагналі з яго тэрыторыі і якое трапіла ва ўмовы генацыду.

«За паўтара-два дзесяцігоддзі,— адзначае пісьменнік,— сцерлася ўсё, што выходзіла за рамкі элементарнага выжывання. Трохгадовых дзяцей кідалі на волю лёсу. Моладзь навучылася адбіраць ежу ў старых. Смех гучаў толькі тады, калі... «хто-небудзь падаў у вогнішча». Карціна распаду ік паказвае ў мініяцюры, што пагражае нам у глабальным маштабе.

Сутыкнуліся з падобнымі фактамі і мы. Разбуралася сталіністамі вёска, якая ў брэжнеўскі час была літаральна залітая танным віном з сурагатаў, пачала нараджаць сваіх пачвараў. У «кожным жа з нас жыве ік».

Псіхолагі адзначаюць, што нават смерць аднаго з бацькоў не ўспрымаецца дзецьмі так цяжка, як маральная дэградацыя, развод, п'янства. Па няўстойлівай псіхіцы дзіцяці наносіцца мацнейшы ўдар. Для іншых ён вырашае лёс.

Тая ж інспектар раёна камсамолка Рыта Купрэвіч расказвала, што пасля камандзіровак у раён, у такія «цяжкія» сем'і, яна не можа заснуць.

— А ведаеце, як дзеці, нягледзячы ні на што, усё-такі захоўваюць любоў, пяшчоту да бацькоў? Любое дзіця, нават з самай дрэннай сям'і, усё роўна ўцякае з інтэрната, як бы добра яму там ні было. Абы да бацькоў. Вось Віця Канцавы з вёскі Кастрыца. Хлопчыку дванаццаць. Ён тройчы збягаў са Станькаўскай школы-інтэрната, хаця дома было кепска, дома білі. Калі ж бацькоў Віці пазбавілі правоў на выхаванне дзяцей і мы прыехалі забіраць яго і малодшага Юру ў інтэрнат, як яны крычалі! З Кастрыцы да Барысава доўгі шлях, а потым трэба было да Мінска ехаць і далей. Дык вось толькі за Мінскам дзеці кінулі крычаць — ад знямогі...

Трэба прызнаць, што ў справах выхавання дзяцей, у справах сям'і мы апынуліся ля апошняй мяжы. Вось і «роскошный пир, пенится в стаканах вино»...

У рэспубліканскім друку прамільгнулі паведамленні аб стварэнні ў рэспубліцы першых дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Адзін з такіх — у суседнім Жодзіне. Марына Ахатаўна Сагайдарава выхоўвае дзевяцярых дзяцей з «розным колерам скуры». Што ж, можна ўхваліць гэтую жанчыну за міласэрнасць, за вялікае спачуванне да безабаронных істот, за тое, што ўзваліла на сябе цяжар выхавання. А іх маці-зязюлі?

Будзем шчырыя: мы чамусьці дзесяцігоддзямі пераконвалі сябе ў такім штампе, што негр заўсёды добры, станоўчы, бо ён прыгнечаны. Але ж сярод неграў ёсць розныя людзі, як і сярод прадстаўнікоў любой расы: трапляюцца і забойцы, і прайдзісветы, і мярзотнікі. Ніхто, вядома, не вінаваціць нашых дзяўчат, калі іх напаткае каханне. Але ж нараджаць дзяцей і пакідаць іх у радзільных дамах?

Дзеці-падкідышы... Што можа быць бесчалавечней гэтага? Але ж яны ёсць, як ні заплюшчвай вочы і не затыкай вушы. У адпаведных установах шмат робяць, каб дзеці адчувалі сябе дзецьмі, але... Але пакуль яшчэ кінутых дзяцей знаходзяць у кантэйнерах з-пад смецця, у лесапасадках, клумбах, на вакзалах. І маці іхніх знайсці ўдаецца не заўсёды.

Вядома, жыццё складанае. Многія з маладых маці самі так званыя «інфантылы». Большасць з іх не маюць ні дастатковага заробку, ні пасады, ні таго ці другога ў бліжэйшым будучым. Праблему прапануюць рашаць па-рознаму. Вылічваць з такіх «зязюль» аліменты? Але ж, думаецца, пагроза аліментаў прымусіць пазбаўляцца ад дзяцей крайнімі мерамі.

Дык усё ж што ў нас адбываецца? Мо падсвядомы бунт дамарослых феміністак? Ці запозненая рэакцыя на няпраўду, якой кармілі доўгія гады?

Але ж бунт бунту розніца. Бунтуе Вера Паўлаўна ў Чэрнышэўскага, і бунтуе гераіня апавядання Ф. М. Дастаеўскага «Кроткая» (дарэчы, яно лічыцца лепшым апавяданнем усіх часоў і народаў). Вера Паўлаўна здольная на многае, ды толькі не на сапраўднае пачуццё. І псіхалогія яе не што іншае, як псіхалогія «зязюлі», нягледзячы на рамантычны камуфляж. Дык што ж нашы сучасныя бунтаркі? Чаго хочуць яны ад жыцця ў гэтым складаным свеце? Большасць не абцяжарвае сябе адвечнымі пытаннямі — абы не быць простай медсястрой. Як спявае рок-гурт «Мроя»: «Ёй падабаюцца іншаземцы, яна ўсім целам змагаецца за мір»... Так, як і раней, штурмуюць інтэрдзяўчаткі пыхлівых чужаземцаў. І на «фірму» заробяць, і... чым чорт не жартуе — «фірмач» часам можа і ажаніцца. Тады зусім добра. Не з прышчаватым жа хіпаком ёй па пад'ездах шнырыць, не з рабацягам чакаць чаргі на кватэру па пятнаццаць гадоў! А дзе ж нацыянальны гонар? — спытаеце вы. І сапраўды — дзе? Няўжо і яго — кату пад хвост? А якая пагалоска ідзе пра нашых жанчын за мяжой — лепш і не пісаць. Знаёмы інжынер, які некалькі гадоў працаваў у адной з краін, што «развіваюцца», неяк расказваў, што з сям'ёй туды лепш не ездзіць. «Да жанчыны, як толькі вызначаць, адкуль яна, чапляюцца ўсюды. Сядзем адпачыць на лаўцы на якую хвіліну, а да жонкі ўжо мясцовы селадон заляцаецца. Прагоніш, ён пакруціцца і з другога боку заходзіць».

У апошні час мясцовыя «патрыёты» пачалі стрыгчы пад машынку дзяўчат, якія ашываюцца ля гасцініц. Нават палеміка ўспыхнула — маюць яны рацыю ці не? А якія, скажам шчыра, можна прапанаваць меры супраць асоб лёгкіх паводзін? Яны ж выдатна ведаюць, што застануцца ва ўсіх выпадках беспакараныя. «Захоцу и вскоцу»,— як сказана недзе ў таго ж Ф. М. Дастаеўскага. Скачуць. І што ім зробіш. А перад намі ўсімі, між іншым, паўстае яшчэ адна страшная небяспека — СНІД. Да 1991 года ў свеце чакаецца 1 мільён хворых. А колькі будзе інфіцыраваных вірусаносьбітаў, калі толькі невялікая частка іх (1—3 %) — з'яўляюцца хворымі?

У Мінскай студэнцкай паліклініцы на пачатак года выяўлена 13 замежных студэнтаў, хворых на СНІД (яны дэпартаваны на радзіму), і 65 вірусаносьбітаў, сярод якіх і суайчыннікі. Хвароба знаходзіць усё новых ахвяр.

Сусветная прэса мяркуе, што ў сувязі з гэтым эра «сексуальнай» рэвалюцыі заканчваецца і пачнуць умацоўвацца сем'і. Дай жа бог.

У нас пакуль, на жаль, аўтарытэт сям'і невысокі. Вельмі вялікі ў рэспубліцы працэнт разводаў, расце колькасць сем'яў з дрэнным, нездавальняючым становішчам. На той жа Барысаўшчыне ў 1987 годзе на ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх было каля 280 сем'яў. Летась ужо 314. Дзесяткі бацькоў былі пазбаўлены правоў, чарговыя сіроты накіраваліся ў інтэрнаты. Гэта ў раёне, дзе насельніцтва каля 60 тысяч чалавек, а калі дадаць горад? Апрача крайняга метаду ўздзеяння да такіх сем'яў прымяняюцца штрафы, накіроўваюцца гнеўныя лісты на месцы працы. І што? Некаторыя маці-«зязюлі», не паспеюць іх пазбавіць права выхавання, нараджаюць дзяцей зноў. Двойчы пазбаўлялася бацькоўскіх правоў хранічная алкагалічка Зінаіда Некрашэвіч з вёскі Стаі. Адбывала пакаранне ў папраўча-працоўнай калоніі. Аднойчы «перабраўшы» гарэлкі, узяла ды пафарбавала малалетнюю дачку ў зялёны колер. «Широк человек»,— як сказана ў класіка.

Жыхарка вёскі Неманіца Надзея Максімава двойчы губляла дзяцей — іх забірала на выхаванне дзяржава. Але заявіла: «А я яшчэ раджаць буду». Нарадзіла сына, якога не выхоўвала і зноў была пазбаўлена бацькоўскіх правоў.

Камісіяй па справах непаўналетніх ва ўсе працоўныя калектывы раёна былі накіраваны прапановы: уключыць у праекты калектыўных дагавораў такія пункты — «ужываць меры грамадскага і адміністрацыйнага ўздзеяння ў адносінах бацькоў ці асоб, іх замяняючых, якія злосна не выконваюць абавязкі па выхаванню дзяцей і сваімі антыграмадскімі паводзінамі садзейнічаюць росту правапарушэнняў».

Дык што за меры такія? Зноў штрафы? А ці не адаб'юцца яны ў першую чаргу на тых жа самых дзецях?

Наша грамадства, як і ўсякае іншае, увогуле не схільнае да новаўвядзенняў. Любыя змены, смелыя ідэі сустракаюцца падазрона. Ёсць людзі, якія прама зацікаўлены ў гэтым. Але ж перабудова — сапраўдная рэвалюцыя. Яна дыктуе нам усім ісці наперад, бо іншага шляху няма, укараняць новае, адкінуць застойную завядзёнку — тое балота, дзе расцвілі і нашы ўтапічна-разбуральныя, знешне прываблівыя адносіны да сям'і, да выхавання дзяцей.

Магчыма, мы стаім на парозе прыняцця нейкіх новых законаў, прапаноў і ў гэтай галіне.

У канцы шасцідзесятых, у час, калі яшчэ дыхала тагачасная перабудова, на нашых экранах дэманстраваўся фільм японскага кінарэжысёра Акіры Курасавы «Чырвоная барада». У гэтым таленавітым, прасякнутым сапраўдным гуманізмам фільме запомнілася сцэна высокага пафасу. Каб выратаваць смяротна хворае дзіця, жанчыны збіраюцца разам і крычаць у калодзеж яго імя. Так, па павер'ю, можна ўтрымаць душу паміраючага на зямлі. Ці не надышоў час і нам усім «крычаць у калодзеж»?

Юрый СТАНКЕВІЧ

Мал. **А. Карповіча.**

*Палемічныя нататкі*

# У ЧАКАННІ ПРАРОКА

Ці нараджаецца ў спрэчцы ісціна? Ці патрэбна ісціна, народжаная спрэчкай? Натуральна, што такія пытанні прыходзяць да чалавека, які стаміўся ад шматлікіх дыскусій.

Аб паэзіі дыскусіі пачаліся даўно. Гэта своеасаблівы perpetuum mobile літаратуры: не згасаюць спрэчкі крытыкаў, паэтаў, чытачоў. Даводзілася сустракаць артыкулы, прысвечаныя новаму прачытанню класікі. Але ж—у асноўным—у адносінах да класікі пытанняў няма. Няма пытанняў і да нашых мэтраў: мяркуючы па друку, іх творчасць бясспрэчная. Не сустрэнем вастрыні і ў напісаным пра сярэдняе пакаленне—за які-небудзь дзесятак год большасць з гэтых паэтаў абзавялася ўласнымі крытыкамі,

Ну, дык хто ж застаецца на лініі агню? Так, вы здагадаліся правільна—маладыя.

Спрадвеку існуе меркаванне: маладосць—у дадзеным выпадку маладая паэзія—нясе абнаўленне. Новая непазбежна выклікае непаразуменне—гэта аксіёма, і таму, натуральна, размова пра маладых прымае форму дыскусій.

Але ці існуе прадмет спрэчкі? Давайце паглядзім, што сёння можна знайсці на кніжных паліцах. Хто яны? Тыя, што прыйшлі пераварнуць свет? З чым ідуць яны? На гэтыя пытанні паэты спрабуюць адказаць самі. Амаль кожны імкнецца даць сабе самахарактарыстыку. Гэта зразумела, таму што, як бы ні валодаў паэт майстэрствам версіфікацыі, нельга стварыць лірычнага героя, не абапіраючыся пры гэтым на ўласны душэўны вопыт. Вось так прадстаўляе сябе А. Пісьмянкоў у кнізе «Чытаю зоры»:

Гэта многа—слухаць вечнасць,  
Піць з зямлі гаючы пах.  
Любавацца Шляхам Млечным  
І любіць  
няпросты  
шлях.

Мне ісці ім да знямогі,  
Мне таптаць яго жарству.  
На скразных вятрах эпохі  
Я  
не пасынкам  
жыву.

І святло не згасла ў хаце,  
У радзіннай старане,  
І Радзіма  
разам з маці  
Спадзяецца  
на мяне.

Як бачым з верша, паэт абраў няпросты шлях. Але чым жыве ён «на скразных вятрах эпохі»? Што нясе ён Беларусі, спрадвечнай пакутніцы, арэне гістарычных фарсаў і палігона сучасных эксперыментаў?

Пра дзень асенні напішу,  
Пра сад ранетны,  
Пра Млечны Шлях  
І пра шашу,  
Пра смерч ракетны.  
Пра нашу маму раскажу,  
Пра сон не нядрэмны...

Гэта з верша, які адкрывае зборнік А. Пісьмянкова. Ну, хіба ж не багата праблем паўстае перад паэтам! Тут табе і сад, і шаша, і мама, і нават ракетны смерч! Творцу вырашаць—ад якіх рэалій жыцця зыходзіць, ствараючы неўміручыя радкі. Але ж як далёка яшчэ да неўміручасці, да вечнасці, да зорак, пра якія пішам! Ды і зоркі нашы здрабнелі да звычайных гузікаў... Нам бы надзённыя пытанні вырашыць. І каму б, здаецца, займацца гэтым, як не паэту. Але не турбуйце яго! Ён заняты!

Трывожна-сцішаны Сусвет.  
Агеньчык свеціцца да рання.  
Планету слухае паэт,  
Яе гарачае дыханне.  
Над ім плыве галактык спеў,  
Як доктар, слухае ён вечнасць,  
Каб перакласці мову дрэў  
На голас чалавечы.

Што пачуў ты, доктар? Стогн роднай зямлі, атручанай радыяцыяй? Перадсмяротны плач мялеючых на вачах рэк? Пакуту лясоў, якія не ведаюць звярыных слядоў і птушыных спеваў? О не! Ты жывеш у іншым свеце!

Я не знаю вачэй дабрэйшых,  
Я не знаю дзядоў мудрэйшых.  
Я не знаю нябёс чысцейшых.  
Я не знаю лясоў гусцейшых.  
Я не знаю спагадней слоў,  
чым тыя, што тут знайшоў:  
на зямлі,  
дзе каліcь прарос,  
дзе узрос, сталеў.

Чытаючы такое, разумееш, чаму ў другім вершы паэт так упарта заклікае нас: «Не спяшайцеся мяняць акуляры ружовыя на звычайныя...» Але, на жаль, у Краіне Ружовых Акуляраў застаўся не адзін аматар штучных перашкод. Вось В. Шніп:

Я мала знаходзіў, я многа губляў.  
Дзе можна пад'ехаць, ішоў, а не ехаў.

Ад паэта, лірычны герой якога «да зямлі прырос душою», чакаеш перш за ўсё цвярозага погляду на рэчаіснасць. Тым больш што ён, як відаць, прэтэндуе на выключную чуласць. Але нічога не знойдзем мы, акрамя абстрактных абяцанняў:

Плач матуль і дзяцей мы чуем,  
Без душы чалавек—не пачуе.  
Мы зямлю ад агню ўратуем,  
Нас зямля ад агню ўратуе.

А вось з іншага верша:

І сеем мы жыта і праўду,  
І сеяць мы будзем павек...  
І верыць Зямля чалавеку,  
І верыць Дабру чалавек.

Калі на нашай засмечанай нітратамі глебе вырасцяць новы гатунак жыта, я прапаную назву для яго «Вера Зямлі чалавеку». І амаль упэўнена, ніхто не знойдзе ў гэтым абразы. Таму што ад усіх бед мы даўно знайшлі сродак, мацнейшы за іронію. Цэлыя пакаленні растуць, кіруючыся такой быццам бы рамантычнай дарадай, як у вершы з кнігі «Лабараторыя» П. Шруба:

А свет калі стане шэры,  
Калі павыцвітуць мары,  
Дастаньце юначай веры  
Ружовыя акуляры.

Дзіўна чытаць такое ў час, калі ўся краіна імкнецца зазірнуць у твар праўды. У час, калі нарэшце сталі мяняцца не толькі моды, але і светаадчуванні, калі справа ідзе аб выпрацоўцы новага мыслення, якое зыходзіць з прыярытэту агульначалавечых інтарэсаў. Але прыкметы гэтага мыслення пакуль лягчэй знайсці ў эканоміцы, чым у паэзіі. Няўжо прыйшоў час, калі думка аб тым, што паэт заўсёды прарок, перастала быць неабвержнай? Чаму прароцтвы не выходзяць за межы кватэр, спустошаных бытам?

У паказе падрабязнасцей прыватнага чалавечага жыцця ёсць сэнс—як бы там ні было, але такім чынам адбываецца накапленне фактаў, новых дэталяў, няхай чыста колькаснае. Але паэтычная якасць, выбачайце за эканамічны тэрмін, узнікае толькі ў тым разе, калі ў лакальным бачыцца універсальнае, тое, што датычыць усіх і кожнага. Зразумелая заклапочанасць П. Шруба ў сувязі з такімі з'явамі, як раз'яднанне гараджан, страта імі традыцый. Але ж гэта павінна быць данесена да чытача! Каму патрэбны зарыфмаваныя нататкі на маральна-выхаваўчыя тэмы? Працы Э. Фрома па тэорыі адчужэння асобы ў грамадстве ўспрымаюцца больш паэтычна, чым самы кранальны верш П. Шруба. А погляд паэта на нацыянальную спадчыну ўвогуле выклікае непаразуменне: няўжо ўсё так проста для яго? Страта культурных традыцый паказваецца, напрыклад, праз вобраз недапетай песні: «Песню матчыну співаюць, а я столькі слоў не помню». З аднаго боку, ухвальнае пачуццё асабістай віны, выказанае паэтам, а з другога... Вось аб гэтым жа ў В. Шніпа:

Ды зрэдку у застоллі  
Старое заспяваюць.  
Усе спяюць пачатак,  
Ну а канца—не знаюць.

Як пасля гэтага не паверыць у пананаванне стэрэатыпу мыслення гараджаніна, супраць якога так змагаецца П. Шруб? Менавіта ў ім бачыць ён прычыну ўсіх бед. Народная культура гіне там, дзе нараджаецца стэрэатып, які ў сваю чаргу з'яўляецца вынікам дабрабыту,—да такой думкі прыводзіць нас паэт. «За шклом, за тынам, за поліўрэтанам вось так і жывём»,—уздыхае ён. Але колькі разоў былі апеты гэтыя лудзіцкія, па сутнасці, тэорыі! Колькі можна пра вёску як згублены эдэм маралі і культуры! Ужо дзе-дзе, а ў Беларусі відавочныя гістарычныя прычыны страты духоўных каштоўнасцей.

А пакуль што, згубіўшы сувязь з традыцыяй вясковай культуры, паэт не спяшаецца далучыцца да культуры гарадской, якая звычайна прадстаўлена кніжнай традыцыяй. Відавочная банальнасць таннай маралі: «Давайце адкінем мас-

кі»,—гэта з верша П. Шруба «Тэатр Коба Абэ». Бянтэжыць іншае. Прачытаўшы верш, разумееш, што аўтар блытае тэатр Коба Абэ з тэатрам кабукі. Непаразуменні працягваюцца ў вершы «Дзелавая жанчына». Цікава было б паглядзець на савецкую жанчыну, у якой «з крышталю абажуры, з дыяментаў маністы». Упрыгожыцца дыяментамі, тым больш маністамі з іх, да гэтай пары ў Беларусі магло толькі неба. Памятаеце ў Я. Коласа: «Гараць дыяментным агнём маністы бліскучыя зорак».

Што гэта—элементарная недасведчанасць у прыватным выпадку? Але, уявіце сабе, яна можа быць справакаваная. Таму што рацыяналістычны пачатак у паэзіі, які ідзе перш за ўсё ад засваення сусветнай культуры, у нашай крытыкі ў загане. Невядома, калі дачакаемся мы падрабязнага разбору паэзіі, якую прынята называць разумовай (Разанаў, Наўроцкі, з маладзейшых—Маслюк, Кавалёў). Мабыць, сапраўды, каб усвядоміць літаратурны здабытак, трэба вырасціць новае пакаленне. Перабольшваю? Наўрад! «Сапраўды, эрудыцыяй паэтэса злоўжывае. Тут і «аморфная будова», і «часу татэм», і «кашпо насценны», і «доўгаіграючы міньён»,—і гэта напісана ў час агульнай адукацыі! Абвінавачвае ў залішняй эрудыцыі Г. Булыку крытык Я. Гарадніцкі. Цікава, як чалавеку, які не ведае, што «кашпо»—гэта ўсяго толькі гліняны вазон, прыйшло ў галаву выбіраць шлях для паэта? Зроблена, праўда, гэта досыць ветліва: «Не будзем гаварыць, што ўдача паэтэсу чакае не на гэтай, а на іншай сцяжыне. Пра гэта меркаваць пакуль што рана. Хоць, б е з у м о ў н а, у песеннай стыхіі, у прыродапісальнай лірыцы паэтэса адчувае сябе больш упэўнена».

Прыём, калі паэта спрабуюць штучна далучыць да зусім іншай школы толькі з-за таго, што яго творчы шлях яшчэ не стаў бітым гасцінцам, сустракаецца досыць часта. Як гэта робіцца? Неспакушаны крытык, як, скажам, Я. Гарадніцкі, напіша прама ў лоб—«больш упэўнена паэтэса адчувае сябе...». Вопытнейшы такога не дазволіць. Ён хутчэй напіша, як А. Клышка. Рэцэнзуючы зборнік А. Мінкіна «Сурма», ён дае ацэнку вершам, параўноўваючы іх з вершамі М. Багдановіча, М. Танка і іншых. Няцяжка заўважыць, што падабенства тут толькі знешняе, і параўноўваць, да таго ж не на карысць таленавітаму паэту, падстаў няма. Ды і навошта суадносіць тых, што жывуць у розных часах, і, адпаведна, адрозніваюцца і светаадчуваннем, і мэтамі, якія ставяць перад сабой?

Але чаму б замест азначэння месца паэта сярод іншых, якое не можа не быць суб'ектыўным, нам не паспрабаваць разабрацца: як прыйшоў паэт да сябе, да свайго творчага «я»? І калі ў адных—ці варта іх называць, бо імя ім легіён?—верш быў і будзе вызначаны таннымі вабнасцямі кан'юнктуры, то ў іншых не ўсё так адназначна. Кожны шукаў сваё выйсце з эпохі застою. Адны, не верачы ў значнасць сацыяльных перамен, пайшлі па шляху так званага элітарнага мастацтва. Іх пошукі ў паэзіі, звязаныя перш за ўсё з пошукамі эстэтычных вартасцей, падпарадкаваны ідэі—каб зразумець прыватнае, трэба бачыць яго ў сістэме агульнага. Аднак можа быць і наадварот. Нараджэнню «мега» папярэднічае з'яўленне «адзінкі». Сутнасць жыцця складаецца з сутнасці яго рэалій. Гэта думка прадвызначае творчасць такіх паэтаў, як Г. Булыка і Л. Дранько-Майсюк, якіх вылучае імкненне прыйсці ў літаратуру праз канкрэтнае, адштурхоўваючыся ад першаасноў жыцця. Зразумелы такі выбар, асабліва ў наш час «беспрынцыповага лірызму» (Л. В. Пумпянскі), калі эмоцыі здольны засланіць нават тое, што іх выклікала. Непадзельна звязана ў жыцці духоўнае і рэчыўнае. Пошукамі сувязі матэрыяльнага і эмпірычнага, жывога і неадухоўленага і займаюцца Г. Булыка і Л. Дранько-Майсюк. Імкненне адысці ад абстрактных вершаў як праяўленне абстрагуючыхся эмоцый прывяло іх да стварэння новай вобразнай сістэмы.

«Гіпс», «Лазурыт», «Сургуч». Яны сталі тым будаўнічым матэрыялам, з якога складаецца свет рэчыўных вобразаў у кнізе Г. Булыкі «Сінтэз». Выводзіць складанае з простага, бачыць прыгожае за межамі агульнапрынятых ідэалаў—ці не ў гэтым цуд паэзіі? У сваім жаданні спазнаць цану ўсяму існаму, судакрануцца, знітавацца з рэчыўным і праз гэта прыйсці да архітыповых з'яў жыцця паэтка імкнецца адысці ад зацёртых паэтычных вобразаў, моўных сродкаў, пашыраючы значэнне агульнавядомых слоў, смела ўводзячы ў верш тэрміны. Вось «Мыццё акна»:

Два рэчывы—напятае і вагкае,
Два гукі, бы трывожаць дзве струны:
Ад гідрасферы—кроплі гулка плакалі,
Ад літасферы—ліўся звон шкляны.







Навука, гісторыя, мастацтва—матэрыял для Г. Булыкі ўжо пераасэнсаваны, і, будучы засвоены няштучна, ён стварае так званую агульнакультурную памяць, якая высвечвае праз вонкавую абалонку любых, нават самых нязначных праяў жыцця. Асабліва добра гэта відаць у вершах «Свінец», «Нараджэнне бронзы», «Аднадрэўка». Паэтычнае мысленне Г. Булыкі раскавана. Яе знешне дзіўная логіка звязвае ў адзіны рад рэчы ў рэальным жыцці даволі далёкія. Але тым большая радасць «пазнавання», калі чытач захоплены тым, што яго падсвядомыя асацыяцыі набылі матэрыяльнасць у слове. Так, чытаем у вершы «Гарт»:

Роў у печы агонь гартання,
Іскра літару адлівала,
А вада энергіяй таннай
Надавала гарту трываласць.
І друкарскі станок парыпваў,
І гартэнзія адцвітала—
Аблятталі лісты старыя.
...Горда кнігу рука гартала.
Узнімаўся ў вышэйшым гарце
Стос цяжкіх лістоў друкаваных.
Гартавалася сэрца майстра.
Геніяльнасці загартаванасць.

«Натурфіласофскія», паводле азначэння Р. Барадуліна, вершы ў кнізе «Сінтэз» у большасці сваёй звязаны агульнай тэмай рамяства як працэсу нараджэння рэчы. Тут бачыцца жаданне вылучыць не знешняе, павярхоўнае, а сутнасць, прыроду. Па такому шляху ідзе і Л. Дранько-Майсюк, які звяртаецца да тэмы рамяства ў сваёй кнізе «Над пляцам».

«Сталяр», «Бондар»—вершы з такімі назвамі не выпадковасць у творчасці паэта, які не згубіў і не хоча губляць жывыя карані. У адрозненне ад многіх паэтаў-негараджан, якія амаль не выкарыстоўваюць перавагі, што адкрываюцца перад імі,—веданне жывой мовы, блізкасць да фальклорнай свядомасці,—Л. Дранько-Майсюк знаходзіць мову прадметна-канкрэтную, каб прыйсці да свайго верша, спецыфічнасць якога перш за ўсё ляжыць у знітаванасці традыцыйнага вершаскладання з сучасным мысленнем і, наадварот, нацыянальнага светаадчування з наватарствам у фарматворчасці. Таму лакальнае, набываючы сімвалічныя рысы, перарастае ў паэта ў агульнатыповае. Рэальны давыд-гарадоцкі каларыт не ідзе праз верш арнаментальна, а асэнсоўваецца ўжо як прыналежнасць літаратуры. Прычым каларыт гэты ствараецца нават не ўжываннем дыялектных слоў ці паказам рэалій мястэчковага побыту. Справа тут, відавочна, у своеасаблівасці светаадчування. «У Л. Дранько-Майсюка няма падкрэсленага адрознення паміж прыродай, людзьмі, рэчамі. Узаемапранікненне, пераўтварэнне, роўнасць, адсюль усеагульная Сувязь Сусвету, гармонія паміж жывой і нежывой прыродай»,—адзначае ў сваёй рэцэнзіі «Сцежкі вандроўніка» С. Кавалёў.

Высвятляючы прыроду рэчыўнага свету, Л. Дранько-Майсюк не пакінуў без увагі пытанне аб прыродзе творчасці:

У кожнай складанасці ёсць прастата,
Якая звычайнай работай завецца,
І хто зразумее хоць раз мастака—
Да сэрца свайго і душы дакранецца.

Падобны мастак да таго цесляра,
Які абуджае драўляныя струны
У аканіцах, у браме двара,
У кроквах-праменнях,
Спрадвечных і юных.

Але не варта было б шукаць у яго вершах гатовых фармуліровак. Верш паэта неафарыстычны, знешне нібыта расцягнуты. Ды, як ні дзіўна, у гэтым тоіцца адзін з сакрэтаў яго прыцягальнасці. Яна ў майстэрстве «ўмоўчвання». Паэт пазбягае ацэнак і высноў, называючы толькі знакі, з дапамогай якіх чытач сам далучаецца да творчасці, творчасці ўспрымання. Дасягае ён гэтага перш за ўсё за кошт выяўленчага мыслення, і таму невыпадковым з'яўляецца вобраз Шагала ў тым жа «Віцебску, 1922». Верш, напісаны, відавочна, пад уражаннем шагалаўскай карціны «Над Віцебскам», выклікае думкі аб шматмернасці існавання. «Мастакоўскае» ўспрыманне свету вядзе да таго, што паэтычныя вобразы могуць набываць альбо страчваць свае аб'ёмнасці ці колер у залежнасці ад іх нагружанасці. У гэтым да Л. Дранько-Майсюка вельмі блізкі А. Глобус, паводле адукацыі мастак. Добра напісаў пра яго выяўленчыя пошукі ў паэзіі М. Стральцоў: «Вось жа і ўласны вопыт графіка і жывапісца не абмінуты А. Глобусам, як не абмінуты, а па-свойму ўбачаны праз мастацтва, праз акварэль і вопыт традыцыйнага японскага верша, чаму ёсць у зборніку даволі яскравае пацвярджэнне. Вопыт мастака адчуваецца і ў слоўнай палітры, і ў эмацыянальна-вобразным каларыце, у разуменні кантрасту—аб'ёмнага, каляровага, прас-

торавага». Хочацца толькі адзначыць, што акрамя «біяграфічнага» ці «адукацыйнага» штуршка да падобнай графічна-жывапіснай паэзіі трэба ўлічваць і тое, што яна стваралася ў працівагу так званай «паэзіі клічнікаў» (П. Ульяшоў):

Не будзе лепей, не будзе горай.
Нязменна белы не стане чорным.
Не знікнуць горы. Не згаснуць зоры.
Дык што мы творым? Нашто гаворым?

Верш А. Глобуса гранічна насычаны вобразамі, сімваламі, і разам з тым ён здзіўляе сваёй аскетычнасцю. Іншым часам нават ствараецца адчуванне таго, што рэчыўны свет цікавіць паэта больш, чым духоўны. Але ўражанне гэта ідзе ад патаемнай сугестыўнасці паэзіі А. Глобуса. Так, у вершы «Меліярацыя» мэтанакіраванае абуджэнне свядомасці ідзе праз нагнятанне вобразаў, у сваёй жахлівай рэчаіснасці даведзеных да сімвалаў:

Шчупакі плаўнікамі спілуюць
чырвоныя сосны;
Мёд жывіцы ў цыстэрны збяруць
меднавокія восы;
Цягнікі, як вужакі, цяжкія галовы
падымуць;
Закіпіць небасхіл і зацягнецца
вугальным дымам;
Страказа-верталёт праміне сваю
цёплую зорку;
Прыгадае Зямля—час Адама ад
яблыка горкі;
Абумовіць пяшчота эксперыментальныя
змены;
Чарапаха пакіне самотнаму панцыр
каменны...

Паэт ламае нашы звыклыя ўяўленні аб лірыцы як аб нейкім непазбежным прытулку лірычнага героя. З аднаго боку, згадзіцеся, прыемна, калі аўтар нясе адказнасць за свае словы, смела ставячы «я». Разам з тым нельга не пагадзіцца з Т. Чабан, якая ў артыкуле «Права на лірычнае «я» скардзіцца на імкненне некаторых маладых паэтаў, скарыстаўшы адкрытасць, пазнавальную біяграфічнасць верша, «заняць пост назіральніка», адмяжоўваючыся ад агульнай віны, віны за чалавецтва, для якога няпэўнасць стала дэвізам. Верш А. Глобуса ўвогуле пазбаўлены «героя», таму што «героем» становіцца сама сучасная рэчаіснасць, якая спяшаецца максімальна скараціць адлегласць паміж высокім і нізкім, завядзёным і ўрачыстым. Як і Г. Булыка, А. Глобус спрабуе надаць паэтычную важнасць, элегічны ці ўзнёсла-адычны настрой такім з'явам і словам, як «ацэтылен» і «альтруізм», «эбаніт» і «цыркулярка», раскрыць іх у новай, нетрадыцыйнай прадметнасці, паводле слоў М. Эпштэйна, «узвесці тэрміны ў метафары».

Але ў адрозненне ад Г. Булыкі, якая выкарыстоўвае тэрміны, паказваючы перш за ўсё знітаванасць жыцця і навукі, іх непазбежнае перараджэнне адно ў адно, А. Глобус карыстаецца імі як адзіным спосабам выказаць апасродкаванае бачанне свету, пры якім нават прырода пераасэнсоўваецца як другасная ў адносінах да культуры:

Сёння—гэта сэрцалістная ліпа
З крылатай кропкай насення.
За ліпай трансфарматар усхліпвае,
Прагнучы ператварэння.

Існуе ў маладой паэзіі трэці шлях, непасрэдна выкліканы сённяшнімі пераменамі ў грамадска-палітычным жыцці краіны. З цікавасцю чытаем зараз часопісы і газеты, якія выйшлі некалькі год назад. Так, у аглядзе паэзіі маладых «Пра ўсё сказаць прыйшла пара» Т. Бондар пісала: «Калі яшчэ зусім нядаўна галоўны канфлікт бачыўся ў тым, што чалавек усюды натыкаўся на супярэчнасці паміж сабой і асяроддзем (уся класічная літаратура будавалася на гэтым), то сёння канфлікт, здаецца, поўнасцю перамясціўся ва ўнутраны свет самога чалавека, у сферу маральную». Прайшло зусім мала часу, аднак нават падручнік па навуковаму камунізму сцвярджае зараз існаванне рознанакіраваных грамадскіх сіл пры сацыялізме, уздымае пытанне аб становішчы нацыянальных культур, спрабуе ўдасканаліць панцце аб сацыяльнай справядлівасці як крытэрыі законнасці.

«Супярэчнасці паміж сабой і асяроддзем», якія, на жаль, пакуль што не знішчаны, сталі імпульсам для творчасці такіх паэтаў, як А. Сыс, А. і В. Дэбішы, С. Сакалоў-Воюш, для якіх характэрна перш за ўсё абвостранае ўспрыняцце гісторыі, драматызм светаадчування. Калі лічыць, што «гісторык—прарок, скіраваны ў мінулае» (Ф. Шлегель), то паэт, які піша на гістарычную тэму, павінен, абапіраючыся на вопыт мінулага, стаць прарокам будучыні.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

Ад рэдакцыі:
**Хто паспрачаецца з крытыкам? Калі ласка!**






# ПЯСНЯР УКРАІНЫ

*...Сваю Украіну любіце,*
*Любіце яе...*
Тарас Шаўчэнка

Тарас Шаўчэнка як сапраўды народны мастак атрымаў у спадчыну ўсе таленты і духоўныя рысы свайго старажытнага, жыццяздольнага, свабодалюбівага, велікадушнага народа. Тарас Рыгоравіч дасягнуў вяршыняў украінскай і агульначалавечай культуры як геніяльны паэт, мысліцель, мастак-акадэмік. Меў ён і вялікі спявацкі дар. Як сведчыць яго сябра Леў Жамчужнікаў (вядомы ўкраінскі і рускі мастак, фалькларыст, праўнук апошняга гетмана Украіны Кірылы Разумоўскага), Шаўчэнка «спяваў прыемным голасам, цалкам захоўваючы харак-

**Тарас Шаўчэнка. Аўтапартрэт.** 1843 г.

тар народны, глыбока адчуваў, што спяваў». Сілаю ўсіх гэтых талентаў у арганічным адзінстве з пазачасавай этычнай сутнасцю слова Тарас Шаўчэнка здабыў самае высокае народнае прызнанне паэта як духоўнага правадыра-прарока — Вялікага Кабзара. Сіла маральнага ўздзеяння слова кабзара — у адзінстве сапраўднага мыслення і шчырага дзеяння, у сумленнасці нашых духоўных паплечнікаў. Адсюль і рэдкае маральнае ўздзеянне слова Шаўчэнкі. Сутнасць шаўчэнкаўскай этыкі ў сумленнасці творцы, у адзінстве яго чалавекалюбства і дабрадзейства (толькі ў любові кожнае дзейства бывае дасканалае, маральнае). Тарас Шаўчэнка — адзін з найсумленнейшых мастакоў на зямлі. Сумленнасць, сціпласць — вызначальныя рысы яго асобы. Праўдзівае, неэгаістычнае слова Шаўчэнкі звернута і да свайго народа, і да ўсіх народаў планеты адначасова, яно надзяляе ўсіх людзей святлом спачування, узаемадапамогі, суперажывання. Усе гэтыя таленты і духоўныя якасці Тарас атрымаў у спадчыну ад бацькоў, усё гэта перадалося яму як генетычная спадчына па глыбокаму родаваму кораню ад многіх пакаленняў продкаў. Корань Тарасавай радаслоўнай разгалінаваннямі сваімі цягнецца ў Карпаты і Паднепроўе, злучаючы ў сабе ўсю Украіну...

## НАСЛЕДНІК РОДАВЫХ СКАРБАЎ

Нарадзіўся Тарас у часовым бацькоўскім жыллі, якое было побач з хатай свайго дзядулі па маці Якіма Іванавіча Бойкі ў сяле Морынцы, дзе нарадзілася і вырасла мама яго — Кацярына. Мамін род Бойкаў паходзіць з сярэдніх Карпатаў, з асаблівага этнічнага парастка — бойкаў. Бойкі — нашчадкі старажытнага кельцкага хлебаробска-жывёлагадоўчага народа бояў, баяраў. Цераз два гады бацькі вярнуліся ў Кірэліўку, адкуль паходзіў бацька Тараса. Новае жыллё іх з вішнямі ля хаты і вялікім садам было побач з сядзібай дзеда — Івана Андрэевіча Шаўчэнкі. Сярод гэтай цудоўнай прыроды, побач з самымі роднымі людзьмі і пачынаецца свядомае жыццё Тараса. Рос ён мяккім, чуйным дзіцем, душою быў прывязаны да бацькоў, сясцёр і братоў (было ў яго тры сястры і два браты). Больш за ўсіх любіў маму, ды і яна яго любіла як нікога. Але захварэла маці і памерла ва ўзросце сарака год, калі Тарасу было дзевяць. Пачалося цяжкае сіроцтва з мачахай, бо як мама любіла сыночка, так мачаха ненавідзела пасынка. Праз паўтара года не стала і бацькі. І адзінаццацігадовы Тарас пакідае дом і жыве ў дзяка ў школе — як шкаляр і памочнік дзяка. На гэты час хлопец прайшоў ужо добрую навуку — школьную і жыццёвую. З васьмі год ён вучыўся ў школе. Але галоўныя веды Тарас засвоіў дома ад родных. Гэта духоўныя традыцыі народа, пранесеныя праз вякі родавай памяццю. Так спакон вякоў з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне перадаюцца рэальныя жыццёвыя веды. І яны, гэтыя веды, успрымаюцца дзецьмі непасрэдна ад дзядоў і бацькоў, і ніякім іншым спосабам іх не атрымаць.

Кірэліўскі дзядуля — наследнік старога казацкага роду, сам удзельнік гайдамаччыны — расказваў цікаўнаму, кемліваму ўнуку гісторыю свайго роду і народа, гісторыю роднага краю. Вось так яшчэ ў добрыя часы сямейнага шчасця пераняў маленькі Тарас ад дзеда Івана самыя першыя ўражанні, веды жывой гісторыі і сілу мастацкага расказу, ад дзеда Якіма — цягу да зямлі, ад бацькі — інтэлігентнасць, цягу да адукацыі (бацька быў начытаны, адукаваны), да рамяства, ад мамы — да малявання і спеваў (мама Тараса славілася сваім уменнем маляваць кветкі і спяваць). І ўсе родныя разам перадалі хлопчыку самы дарагі духоўны скарб народа — мову, мысленне. Вось так, у раннім дзяцінстве, дзякуючы клапатлівай радні, сфармавалася духоўнае ядро асобы Тараса. Бо вядома, што да шасці год дзіця атрымлівае 95 працэнтаў усёй жыццёва неабходнай інфармацыі, улічваючы і генетычную. У Тараса разам з глыбокай цікаўнасцю вельмі рана развіліся летуценнасць і самасузіранне, якія ўзмацніліся з часам адзіноцтвам сіроцтва. Яшчэ шкаляром Тарас пачынае пісаць вершы, маляваць. З вершамі яму прыйшлося хавацца з маленства і амаль усё жыццё. А няўдалыя пошукі настаўніка малявання скончыліся тым, што 14-гадовага Тараса забіраюць працаваць у панскі маёнтак як сына прыгоннага. Праз год памешчык забірае Тараса спачатку ў Вільню, потым у Пецярбург. Так 15-гадовым хлопцам Тарас быў разлучаны са сваім родам, народам, родным краем. Расстанне доўжылася 14 год. За



гэты час лепшыя людзі мастацтва выкупілі яго з прыгону: ён стаў зусім сталым паэтам і мастаком, выдаў першую кнігу вершаў «Кабзар» — загаварыў на ўвесь свет мовай свайго народа, адкрыў свету прыгажосць пачуцця і сілу думкі ўкраінскага слова.

## З РОДНАЙ ХАТЫ — РОДНАЯ МОВА І ПАЧУЦЦЁ РАДЗІМЫ

«Мікіта, родны брат!.. будзь ласкавы, напішы мне так, як я табе пішу, не па-маскоўску, а па-нашаму.

Бо москалі чужі люди,
Тяжко з ними жити;
Немае з ким поплакати,
Ні поговорити.

Дык няхай я хоць па паперы пачую роднае слова, няхай хоць раз паплачу вясёлымі слязамі, бо мне тут так стала сумна, што я кожную ноч толькі і бачу ў сне, што цябе, Кірэліўку, радню ды бур'ян (той бур'ян, дзе колісь хаваўся ад школы); весела стане, схамянуся, заплачу. Яшчэ раз прашу, напішы мне пісьмо, ды па-свойму, будзь ласкавы, — а не па-маскоўску... Дабранач.

Твой родны брат
Тарас Шаўчэнка

...Не забудзь жа, зараз напішы пісьмо — ды па-свойму.

15 лістапада 1839. С. Пецярбург».

«Браце Мікіта, трэба б цябе палаяць, ды я не сярдую. ...а па-другое, за тое, што я твайго пісьма не разумею, д'ябал ведае, па-якому ты яго скампанаваў, ні па-нашаму, ні па-маскоўску — ні тое, ні сёе, а я шчэ цябе прасіў, каб ты напісаў па-свойму, каб я хоць са сваім пісьмом пагутарыў на чужой старане мовай людскай. Ну, дый за тое дзякуй.

2 сакавіка 1840. Санкт-Пецярбург».

(З лістоў Т. Р. Шаўчэнкі М. Р. Шаўчэнку.)

Не забылася на чужбіне, а, наадварот, памацнела ўсё тое, што зарадзілася ў родным гняздзе на волі ранняга дзяцінства. Іменна ў роднай хаце — храме родавага духу, у «садку вішнёвым», храме роднай прыроды — Тарас засвоіў старажытную мову свайго народа, і там упершыню з магутнай сілаю вызначылася ў малым Тарасе вечнае імкненне творчага чалавечага духу вырвацца з няволі, перадолець цемру невуцтва, выйсці за межы звычнага і свабоднай думкай дасягнуць светлай бязмежнасці. У родным гняздзе праясніўся высокі арліны зрок Тараса. У родным гняздзе, у сям'і, зарадзілася і вызначылася шостае чалавечае пачуццё, пачуццё радзімы. Жыццё чалавечае неаддзельнае ад роднай зямлі, немагчымае без роднай мовы, бо ў мове выяўляецца самасвядомасць народа, творчы дух і жыццёвы вопыт яго пакаленняў, мова — духоўны генафонд народа, спосаб быцця этнічнай самасвядомасці. Украінская мова — адна з самых старажытных у свеце, яе ўзрост вызначаецца тысячагоддзямі. Мову можна хутка забыць, але нельга хутка змяніць. Мову вызначае сама прырода краю і гаспадарча-духоўны вопыт народа. У кожнай зямной істоты — свой голас. «З мовай жартаваць нельга, — папярэджваў вялікі айчынны лексіколаг, блізкі знаёмы Т. Р. Шаўчэнкі У. І. Даль, — слоўная мова чалавека — гэта бачная, адчувальная сувязь, звяно між душой і целам, духам і плоццю». Адпаведнасць мовы-мыслення і прыроды краю — гарант экалагічнай раўнавагі. Мова народа і яго зямля складаюць той жыццёвы асяродак, які творыць і ў якім самаўдасканальваецца кожны асобны чалавек і цэлы народ. Шаўчэнка сваёй магутнай энергіяй пачуцця і думкі ўзнавіў родную мову ва ўсіх сферах жыцця народа, вярнуў украінскаму слову яго заўсёдную універсальнасць. Слова — духоўны фактар нашага быцця.

## «ЧЫЕ СЫНЫ? ЯКІХ БАЦЬКОЎ?»

Так, як Тарас любіў сваю зямлю — Украіну, — можна любіць толькі маці. Шаўчэнка сілаю свайго слова адрадзіў старажытнае імя роднай зямлі — вярнуў сваёй бацькаўшчыне законнае імя, якое трыста год было пад вялікадзяржаўнымі забаронамі. Вярнуў імя свайму народу і засведчыў яго гістарычнае права на родную зямлю. І паставіў перад самасвядомасцю кожнага ўкраінца пытанне:

Чиї сини? яких батьків?
Ким? за що закуті?..

Украіна... Старажытная назва яе паходзіць не ад імя народа, а мае астральнае, сонечнае паходжанне (як, напрыклад, Аўстралія, Аўстрыя, Аргенціна, Іран, Ірландыя, Італія), і ад яе паходзіць этнонім украінцы — так называе сябе народ, які жыве на ёй спакон вякоў і генетычна зрадніўся з яе прыродай. Першапачатковае сонечнае значэнне слова Украніа-Украіна ў нашай моўнай старажытнасці

прачытваецца як зямля продка жураўля, што звязана з сонечным светапоглядам нашых продкаў-хлебаробаў, быццё якіх падначальвалася Сонцу—вытоку зямнога жыцця. І назва сонечнай птушкі-татэма круна, крана—журавель, якога яны абагаўлялі як свайго продка-заступніка, бо ён злучаў іх зямлю і іх быццё з жыватворнай сілай Сонца.

Таму Украіна ўсведамлялася як спадчынная зямля сонечнага дабрабыту. З часам гэтае найменне набыло значэнне проста краю продкаў. У эпоху захопніцкіх нашэсцяў на квітнеючую хлебаробскую зямлю яе старажытная назва была, адпаведна, пераасэнсавана як Украяна—адваяваная мечам у захопнікаў. А ў працэсе імперскай цэнтралізацыі Украіна была пазбаўлена аўтаноміі і атрымала назву ўскраіны Расійскай дзяржавы—Маларосіі.

Шаўчэнка звяртаўся да ўсіх «в Украіні сущим», каб кожны ўсвядоміў сябе сынам гэтай зямлі, вывучыў яе мову і прачытаў яе сапраўдную гісторыю. І чым глыбей мы будзем укараняцца ў гісторыю, тым больш духоўная і багатая будзе наша будучыня, ясней будзе перспектыва нашага поступу. Гэта стане гарантам нашага духоўнага ўзаемадзеяння-ўзаемаразумення з іншымі народамі свету.

На Украіне спакон вякоў жылі розныя плямёны і народы—жылі ва ўзаемадапамозе і згодзе. І як вынік гэтай шматвяковай селекцыі нам у спадчыну дасталася ўкраінская мова, цудоўная народная паэзія, разнастайная музыка і светлы жыццелюбівы светапогляд высокай хлебаробскай культуры. Як пісаў добры знаёмы Т. Р. Шаўчэнкі Н. А. Цартэлеў, ва ўкраінскіх песнях «бачны піітычны геній народа, дух яго, звычаі апісваемага часу і, нарэшце, тая чыстая маральнасць, якою заўсёды адрозніваліся ўкраінцы і якую клапатліва захоўваюць да гэтага часу...». Украінская народная паэзія і народная культура—вялікія настаўнікі, якія песцілі паэтычны талент і магутны святланосны дух Тараса.

Паэзія нашага народа зарадзілася ў пракаветныя часы як песня-малітва-гімн Сонцу. Яе пазачасавая неператходзячая маральная каштоўнасць у звароце да спрадвечнай жыватворнай сілы прыроды—светлай сілы стварэння. Таму наша народная песня з'яўляецца найвышэйшым крытэрыем сапраўднасці для ўсёй нашай славеснасці; і толькі дасканалае паэтычнае слова становіцца песняй. Здаўна творцаў песеннага слова называюць у нас песнярамі. Гэтым свяшчэнным імем народ наш назваў кабзароў і Шаўчэнку, слова якога мае маральную сілу спаконвечнай народнай песні-малітвы.

## КАБЗАР—СЫН І ПРАРОК НАРОДА

Кабзары—мудрыя сляпыя спевакі—выводзілі на духоўную дарогу відушчых. Ва ўсе вякі ніхто не меў права зрабіць замах на жыццё «божых людзей». Кабзары былі недатыкальныя і на крымскіх нявольніцкіх базарах, і ў самой турэцкай сталіцы—Стамбуле. Ды давялося гінуць нашым духоўным празарліўцам і па Сібірах, Салаўках і Калымах. Найцяжэйшы грэх за ўсю крывавую гісторыю ўчыніла сталінская апрычніна—забіта некалькі соцень святых людзей—сляпых кабзароў. Без духоўных пракрокаў аказаўся народ наш на раздарожжы гісторыі, у цьме бяспамяцтва...

Украінцы—спаконвечныя хлебаробы-аграрыі. Век аграрнай культуры на Украіне налічвае звыш 10 тысячагоддзяў. У розныя эпохі па-рознаму называліся грамадскія аб'яднанні народаў на нашай зямлі, але сутнасць іх была адна—усе яны складаліся з чатырох гарманічна ўзаемадзейнічаючых між сабою саслоўяў—хлебаробаў, пастухоў, воінаў і духоўнага саслоўя, якое клапацілася аб захаванні і перадачы духоўных ведаў-вопыту пакаленняў.

Духоўнае саслоўе ўкраінскага грамадства складалі кабзары. Кабзар—чалавек святланоснай свядомасці, святлатворца-пясняр, а адсюль і назва рытуальнага інструмента: кобза, пявучая-дасведчаная. Кабзары—песняры-пракрокі, мудрацы, тлумачальнікі Свету, носьбіты сонечнага светапогляду; людзі вытанчанай жыццёвай практыкі, яны злучалі ў сабе зямное і нябесна-сонечнае. Геніяльна дакладна вызначыў сутнасць кабзарства вялікі мастак славянства Іван Бунін: «...Кабзар—сын народа, які не аддзяляе зямлі ад неба...» Такі народ—украінцы, адвечныя хлебаробы, якія сваім ладам жыцця садзейнічаюць жыватворнаму ўзаемадзеянню сонечнага жыццятворнага зямнога ўзнаўляючага пачатку. Кабзарства—глыбінная духоўная з'ява ў жыцці нашага народа, і яго нам цяжка цяпер усвядоміць, бо яно на мяжы знікнення. Сутнасць кабзарства нельга звесці толькі да праслаўлення ці аплаквання мінулага. Традыцыя кабзарства асноўваецца на веданні духоўнай гісторыі свайго народа, што дае магчымасць кабзарам пранікаць у мінулае, па найвышэйшых крытэрыях сапраўднасці ацэньваць сучаснае і прадбачыць будучыню. Кабзары былі захавальнікамі генетычнай памяці і народнай маралі, будзілі сумленне, былі песнятворцамі, дасведчанымі правраднікамі ведаў, што адкрывалі людзям шлях да ісціны. Такую духоўную функцыю ў старажытнаарыйскім грамадстве выконвалі рышы—племянныя спевакі-дасведчаныя, мудрацы і празарліўцы. Такім чынам, украінскае кабзарства—рэлікт даўняй, арыйскай традыцыі непасрэднай, беспісьмовай перадачы рэальных, дзейсных ведаў, якія з'яўляюцца адзінствам слова і дзеяння. Кабзары як носьбіты светлых духоўных якасцей адных людзей накіроўвалі на шлях праведны, для другіх былі дарадчыкамі. Народныя песняры не славілі ўладык, не расхвальвалі крывадушна пакутніцкі гераізм рабоў. Кабзары як людзі высокамаральныя сцвярджалі ў чалавеку чалавечнае, будзілі і ўмацоўвалі свядомую волю да жыцця. А дзякуючы маральнасці і свядомай волі да жыцця адбываецца самаствараэнне асобы і цэлага народа. Украінскае грамадства ў часы казацкай рэспублікі, не ведаючы манархічнай дзяржаўнай улады як ніжэйшай ступені грамадскага развіцця, дасягнула высокага ўзроўню самаарганізаванасці дзякуючы народным ідэолагам—кабзарам. Свабодныя людзі, яны вялі да свабоды і іншых.

Такую магутную духоўную функцыю здзяйсняе ў нашым жыцці слова Шаўчэнкі. І народ наш засведчыў найвышэйшае прызнанне паэта-песняра светлым імем Кабзар. «Напішы што-небудзь Кабзару, ці правадыру ўсіх нас»,—так гаворыць пра Шаўчэнку яго аднадумца О. М. Брадзянскі (вядомы філолаг, гісторык, пісьменнік, прафесар Маскоўскага універсітэта) у пісьме да другога аднадумцы М. А. Максімовіча—таксама слыннага філолага, прыродазнаўцы, першага рэктара Кіеўскага універсітэта. Тут Кабзар і правадыр—тоесныя паняцці, якія вызначаюць магутную духоўную сталасць Шаўчэнкі. Словы гэтыя азначаюць і пачатак духоўнага шляху Тараса, яго асабістае далучэнне да таемнасці кабзарства. Тарас быў нейкі час павадыром у мудрых сляпых, пра што ўспамінае ў сваіх літаратурных творах, і паказаў сябе маленькім побач з кабзаром у ілюстрацыі да паэмы «Сляпы» («Нявольнік»). Шаўчэнка і сам умеў іграць на бандуры і кобзе і ведаў кабзарскія песні, пра што сведчаць яго сучаснікі. Усё жыццё ён з асаблівай сардэчнасцю быў прывязаны да сваіх настаўнікаў слова—народных песняроў-мудрацоў, падтрымліваў іх духоўна і матэрыяльна. А «Кабзар» Шаўчэнкі—звод геніяльнай прарочай паэзіі—стаў духоўным помнікам яго вечным настаўнікам—кабзарам. У аповесці «Прагулка з задавальненнем і не без маралі», напісанай у Новапятроўскай крэпасці ў апошнія гады салдатчыны па-руску (афіцыйная мова была своеасаблівым прыкрыццём крамольнай украінскай думкі), геній украінскага слова аддае высокую павагу сваім настаўнікам і чыстасардэчна гаворыць пра свае паэтычнае вучнёўства: «Нядаўна нехта друкавана параўноўваў нашы, г. зн. маларасійскія, гістарычныя думы з рапсодыямі хіоскага сляпога, прабацькі эпічнай паэзіі. Я чытаў, зразумела, у перакладзе Гнедзіча, і вычытаў, што ў Гамера няма нічога падобнага на нашы гістарычныя думы-эпапеі... усе яны такія ўзвышана-простыя і цудоўныя, што калі б уваскрэс сляпец хіоскі ды паслухаў хоць адну з іх ад такога ж, як і сам ён, сляпога кабзара ці лірніка, то разбіў бы ўшчэнт свой кошык, што завецца лірай, і паступіў бы ў механошы да самага беднага нашага лірніка, назваўшы сябе публічна старым дурнем. На жаль, цяпер я сябе так назваць павінен. Па-першае, за тое, што хацеў пераймаць, а па-другое, за тое, што не ведаў, каго пераймаць. А дзе прычына гэтай несамасвядомасці, гэтай антымаральнай несамасвядомасці? Вядома дзе, у школе. У школе нас усяму навучаць, акрамя разумення свайго мілага роднага слова. О школа, школа! як бы хутчэй цябе перашколіць!»

Вялікі Пясняр Украіны сказаў свае Слова на ўсе вякі жыцця свайго народа. Мы павінны задумацца, ці дастатковы наш узровень маральнай самасвядомасці, каб успрыняць глыбока эмацыянальнае, поўнае магутнай думкі яго Слова—выток духоўнага далучэння, дзейсны фактар нашага жыцця? Ці не заніжаны нашы жыццёвыя патрабаванні ў параўнанні з патрабаваннямі сумленнага Слова Кабзара, які будзіць свядомую волю да жыцця?

**Аляксандр ШОКАЛА**

**г. Кіеў**

# У ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

Беларуская эміграцыя — малавядомая, амаль недаследаваная старонка ў гісторыі нашага народа. І, друкуючы ў часопісе «Маладосць» (№№ 10—11, 1988 г.) нататкі на гэтую тэму — плён маіх шматгадовых разіранняў, роздумаў і пошукаў, я, натуральна, спадзяваўся на дапамогу чытачоў — людзей розных узростаў і лёсу: раптам хто-небудзь з іх падкажа сёе-тое і я ўнясу патрэбныя карэктывы, выпраўлю недакладнасці і непазбежныя ў такіх выпадках памылкі. Карыстаўся ж я адным і матэрыяламі і звесткамі, а маглі быць і нейкія іншыя. Ды і не ўсё, што рабілася і робіцца суайчыннікамі, асабліва тымі, хто жыве далёка ад Радзімы, даходзіць да нас у Беларусь, а тым больш трапляе, хоць я быццам і цікаўлюся гэтым, мне на вочы... І я не ашукаўся ў сваіх спадзяваннях. Адразу ж пасля публікацыі нататак знаёмыя і незнаёмыя людзі пачалі паведамляць тое, што ведалі яны і чаго не ведаў я. Выявілася і яшчэ адно: некаторыя з тых, пра каго я пісаў, вучыліся і працавалі, а то і сядзелі ў турмах з людзьмі, з якімі гадамі я жыву побач, неаднойчы сустракаўся. Так, напрыклад, пісьменнік Васіль Хомчанка прызнаўся, што з паэтам Масеем Сяднёвым прабыў у адной камеры ў мінскай турме даволі доўга, помніць і цяпер яго вершы, якія той чытаў тады таварышам па няшчасцю...

З Алесем Салаўём (Альфрэдам Радзюком) вучыўся ў педтэхнікуме Аркадзь Марціновіч, помніць яго і Нічыпар Пашкевіч. А журналіст Б. Сасноўскі з Лагойска расказаў пра Алеся Салаўя нават на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» (17.02.1989). Паводле яго аповеду, ён, Б. Сасноўскі, пазнаёміўся з Алесем Салаўём — Альфрэдам Радзюком у 1938 годзе ў Мінску на нарадзе маладых пісьменнікаў і, даведаўшыся, як той бедна жыве, прапанаваў месца ў лагойскай раённай газеце, дзе супрацоўнічаў сам да паступлення ў педінстытут імя М. Горкага. А. Радзюк з радасцю прыняў гэтае запрашэнне і пехатой накіраваўся ў Лагойск. Тут ён быў прыняты на працу ў рэдакцыю і яго поспехам усе радаваліся, бо ён надта ж актыўна выступаў на старонках газеты з артыкуламі, замалёўкамі, сатырычнымі і лірычнымі вершамі... Калі пачалася вайна, А. Радзюк напісаў верш пра бандыцкі напад гітлераўцаў на нашу Айчыну. Верш не паспелі надрукаваць, ён застаўся ў рукапісе на наборнай касе. І калі раён акупавалі ворагі, верш трапіў разам з іншымі матэрыяламі ў рукі фашыстаў...

А. Радзюк тым часам апынуўся ў лесе, дзе сустрэўся з пасланцом партыі Іванам Мацвеевічам Цімчуком, які быў накіраваны ў тыл ворага для арганізацыі партызанскай барацьбы.

Партызаны ў тыя першыя месяцы надта ж цярпелі ад холаду і голаду. А. Радзюк не вытрымаў выпрабаванняў, вярнуўся ў Лагойск і, вядома ж, трапіў у турму. Выратаваў яго малады паэт Уладзімір Дудзіцкі, які быў знаёмы з ім да вайны, забраў у Мінск, уладкаваў на працу ў рэдакцыю «Беларускай газэты».

«Я не ведаю выпадку,— піша Б. Сасноўскі,— каб Радзюк падтрымліваў немцаў. Але ў яго была крыўда на Савецкую ўладу за незаконны арышт бацькоў».

Няйнакш, гэтая крыўда ды і матэрыяльныя цяжкасці (трэба было карміць меншых двух братоў і сястру, якія пасля арышту бацькоў асталіся на яго ўтрыманні) і прывялі А. Салаўя ў стан ворага — ён апынуўся ў Рызе, пачаў дапамагаць выдаваць часопіс «Новы шлях», а потым, баючыся расплаты за гэта, пакінуў Радзіму, адступіў разам з немцамі...

Удакладніліся і некаторыя факты з біяграфіі Ларысы Геніюш, асабліва тыя, што звязаны з жыццём у Празе. У сваіх успамінах, якія, на жаль, пакуль не надрукаваны, яна паведамляе, што ў Прагу прыехала з сынам Юркам у «апошнія дні 1937 года». Навучылася там вельмі хутка гаварыць пачэшску і ўсюды, як яна піша, «магла даць сабе рады». І хоць «некранутая войнамі Прага» ёй спадабалася, яна палюбіла яе, аднак «кахала толькі маю Беларусь». («Як жа часта шчымела мне сэрца туга па сваіх! У вачах стаяла мама з слязамі ў вачах пры развітанні. Так я апошні раз яе бачыла і болей ужо не сустрэла ў жыцці».)

Падзеі ж тым часам складваліся так, што гітлераўская Германія акупавала Аўстрыю, і «чэхі адчувалі, што падобнае можа аднойчы быць і з імі. На жаль, яны не памыліліся» — «пасля 15 сакавіка 1939 г., у ветраны заснежаны дзень, увайшлі немцы ў Прагу». Муж Л. Геніюш Іван Пятровіч працаваў лекарам, аднак з прыходам немцаў становішча яго ды і самой Ларысы Антонаўны пагоршылася — яны былі грамадзянамі Польшчы, і палякі патрабавалі, каб чэхі ўсіх польскіх грамадзян вярнулі дадому. Да ўсіх іншых нягод дадаліся новыя — пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй быў арыштаваны бацька Л. Геніюш і пасаджаны ў гродзенскую турму, а маці выслана ў Казахстан; родны ж брат Расціслаў, ратуючыся, трапіў у Польшчу і нечакана для сябе апынуўся ў фашысцкай няволі...

Ад гора Л. Геніюш вырашае пакончыць жыццё самагубствам...

Выратаваў яе муж, які ў той дзень раней часу вярнуўся дахаты...

Паступова ў Л. Геніюш выпрацавалася, як яна піша, «свая лінія, свая палітыка». «Будучыня была яшчэ пісаная віламі па вадзе, і арыентавацца на немцаў нам ніяк было нельга. Я паглядзела на іх палітыку, на варварства і адразу ж сабе падумала: «Каб не напісаць ім ні слова, як быццам яны наогул для нас не існуюць, а калі закрануць, дык праўдзіва і з цэлай душы галубіць, апяваць, лялеяць сваю Беларусь, чаго нам ніколі не дазвалялі дагэтуль каланізатары нашай зямлі». Тады ж і вырашыла яна канчаткова для сябе: «Так, знача, я цяпер буду пісаць. Усё дарагое мне забралі, панішчылі. Але ёсць тут у няволі браты мае цёмныя, нават не ведаюць добра, хто яны, самі сябе недаацэньваюць, вось я хачу аказацца для іх, але так: сэрцам да сэрца...»

У Берліне выходзіла газета «Раніца». І хоць яна была прафашысцкая, Л. Геніюш пасылае туды свае вершы — іншых выданняў, куды б можна было паслаць спробы пяра, яна не ведала. «Я хутка выбілася на першую старонку газеты, мяне палюбілі. А я, я толькі думала пра нашых людзей. Часам на каленях вымольвала ў Бога такія словы і мыслі, якія б падтрымалі ў няволі братоў маіх, не дазволілі ім забыць пра сем'і свае і сёлы. Каб рабілі іх упэўненымі ў сваіх чалавечых вартасцях, давала абразкі ім нашай гісторыі. Многа вершаў маіх палягела ў рэдактарскі кош, шмат не прапусціла цэнзура, але я іх усё пісала маім братам і часам аж плакала».

І ў Івана Пятровіча, і ў Ларысы Антонаўны не было грамадзянства. Тое, ранейшае, польскае, было страчана, новага ж ніхто не даваў, яны былі, кажучы мовай акупантаў, «штатэнлёз», што дадало новыя цяжкасці. «Жылі мы з дня на дзень, вечныя чужынцы, птушкі без гнёздаў, у якіх надзея была толькі на Бога... Да нас пачалі заходзіць дзіўныя тыпы, яны проста выразна пыталіся аб нашым настроі, лаяльнасці. Што ж, мы без грамадзянства і не просім ніякага, а немцкае нам напэўна далі б... Смешна».

У тыя дні зачасціў да Геніюшаў Іван Абрамавіч Ермачэнка. «Быў гэта лекар, які меў багатыя апартаменты ў цэнтры Прагі і абвесткі аб сваім кабінеце друкаваў ва ўсіх чэшскіх газетах. Гэта быў вельмі добра апрануты сярэдняга росту не худы чалавек,

